**У аўтарскай рэдакцыі**
**Вёрстка** Настасься Уласава, Сяргей Кандраценка
**Дызайн Сяргея Ждановіча. У афармленьні выкарыстаная фотасэрыя "Tabula Rasa"**

*Бэрлінскі гей-актывіст, які прачнуўся ў грымёрцы сельскага дома культуры, ачаравальная ўдзельніца глядыятарскіх баёў на сцэне сусьветна вядомай опэры, выпадковы ўдзельнік Вызваленчай вайны ў Бангладэш і загадкавы маньцёр Гібрыеў... Усіх гэтых пэрсанажаў абʼядноўвае толькі адно: ім карціць набіць рыла свайму аўтару! Але нічога не атрымліваецца, рукі кароткія. Візу для пераадольвання мяжы паміж літаратурай і рэчасінасьцю мае толькі ён, аўтар.*

*Таму папярэджваем па-добраму: прачытайце гэтую кнігу! Бо іначай* ***ён вас усіх таксама напіша****.*

“Макулатура” прапануе першую антылітаратурную кнігу, напісаную па-беларуску.

Аўтар выказвае падзяку Міжнароднаму дому пісьменьнікаў і перакладчыкаў (Вэнтспілс), у сьценах якога была напісаная частка гэтай кнігі.

Сьляпы хлопчык які заблукаў у вялікім горадзе, пытае дарогу ў выкінутых на бераг рыбінаў. Маленькія ногі ў чырвоных сандаліках – навобмацкі, з мыска на пятку, — натыркаюцца на крыгі асфальту. Пісклявы зьбянтэжаны галасок у гэтым гармідары – бы парастак цыбулі пад бэтоннай глыбай.

Ты наўрад ці здатны яму дапамагчы: калі сьляпы становіцца павадыром сьляпога, абодва паваляцца ў яміну – вось у гэтую, непадалёк ад паркінгу, абнесеную сымбалічнай чырвонай стужкай.

Барсэлёнскі байкер у чырвонай скуры, тым часам, прамаўляе слова “фарш”. Ён кажа яго па-каталёнску, з адмысловым пранонсам, які твайму вуху, вядома ж, не ўхапіць. Ты адкрываеш лядоўню, і бачыш, што фарш ужо сапсаваўся. Праз хвілю ён точыцца з тваіх ноздраў, і на насоўцы застаюцца характэрныя сьляды.

Выкінутыя з вады рыбіны раптам лянотна ўздымаюцца ў паветра і, штурхаючы адна адну, пакуюцца ў маршрутку №1212. Яе салён адразу запаўняе пах лускі. Іншыя пасажыры крывяцца, а вадзіла што ёсьць моцы раве: “Стоячы нельга, нельга, каму я кажу?”.

Мы маўчым, млява пасьміхаючыся адно аднаму. Дзеці ўнутры нас бавяцца непадалёк на траўцы. Малыя архітэктурныя формы, прадстаўленыя ў выглядзе саляных слупоў, асабліва прыцягваюць іх увагу. Дзеці ўнутры нас забіраюцца на самы верх і скатваюцца адтуль быццам з горкі.

Кіраваны няўцямнымі імпульсамі натоўпу, сьляпы хлопчык трапляе ў тлумны падземны пераход на праспэкце. Прыемная гладкая паперка нібы сама сабою апынаецца ў яго руцэ. Ён трымае яе бы абразок, не разумеючы, што гэта ўсяго толькі рэклямная ўлётка, якая заахвочвае набыць тэлевізар са зьніжкай у 20%. “Як ні як, крызыс!” – падумаў у гэты час на маім месцы нехта іншы.

Раптам надвор’е пачынае зьмяняцца. Моцны вецер, які дзьмуў ужо каторыя суткі, па начах усчыняючы сапраўдны шал, урэшце пакінуў наш край ды панёсься на Ўсход – валіць рускія бярозкі на амэрыканскія джыпы. На небе зьявілася сонейка – ветлае і прыдуркаватае, быццам напамаджаная абітурыентка з правінцыі.

Нібы ў шкляную колбу, сьляпы хлопчык заціснуты ў гэтую густую прастору, сатканую з гукаў і водараў. Ён адчувае, што нехта на тым баку смажыць сасіскі, а дзяўчына, якая прадае папкорн, толькі сёньня пафарбавала пазногці лакам. Хлопчык спыняецца, каб перавесьці дых. Але раптам нешта здараецца, і гэты мікс губляе апошнія рэшткі сваёй суладнасьці. Нябачны ды-джэй павялічвае колькасьць удараў у хвіліну, зьмешваючы прагнілы хаўс пазаўчорашняга “Макдональдса” з брэйк-бітам вострых абцасаў, якія вянчаюць сьпічастыя ногі. Ніхто ня танчыць, усе прыліпаюць да барнай стойкі і нудна смокчуць кактэйлі.

Сьляпы хлопчык зьбянтэжана топчацца на месцы, раз-пораз утыркаючыся носам у штаны мінакоў. Кружэлка захрасае: гэта абцас патрапіў у шчылінку паміж пруткамі каналізацыйных кратаў ля ўваходу ў мэтро.

Ты сядзіш ля манітору і безуважна глядзіш навіны. Павышэньне коштаў на лятэкс не прымусіць сэкс-шопы ўзьняць цэны. Пагаліўшы свае ногі, Марыя Негба знайшла татуіроўку, што была на ёй да рэінкарнацыі. Я наўрад ці магу яму дапамагчы: калі сьляпы становіцца павадыром сьляпога, абодва зваляцца ў яміну. Скажам, вунь тую, на скрыжаваньні, дзе ізноў рамантуюць дарогу.

Мы палім і п’ем каву ў “Цэнтральным”, абмяркоўваем пляны на лета. Дзеці ўнутры нас паміраюць ціхенька, бяз тлуму і крыку. Ранкам у гэтай больніцы можна ўбачыць паўпразрыстых верабейчыкаў, што ўзьлятаюць угару зь іх амаль што бязважкіх целаў.

Да скульптурнай кампазыцыі ў выглядзе саляных слупоў падыходзіць неахайны дзядзька з пачырванелым тварам, здымае спартыўныя порткі ды робіць сваю справу, прыкоўваючы

зацікаўленыя позіркі прысутных. Цёплы струмень прыносяць скульптуры значную шкоду. Можа, дзядзьку гэта толькі здаецца, але раптам ён чуе словы, скіраваныя яўна ў свой адрас: “Во сука некультурная, хуля ты тут сцыш? Ня мог ужо да кустоў дайсьці, да?”

Сьляпы хлопчык забіраецца ў самы цёмны куток доўгага бы стрававод падземнага перахода. Ён стаміўся настолькі, што ня можа стаяць на нагах, і таму міжволі апускаецца на брудны запляваны бэтон. Скура адчувае халадэчу. Ён нават ня плача – хутчэй, ціха скавыча, бы грудны шчанюк, пазбаўлены мамкі.

Ты праходзіш міма, бо ведаеш, што ня здатны яму дапамагчы. Калі сьляпы становіцца павадыром сьляпога, абодва ўваляцца ў яміну. Напрыклад, вось у гэты люк, накрыўку якога скраў нейкі зладзюга.

Ядзерны грыб, які пачынае расьці ў тваёй чарапной каробцы, урэшце тоне ў балоце. Рыхлая плоць непрыстойна прыцмоквае, але неўзабаве на яе паверхні ізноў усталёўваецца ціша.

У гэты самы момант амэрыканка Сэсіл Джонс знайшла ў соўсе чылі рэстарана “Wendy's” у Лас-Вегасе сапраўдны чалавечы палец. “Напэўна, мужчынскі” – з агідай падумала яна, адрыньваючы непрыемныя ўспаміны інтымнага характару.

Дзеці ўнутры нас аб’явілі крыжовы паход, адчайную ў сваім шаленстве інтыфаду. Пухнатыя ручкі трымаюць цацачныя мячы, няўмелыя крокі зусім не нагадваюць маршавы поступ, а пампэрсы не замяняюць дасьпехаў.

“З плястмасавым мячом на трактар “Беларусь” – іранізуе ў сваёй аўтарскай калёнцы вядомы культуроляг Сьвятаслаў Жэўжык.

Іх пульхныя цельцы ссыпаюцца ў агульныя яміны і заліваюцца падсоленым кіпнем. Для заўтрашняга нашага сьвята атрымаецца някепскі халадзец.

# I. Machine of dreams

## 1.

— Ну, калі не, дык не!

Высмаркнуўшыся, мужчына працягнуў сваю думку, затым яшчэ, ужо спакайней. Пярэчаньняў прараба ў гэтым гармідары нам было не разабраць. Праслухаўшы наступную частку кантаты, група людзей ізноў рушыла паўз рыштаваньні. Хада іх была бадзёрая, і пасьпяваць мне ўдавалася адно подбегам.

Ногі пакідалі выразныя сьляды на белай падлозе. Я меў досыць часу, каб вывучыць структуру падэшвы мужчыны ў даўгім паліто, аднак сям-там цэльнасьць адбіткаў была парушаная, на іх тэрыторыю нахабна ўторгваліся чужародныя абрысы, размываючы выразныя заспакойвальныя лініі, руйнуючы суладнасьць завершаных акругласьцяў і блытаючы мае думкі.

Я стараўся крочыць сьлед у сьлед. Мае красоўкі маглі ўнесьці хіба трохі ледзь прыкметнай мушынай мітрэнгі ў гэтыя раўнюткія шэрагі, пакінутыя ўпэўненымі падэшвамі. Потым час стаў крыху заядаць, а з мора патыхнула сіверам. Мае сьляды на мокрым пяску паціху размываліся – да поўнага зьнікненьня.

Акт дзяржпрыёмкі аднаго з ключавых аб’ектаў у Дзяржаўнай інвэстыцыйнай праграме нагадваў своеасаблівы іспыт, здаць які для будаўнікоў было вялікім гонарам. Але на тварах прысутных чыталася хіба спакойная ўпэўненасьць выдатнікаў. Як паведамілі журналістам непасрэдныя выканаўцы адказнай сацыяльнай місіі, працы на гэтым аб’екце ўжо ўступілі ў сваю фінальную стадыю, і будынак мае быць уведзены ў эксплюатацыю згодна з заплянаванымі тэрмінамі.

## 2.

Сьцены яшчэ шурпатыя, пэрыяд аздабленчых працаў, мяркуючы па ўсім, толькі пачаўся. Сям-там у адкрытых пакуль нішах можна ўбачыць канцы аголенага дроту, вострыя сьпіцы ды іншыя праявы забаўляльнай індустрыі, якія потым будуць схаваныя пад гладзенькім бліскучым мармурам. На балюстрадзе фае, спасярод кічавых балясінаў і стылізаваных пад арт-нуво фігураў купідончыкаў, я заўважыў адметнасьць, якая ўжо неўзабаве стане неспадзяванкай для многіх наведвальнікаў. Неспадзванкай, мабыць, ня вельмі прыемнай, але зважаючы на ўласьцівы для гэтых шыротаў брак адрэналіну...

Высокі брунэт у паліто, што ўзначальвае працэсію, раптам спыняецца, распростваецца ва ўсю даўжыню і адкідае руку назад – быццам Марат Казей, які рыхтуецца шпульнуць сваю апошнюю бронзавую гранату. Каржакаваты дзядзька вырывае колькі валасінак са зморшчынкі на ўласным твары (для гэтага спатрэбіўся пінцэт, паслужліва паднесены кімсьці з супрацоўнікаў установы), і другі зьліў чаек. Іван Пятровіч раптам пагрозьліва хмыкнуў.

У гэты самы момант па маёй куртцы прашмыгнула паліто ахоўніка, ён цягнуў за каўнер зламысьніка, злоўленага толькі што на гарачым. Патлаты маладзён з вузкім, парослым шчэцьцю тварам спрабаваў пасікаць на чальцоў дэлегацыі праз адчынены на гарышчы люк. Але паколькі служба бясьпекі працавала спраўна, хуліганская задума ня мела ніякіх шанцаў ажыцьцявіцца.

На твары хлопца відаць некалькі сьвежых гематомаў. Ён крычыць — ці нават, хутчэй, скавыча, ня столькі ад болю колькі ад інстынктыўнага страху. Ягоныя вусны варушацца – мабыць, прамаўляючы ўмольныя просьбы альбо выплёўваючы істэрычныя кавалкі алібі. Позірк скіраваны зьнізу ўверх – даецца ў знакі розьніца ў росьце паміж ім і ахоўнікам. Мужчына ў паліто, тым часам, абярнуўся да свайго суразмоўцы, паказваючы яму пальцам на гэты прадмет.

## 3.

Я бачу выраз яго твару праз прыцэл снайпэрскай вінтоўкі. У той момант, калі мой кампаньён скавыча ад болю, выкліканага жалезнай рукой ахоўніка, калі дробныя жарынкі яшчэ прыпякаюць на скуры яго галавы, а паміж учэпістымі пальцамі сэк'юрыты тырчаць пасмы даўгіх бялявых валасоў... У гэты момант акурат і было заплянавана ажыцьцяўленьне нашай даўняй задумы, пра якую, на вялікі жаль, так ніхто з чытачоў і не даведаецца.

Рэшткі пабелкі праглядаліся і на драўляных козлах, якія месьціліся ля дзьвярэй у фае. Дзьве жардзіны павінны былі ўтвараць ідэальна сымэтрычную фігуру, падобную да літары X, але ў яе адпачатную канструкцыю былі ўнесеныя пэўныя аказіянальныя карэктывы. Правая ножка крыху аддалялася ад цэнтра ўправа, што давала нязначны вугал нахілу "стальніцы" (я паставіў тут двухкосьсі, бо ня ведаю, як папраўдзе называецца гэтая частка прылады). Яна аддалялася ўправа ад цэнтра, пры гэтым пакрысе пашыраючыся ў супрацьлеглы ад назіральніка бок. "Стальніца" была ўтвораная з чатырох дошак, паміж якімі – мусіць, з прычыны іх няроўнасьці – узьніклі прагалы рознай шырыні. Першую дошку ад другой у цэнтры аддзяляла ня болей за сантымэтар, але бліжэй да левага краю адлегласьць павялічвалася прыблізна ўтрая. Другая і трэцяя былі падагнаныя адна да адной амаль ушчыльную, але адна зь іх, правейшая, была трохі карацей – прыкладна, на два сантымэтры. Што да трэцяй і чацьвёртай... Блін, няўжо вас яшчэ не задзяўбло чытаць гэтую фігню?

## 4.

Козлы маляўніча выяўлялі фактуру негабляванага дрэва, ажно закарцела прайсьціся па ім рукою, пакінуўшы на памяць сувэнір па наведваньні гэтага аб'екту. Стрэмка, што ўпілася пад пазногаць, апынулася ў цэнтры маёй увагі ня болей, чым на сэкунду, потым увага была прыкутая да балюстрады фае, дзе цяпер адбывалася галоўная дзея гэтага імправізаванага спэктаклю.

Неўзабаве агляд будоўлі працягваецца. На дзьвярах, насьпех усталяваных акурат да прыезду нашай дэлегацыі, красуе шыльда "This is the way, step inside [1]". Усе ахвотна кіруюцца гэтым заклікам. Ногі ў начышчаных да бляску пантофлях адна за адной робяць крокі ўнутар. Я міжволі адзначаю далікатны аўтаматызм гэтай сцэны.

## 5.

Праз сваю спрадвечную нядбайнасьць, я не заўважыў ці то ямінкі, ці то стосу кафляных плітак на падлозе, а можа, нават электрычнага дроту, і таму паспрабаваў на трываласьць сваю дупу. Зрэшты, ніхто не надаў гэтаму належнай увагі. Крысо чыйгосьці ваўнянага паліто шарганула па маім твары, і працэсія рушыла далей, не губляючы свайго тэмпу.

Я адказваю, што не, ня ўдзельнічаў.

У сярэдзіне вялізнага купалападобнага памяшканьня быў рыдван глыбінёй мэтраў у сто, у якім пакрысе паўставаў эмаляваны алюмініевы конус. На паверку ён здаваўся цалкам маналітным, але, прыгледзеўшыся трохі ўважлівей, можна было зразумець, што насамрэч гэты складаны агрэгат уяўляе зь сябе сукупнасьць незьлічоных дэталяў, вузлоў і кампанэнтаў, кожны зь якіх, трэба меркаваць, мае сваё дакладнае функцыянальнае прызначэньне (каструбаватасьць апошняй фразы адзначыць любы рэдактар).

Сотні працоўных шчыравалі над давядзеньнем да ладу гэтай махіны, боўтаючыся ў паветры на спушчаных аднекуль згары канатах. Часам хтосьці зь іх, ня вытрымаўшы раўнавагі,

зрыньваўся долу, але тут жа, пасьля зухаватага і непрыстойнага вокрыку брыгадзіра, вяртаўся на сваё працоўнае месца, адскокнуўшы ад нябачнай для нас падлогі быццам ад батута.

## 6.

Я нагнуўся, мімаходзь заўважыўшы на падлозе нешта падобнае да манеты або жэтону ў мэтро, але ж гэта была толькі абгортка ад цукеркі.

Агонь у пячурцы ўжо амаль згас, і мужчына, які ўзначальваў працэсію, стаў хутка матляць крысом свайго вэлюравага паліто, каб полымя ізноў разгарэлася. Зморшчыўшыся і кашлянуўшы ад смуроднага дыму, які патыхнуў яму наўпрост у твар, ён засунуў два пальцы ў рот і выцягнуў адтуль паперку, схаваную ў зусім непрыкметным нават для дантыста тайніку паміж зубоў. Але пра зьмест гэтай цыдулкі ў вечаровых выпусках тэлешоў не паведамлялася.

Збочыўшы за вугал, мы патрапілі ў прасторнае памяшканьне, дзе захоўваліся лішнія часткі гэтых істотаў. Пакуль мужчыны, згрупаваўшыся ў цеснае кола, пра нешта напаўголасу раіліліся, я асьцярожна, бачком, стараючыся ні ў якім разе не сустракацца позіркам з двухмэтровым ахоўнікам, наблізіўся да стэляжоў. Я быў упэўнены: такой магчымасьці ў мяне больш ніколі не надарыцца, таму грэбаваць ёю не выпадала.

Працэсія рушыла далей, і… Не, зрэшты, тут яшчэ варта дадаць.

Сярод лішніх частак пераважалі хвасты, хаця трапляліся таксама і ўнутраныя органы: пакрытыя дробнай сеткай капіляраў, зьмякчэлыя, з жоўтымі пісягамі, месцамі прадзіраўленыя. У спалучэньні з аляпаватай ляпнінай у фае, мармуровымі калёнамі, мажнымі жырандолямі, бліскучым адпаліраваным паркетам і маленькімі купалападобнымі качкамі (блін, а яны тут адкуль узяліся? І чаму купалападобныя?). Тэмпэратурна-вільготнасны рэжым у гэтым сховішчы яўна не захоўваўся, насуперак усім спробам запэўніць грамадзкасьць у адваротным. Сьцюдзёную раніцу асьвятліла першая за сёньня прыемная думка: зьявілася тэма для паста ў ЖЖ.

## 7.

На адваротным баку дзьвярэй з надпісам “This is a way, step inside” ужо была прымацаваная “Інструкцыя па карыстаньні”:

1. Наведвальнік можа рабіць усё, што ён захоча. Касьцюмерная знаходзіцца ў адсеку 3.

2. Увага! Рэзкая зьмена маральных каштоўнасьцяў карысная для вашага псыхічнага здароўя.

3. Зьмена мінулага не ўплывае на вашую будучыню.

4. Пасьля другога павароту вы ўсё самі ўбачыце. Галоўнае, адкіньце сорам і ўнутраныя перашкоды. Рэкамэндуем не спыняцца падоўгу ля зьвязаных дзяўчатаў з выдзертымі смочкамі (© Bondageforhell Design Studio). Рушце далей, там будзе куды цікавей.

5. У выпадку дэжа-вю наведвальнікі мусяць зьвяртацца да адміністратара.

7. У выпадку інцэсту, зьвярніцеся, калі ласка, у рэгістрацыйны пункт №4.

8. Людзям са схільнасьцю да празьмернага гвалту неабходна потым прыбраць і прадэзынфэктаваць памяшканьне.

9. У тым выпадку, калі вам хацелася б кантраляваць эманацыі ўласнай сьвядомасьці, перад пачаткам сэансу неабходна выбраць адпаведную опцыю ў галоўным мэню.

10. У выпадку зьмены пола або сэксуальнай арыентацыі, рэкамэндуем прайсьці кансультацыю па гігіене. Gay friendly адсекі знаходзяцца на ніжнім ярусе.

11. Калі гэта прырастае да вас, паспрабуйце аддзерці нажом. У выпадку пашкоджаньня сапраўднай скуры, ва ўстанове можна атрымаць першасную мэдычную дапамогу.

12. За зьмест уласнай натуры адказнасьць нясе карыстальнік.

Вы можаце папоўніць рахунак ва ўсіх аддзяленьнях “Беларусьбанку”, а таксама непасрэдна ў касавай зале. Увага! Карткі БМП-Банку часова не прымаюцца.

— Там! – раптам насупіўся ён і выпрастаў сваю мажную руку, паказваючы кірунак.

## 8.

Усе прысутныя тут жа павярнулі галовы, сьледуючы позіркам за ўказальным пальцам, які скіроўваўся кудысьці ў вышыню. Інстынктыўна падпарадкаваўшыся, я, аднак, не заўважыў анічога вартага ўвагі.

Мае вочы паціху апусьціліся долу, з запытам і цікаўнасьцю. Я схамянуўся, убачыўшы, што гэтыя людзі зьнерухомелі. У прыглушаным сьвятле лямпы, што боўталася пад самай стольлю, іх твары здаваліся падобнымі на маскі з камэдыі дэль арта. Палунаўшы ў паветры, мой позірк сканцэнтраваўся ў адной кропцы. Там, на пажоўклай скуры, паступова стала прарысоўвацца грымаса неймавернага напружаньня.

Указальны палец павадыра працэсіі ўсё яшчэ быў выпрастаны і скіраваны ў нейкі нябачны нам пункт. Тады ахоўнік падышоў да свайго боса ўшчыльную і, трохі схіліўшыся (праз свой папраўдзе “баскетбольны” рост) аблізаў ягоны пазногаць. Адразу пасьля гэтага працэсія рушыла далей. Перапыненыя толькі што размовы нязмушана аднавіліся.

З суседняга памяшканьня чуваць чыйсьці магутны храп… але не, вядома ж, гэта пакуль не да часу. CTRL-X – і апошняя фраза зьнікае, каб неўзабаве такім самым банальна-чарадзейным чынам зьявіцца ў іншым, больш прыдатным для яе сэгмэнце тэкставага файлу.

Пальцы ног утульна ўладкаваліся ў цёплых тапках, варушацца ад задавальненьня, нібы цалуючы… тут рокат стаў мацнейшым, нібыта цэлая плойма мэсэршмітаў набліжаліся да заходняй часткі Унутранага Бэрліну, каб правесьці сваю вызначальную атаку… пасьля цёплай ванны прыемна набраць нумар сяброўкі, каб пагаварыць пра пагоду… не, я хацеў напісаць, пра надвор’е. Не, не, зрэшты, я хацеў напісаць зусім пра іншае…

Тым часам, працэсія пачынае ўздым па спэцыяльна збудаванай дзеля гэтай нагоды вінтавой лесьвіцы. Працаўнікі, чые твары мільгаюць сьпярша праваруч ад нас, а потым, па меры нашага пад’ёму, ужо зь левага боку, ветла пасьміхаюцца, не адрываючыся, аднак, ад справы. Усім вядома, што аб’ект мае быць здаедзены не пазьней за пачатак красавіка, і таму будаўнічыя працы на ім трываюць не раўнуючы круглыя суткі.

Я націнаю лішнія ўнутраныя ворганы на пруток, што тырчыць зь ледзь прыкметнай дзірачкі ў падлозе.

Я заварваю кавы, чакаючы на тваю рэакцыю. Але тут працэсія раптоўна зрушваецца зь месца і працягвае хаду ў паскораным тэмпе.

Я вітаюся з кожным тваім паламаным пудзілам па чарзе.

Я адкрываю кнігу скаргаў і пажаданьняў на адвольнай старонцы і ўголас пачынаю чытаць: “Час раптам пачынае прасоўвацца больш імпэтна, вялікімі дзікімі скачкамі, нібыта прымат, якому ня церпіцца ўпаляваць свой сьняданак”. Бяру асадку і дадаю: выкладзеная ніжэй інфармацыя не адпавядае рэчаіснасьці, насамрэч, час стаў порыстым, быццам звараны нейкімі халтуршчыкамі бэтон, і калі я апранаю на правую нагу тапак, утульна ўладкоўваючы ў яго нетрах свае пальцы, якія нібыта цалуюцца… Потым нэрвова перакрэсьліваю ўласны запіс і крэмзаю новы: “Час – гэта хлусьня, я ніколі не адчуваў часу на ўласнае скуры і не задумваўся пра ягонае існаваньне, але паколькі ўжываць такое слоўца ў мастацкіх творах спрадвеку лічылася модным, штоaccess выдумляў тыя альбо іншыя вобразы і эпітэты з прэтэнзіяй на арыгінальнасьць”. А прыматы – вэгэтарыянцы.

## 9.

Між тым, мажны чалавек у паліто ўжо скончыў даваць свае інструкцыі. Зь пераможным выглядам, які нібыта ставіць апошнюю кропку ў праўдзівасьці ягоных словаў, ён дастае насоўку, і, прачысьціўшы нос, нібыта ставіць апошнюю кропку ў праўдзівасьці ягоных словаў. Вой, ёп тваю!.. Каб паставіць апошнюю кропку праўдзівасьці ў ягоных словах, ён…

Зрэшты, паколькі мяне ўжо даўно ніхто ня слухае, можна і не працягваць.

Потым працэсія падыходзіць да стэнду з рэндарамі ды чарцяжамі. Тут прахалодна, і з вуснаў мужчынаў точыцца пара. …гудзеньне мэталёвых канструкцый дзесьці высока ўгары, па-над самым дахам, становіцца яшчэ больш выразным. У самым кутку, побач са швабрамі і рыдлёўкамі для чысткі сьнегу, прытуліліся некалькі паламаных пудзілаў. Дах, здаецца, вось-вось абрынецца долу, пацьверджаньнем чаму хаця б той бляшаны квадрацік, які грымнуўся наўпрост перад маімі нагамі. Або я гэта толькі прыдумаў дзеля таго, каб хаця б нешта вартае ўвагі тут адбывалася.

Пасьля цёплай ванны прыемна патэлефанаваць сяброўцы, каб пагаварыць пра надвор’е, а потым, утульна ўладкаваўшы нагу ў цёплы тапак, адчуваць, як твае пальцы нібы цалуюцца з…

## 10.

Чалавек у будаўнічай касцы – напэўна, прараб – тут жа мне запярэчыў, актыўна жэстыкулююючы сваімі мазалістымі рукамі: хлопча, ну што ты вярзеш, устойлівасць канструкцыі прадугледжаная да дзевяці балаў паводле шкалы ўзьдзеяньня нусараў. І я разумею памылку, дапушчаную мною яшчэ ў маленстве, калі… не, зрэшты, гэта ўжо яўнае адхіленьне ад тэмы.

Прасоўваць нагу ў тапак павольна, сьпярша на правую нагу, адчуваючы, як утульна ягоныя пальцы нібы цалуюцца з… потым яны пілі ў майстэрні ў Рахава, і на працягу ўсяго вечара ён канцэнтраваў свой погляд на самым кутку ейнага зрэнка, дзе плавала нешта дугападобнае. Дзеля апісаньня гэтай невядомай нам зьявы рэчаіснасьці ён чамусьці ўжыў мэтафарычны вобраз салонага гурка.

## 11.

Дробныя крышталікі ейнага зрэнка адлюстроўвалі зіхоткія промні рознакаляровага сьвятла, але калі іх саміх разглядаць праз мікраскоп, паклаўшы на адмысловую талерачку… Адсутнасьць некаторых малекул я не заўважыла, і таму нічога па справе паясьніць не магу. Халады сёлета прыйшлі зусім нечакана, і далёка ня кожны зь месьцічаў пасьпеў своечасова абзавесьціся цёплай вопраткай – ня кажучы ўжо пра псыхалягічны эфэкт ад такой рэзкай зьмены надвор’я.

Мужчына ў паліто агучвае свае заўвагі адносна ўбачанага. Будаўнічыя працы вядуцца ў недастаткова хуткім тэмпе, да таго ж, мае месца нерытмічнае засваеньне дзяржаўных асыгнаваньняў. У гэты момант праз шчыліну ў купалападобным даху ў пакой урываецца халодны струмень. Ці ёсьць там галубы, так адразу і ня скажаш.

## 12.

Рахаў, гэты прадстаўнік старой, праверанай часам школы скульптуры, быў тым яшчэ жартаўніком. Казалі, быццам дзеля эканоміі сродкаў ён абліваў сваіх натуршчыц ільдзяной вадой, а потым выстаўляў іх у адмысловых празрыстых лядоўнях. Аднойчы, калі я піла ў яго гарбату, ён раптам хітравата пасьміхнуўся, прымружыўся і паварушыў пальцамі ног, якія,

утульна ўладкаваўшыся ў цёплых тапках, нібы цалаваліся з…

Я паправіла свае валасы, пасма якіх спадала акурат на вочы, і толькі цяпер адчула языком расколінку, што ўтварылася на маёй верхняй губе ад ранішняга ветру, які засьпеў мяне на шляху да трамвайнага прыпынку. Рахаў, тым часам, накачваў ваду ў брансбойты – як ён казаў, на ўсякі пажарны.

Наступнымі пунктамі агляду сталі службовыя памяшканьні. Мужчыны ў даўгіх паліто рушылі па мармуровай лесьвіцы, сьпярэшчанай нейкімі дагістарычнымі мацюкамі – зрэшты, нявыключана, што гэта быў усяго толькі будаўнічы бруд, прыбраць які, вядома ж, яшчэ не пасьпелі. Потым іх шлях ішоў па калідоры, асьветленым хіба некалькімі “лямпачкамі Ільіча”, што боўталіся пад стольлю на ладнай адлегласьці адна ад адной. Раз-пораз дэлегацыя абмінала амаль чорныя праймы дзьвярэй у пустэльныя пакуль памяшканьні невядомага прызначэньня.

## 13.

У адным зь іх чуўся моцны храп, потым нехта, як быццам, павярнуўся на іншы бок (ягонае тулава са стогнам перакотвалася па шурпатай паверхні) і павольна прамовіў старэчым сіплым голасам:

— Абпаленая скура гэтага хлопчыка… нібыта тузін уколаў у хвіліну… каністры, пафарбаваныя ў чырвоны колер… тады, ля возера… газ набывае форму, зь яго будуюцца абрысы новага горада, гатычныя замкі і сэцэсійныя вежы… не, я я я ня мог спыніць гэтую плынь… разьдзерці гэтыя намаляваныя аблокі локі… ціск, ціск, ціск, ціск… да поўнага спыненьня… правы ступак і яшчэ прымацаваная да яго частка галёнкі не зьніжалі сваёй актыўнасьці, вымерваючы нясьпешнай хадой брукаванку Казімежу пы… слабасьць, разьлітая ў для парфумы, яку потымя нясьпешна. І каб на гэта не накласьці вета, з вылупленымі вачыма ўпоперак магістралі Эльза задзіночваючы.

Зрэшты, усяго гэтага мы чуць, вядома, ужо не маглі, бо насычанасьць нашай праграмы не дазваляла якія-кольвечы незаплянаваныя прыпынкі.

Пацокваючы языком, мужчыны прыдзірліва аглядаюць мармуровыя парэнчы фае, потым выпрабоўваюць на трываласьць калёны балюстрады і ўрэшце адзін зь іх вырашае праверыць акустычныя ўласьцівасьці гэтага памяшканьня. Ён пяе: доўга, натужліва, непрыемным віскліявым голасам. Мне цяжка разабраць, ці гэта нейкая эстрадная песьня савецкіх часоў, ці нават арыя з опэры. Астатнія дастаюць са сваіх скураных папак лобзікі, і праз якія дзьве хвіліны справа ўжо, лічы, зробленая.

## 14.

Раптам на маім твары нешта чэшацца, пазногці міжволі знаходзяць патрэбнае месца і раструшчваюць, гной пырскае ва ўсе бакі, потым яшчэ і яшчэ. Урэшце, да майго пальца прыліпае кончык нітачкі, я пачынаю цягнуць за яго, потым яшчэ і яшчэ, капрон стаўся клейкім ад вадкасьцяў майго цела, на пальцы тонкі сьлед ад парэзу, але канца ўсё няма. Скура баліць ад трэньня.

Мужчыны пацiскаюць плячыма і рушаць далей. Іх упэўненыя крокі спараджаюць шматлікія ўсплёскі рэха, якія адгукаюцца, здаецца, нават у самых аддаленых закутках гэтага недабудаванага агрэгата. Не спыняючы хады, адзін зь іх кашляе, і нехта адразу ж хапаецца за нататнік, каб зрабіць там неабходныя пазнакі.

На пальцы тонкі сьлед ад парэзу. Баразна ўжо напоўнілася крывёю. Кропля вось-вось упадзе на падлогу.

Апошні раз гэта здарылася са мною ўпершыню менавіта ў майстэрні Рахава, а потым мы

дапілі, пакінулі гаспадара ляжаць каля лядоўні, унутры якой у ненатуральна прыгожай позе застыў чарговы твор майстра, прычым ягоны тапак, утульна ўладкаваўшыся на назе… а, і яшчэ пальцы нібы цалуючыся з… Мы выйшлі за дзьверы, ноч здавалася нейкай тандэтнай падробкай, мітусьлівыя вусны абсмоктвалі курыную ножку… Выцягні з наздры бойфрэнда трупік дзіцяці.

Лепей ужо папросту не існаваць.

Потым ударылі маразы, стала лягчэй дыхацца, калюжыны шторанак пакрываліся танюткай скарынкай ільду, а на галінках елак нібы завісьлі першыя сьняжынкі, кожная зь якіх уяўляе складаную структуру, непадуладную для сузіраньня чалавечым вокам – хіба толькі ўзброеным мікраскопам, у шкельца якога я ўзіраўся на крышталікі ейнага вока, пакладзенага папярэдне на сподачак, які я ўзяў з мыйкі на кухні, не баючыся на гнеўную рэакцыю маці, якая.

## 15.

Агледзеўшы службовыя памяшканьні, працэсія іншай дарогай вяртаецца да рыдвану — своеасаблівай сэрцавіны гмаху. Музыканты, зьнячэўку засьпетыя за перакурам, тут жа хапаюцца за свае інструмэнты, і гэта спараджае цэлы шэраг няўклюдных сцэнак. Тоўсты віялянчаліст прамахваецца міма крэсла і абрыньваецца на падлогу, зваліўшы заадно і пюпітар суседкі-скрыпачкі. Я ледзьве стрымліваю прыступ гамэрычнага рогату, але на тварах маіх спадарожнікаў нават усьмешкі не прасьлізнула. Прараб зь бізуном набліжаецца да музыкантаў, і неўзабаве пупырышкі на аголеных плячах скрыпачкі, выкліканыя далёкай ад хатняй тэпэратурай, дапаўняюцца яшчэ і чырвоным рубцом зь ірванымі краямі.

Але варта было дырыжору папераджальна ўзьняць руку з палачкай, як на тварах музыкантаў прарысавалася ўзьнёслая засяроджанасьць (для скрыпачкі гэтыя тэатральныя высілкі, відавочна, даліся нялёгка). Гул будоўлі заглушыла чароўная клясычная музыка. Мне чамусьці падумалася, што гэта ўвэрцюра з опэры Вэрдзі “Аіда”.

Я працягваю свой аповед усё далей і далей, мой голас… па меры стомленасьці і прасьцюджасьці, да яго дадаецца хрыпата, неўзабаве я ўжо не магу гаварыць гучна і зь цягам часу вымушаны перайсьці на камічны шэпт, добра вядомы ўсім нам дзякуючы савецкім камэдыям пра Віцына, Нікуліна і гэтага… Маргунова. Аднак не спыняюся, нават тады, калі ў роце зусім ужо перасохла. Я разумею, што здарыцца, варта мне толькі закрыць рот, прыпыніць гэты ідыёцкі сэанс, у чыёй бессэнсоўнасьці ніхто нават ня будзе сумнявацца. Варта мне сьціхнуць, і я апынуся твар у твар з рэчаіснасьцю, я ўбачу Ягоны твар, заўсёды сапраўдны. Што здарыцца тады з маёй самадастатковасьцю?

## 16.

Што здарыцца тады з маёй самадастатковасьцю? Таму нічога не застаецца лепшага, як працягваць гэты аповед. Хаця можаце нават не сумнявацца ў тым, што ён прыносіць мне толькі вельмі часовае і адноснае задавальненьне.

Я нагнуўся, мімаходзь заўважыўшы на падлозе нешта падобнае да манеты або жэтону ў мэтро, але ж гэта была толькі абгортка ад цукеркі. У гэты час Вахмітстраў, кружляючы, уцякаў ад куляў… Я нагнуўся, мімам ходзь… Цьфу, мля! Я нагнуўся мрамаа… Ды што гэта, маць тваю, ужо каторы раз! Я нагнуўся мімаходзь, заўважыўшы... Халера, ізноў ня там зрабіў паўзу. Я нагнуўся, мімаходзь заўважыўшы на падлозе нешта падобнае да манеты або жэтону ў мэтро, але ж гэта была толькі абгортка ад цукеркі. У гэты час Вахмітстраў, кружляючы, уцякаў ад куляў… Я нагнуўся, мімаходзь заўважыўшы... Ды ё маё, колькі можна! У гэты час Вахмістраў, уцякаючы ад куляў, набліжаўся да ратаўнічай пуні. Ягоныя перасьледнікі не вызначаліся трапнасьцю: як стралкі, абодва былі поўнымі няздарамі. Змарнаваўшы з такой блізкай адлегласьці ўжо ледзь не

па цэлай абойме, яны нават ня здолелі яго зачапіць.

Але ж Ватрухін разумеў, што спадзявацца адно на гэткую нехлямяжнасьць сваіх ворагаў не выпадала. І таму ён адважыўся на рызыкоўны манэўр.

Я баюся. Шторанак я адчуваю гэты страх. Не прыналежыць ужо сабе. Аддаць усё ў Ягоныя рукі. Я баюся, што ўсе мае машыны зламаюцца. І ў чарговы раз занурваюся ў гэтыя кіпы чужых гісторый — бы голы Адам, загортваюся ў рызьзё пустых словаў.

Вапрухін раптоўна прыпыніўся, перавёўшы цяжар на левую нагу – так, каб правая, тым часам, завісла ў паветры – і тут жа, ні сэкундай не марудзячы, грымнуўся долу. Шчака з храбусьценьнем парушыла некалькі тысяч (ці мільёнаў) мікраструктураў і ўздрыгнула ад халадэчы. На сьнезе застаўся дзіўны адбітак, які нельга зблытаць са сьледам нагі. Хаця я ведаю, з чаго, насамрэч, зробленыя гэтыя машыны задавальненьня.

## 17.

Хітрасьць была ўдалай. Перасьледнікі, палічыўшы, што яны ўрэшце пацэлілі, і цяпер іх ахвяра параненая ды бездапаможная, аднялі прыклады ад плячэй. Угрызаючыся ў сьнег, мужчыны рушылі па трафэй свайго паляваньня, спадзеючыся здабыць яго жывым. Страляніна сьціхла. У лесе ізноўку ўсталявалася цішыня, нават пачулася гіканьне куняўкі альбо лябуркі.

Вахмістраў разумеў: імгеннае замаруджваньне можа стаць для яго фатальным. Ён рэзка ўсхапіўся і некалькімі вялікімі скачкамі пераадолеў тую адлегласьць, што аддзяляла яго ад ратаўнічага яру. Перасьледнікі схамянуліся толькі тады, калі Вапрухін пасьпеў пакінуць межы сэктару абстрэлу. Кулі сьвісьцелі над галавой, куняўкі спалохана прыціхлі, але ўцякач ужо мог лічыць сябе ў адноснай бясьпецы. Раз-пораз захрасаючы ў сьнезе, Вапрухін пракладаў сабе дарогу ўздоўж верхняга краю яра. Шум перасьледу неўзабаве сьціхнуў.

Заўважыўшы на падлозе нешта падобнае да манеты або жэтону ў мэтро, але ж гэта была толькі абгортка ад цукеркі. Я хацеў быў яе адразу ж непрыкметна выкінуць, але раптам пабачыў непрыкметны надпіс ад рукі з адваротнага боку. Каб не прыцягваць увагу нікога з гэтай працэсіі, я непрыкметна скамечыў абгортку ды паклаў яе ў кішэню.

Карыстаючыся тым, што паблізу нікога не было, я асьцярожна торкнуў рычаг нейкага агрэгату, падобнага да ацалелай канцовасьці “аднарукага бандыта”. Гэтага было дастакова, каб убачыць усе багацьці сьвету ў імгеннньне часу. Распрасьцёршы пальцы, я дакрануўся да вабных пухнатых грудак, удыхнуўшы ледзь адчувальны водар добрага пляну. Потым бурбалкі лопаліся, бурбалкі лопаліся, бурбалкі лопаліся. Потым, зразумела, пачуўся ягоны сьмех.

Але раптам усё неспадзеўкі сьціхла, і я зноў апынуўся ў цямрэчы. Рычаг застаўся ў маёй руцэ, агрэгат быў назаўсёды сапсаваны. Цемра не была празрыстай і чыстай, яе незьлічоныя жэлепадобныя згусткі, бы выспачкі, насялялі каляровыя істоты, тут былі і заўсёднік гэтага клюбу Павал Карлавіч, і сантэхнік Маціцоў з двума насамі, і дзяўчына з рудымі коскамі, што ўжо неаднойчы (нібы раптоўна) траплялася мне на вуліцы, і маленькі чалавечак, чыё лядашчае тулава ўяўлялася адно дадаткам да ўпрыгожанай трыма рожкамі галавы…Аднекуль я ведаў, што ён умее балюча кусацца.

## 18.

Надпіс, які я прачытаў на цукеркавай абгортцы, знойдзенай на падлозе падчас дзяржпрыёмкі аб’екта: “Тваю галаву цяпер поўняць чужыя, фальшывыя думкі. Ты даўно ўжо ўсьвядамляеш, што цябе турбуе ня тое, што павінна было б турбаваць насамрэч. Ты прагнеш замяніць некалькі дэталяў, якія даўно заржавелі, але ня можаш знайсьці ў майстэрнях гораду адэкватных адпаведнікаў. Не напружвайся, зьеж яечню з бэконам ды ідзі спаць”.

Парада, без сумневу, была вельмі своечасовай, толькі што яек у лядоўні не аказалася. Я паволі, не без намаганьняў, перакуліўся са сьпіны на жывот ды папоўз да свайго лежбішча, што ёсьць моцы перабіраючы ўсімі лапкамі.

— Пяць… Сем… Восем… Адзінаццаць! – палічыў хтосьці гучным голасам. – Ды гэтага ж ня можа быць у прыродзе!

Я працягнуў руку, каб узяць бутлю з каламутнай вадкасьцю ды напоўніў нашыя гранёныя шклянкі.

— А ты ведаеш, мне здаецца, што тады мы памыліліся, — раптам прамовіў мой суразмоўца.

У той момант мая скура як ніколі здавалася мне сапраўднай.

# II. Чужыя гісторыі

* * *

На пачатку Вапрухін анігіляваў лаўку, што стаяла каля пад’езду. На ейнай аблупленай жоўтай паверхні, ля самага левага краю надоечы зьявілася слова “Зюзік”, выдрапанае сьцізорыкам. Знаёмая і блізкая рэч у вачах Вапрухіна была незваротна сапсаванай.

Вапрухін зьлёгку ікнуў, а потым выпусьціў праз нос газы, прыўнесеныя ў арганізм мінералкай. Жоўтая лаўка адно падкрэсьлівала тутэйшую няўтульнасьць. У ёй не было ніякага сэнсу,

Як, напрыклад, і ў нізрынутых пачварах жалезнага веку, якія будаўнікі неўзабаве спадзяваліся ўсталяваць тут у двары ў якасьці арэляў. Цяпер яны адно бязладна грувасьціліся на зямлі ў нейкім вычварэнскім парадку, немагчымасьць усьвядоміць які выклікала моцную нэрвознасьць. Вапрухін без усялякага задавальненьня выпусьціў струмень тытунёвага дыму і, ні імгненьня не вагаючыся, анігіляваў таксама і арэлі — разам з трактарам, які іх прывёз паўгадзіны таму.

Што яшчэ падалося яму непатрэбным або нават залішнім, дык гэта кантэйнэр для сьмецьця, у якім корпалася нейкая бамжыха. Ёй перад анігіляцыяй было дадзена апошняе слова, але замест таго, каб прамовіць нешта сапраўды важнае, цётка дзіка зарагатала ды зацягнула “Подмосковные вечера”.

Незразумела, чаму ўсе лепшыя матэматыкі – габрэі, падумаў Вапрухін.

Ліхтарны слуп быў анігіляваны без ніякіх маральных згрызотаў, як і выбрукаваная пліткай дарожка. Вапрухіну хаця б на хвіліну стала ўтульна, і ён упершыню за гэты дзень адчуў просты чалавечы кайф з той нагоды, што цяпер лета.

Раптам у шырокую мэмбрану яго мясарэзкі без усялякіх запрашэньняў усунуў галаву вусаты мужчына ў белай кашулі з гальштукам, і яго таксама давялося анігіляваць – прынамсі, каб не пакідаць сьведак. Мужчына чамусьці незадаволена зморшчыўся.

Вапрухін пазяхнуў і адклаў убок газэціну. Ад парадаў па вырабе хатняга квасу яму раптам стала папраўдзе млосна. Страўнік прамармытаў нешта на сваёй мове.

Вапрухін пачухаў валасатае пуза, дзе паміж зморшчыкамі ўжо пасьпеў назапасіцца духмяны пот.

Час ішоў, але нічога не адбывалася. Вапрухін стаў насьвістваць мэлёдыю “Трох чарапах”.

Вапрухін пачухаў левым тапкам правую нагу і сплюнуў на асфальт. Потым уважліва назіраў за тым, як ягоная сьліна нясьпешна рушыць у сваё падарожжа, захопліваючы ўсё новыя тэрыторыі.

Вапрухін павольна прамовіў па сябе “пяцьдзесят дзевяць, трыццаць шэсьць”, і раптам яму стала вусьцішна.

Потым, проста дзеля разнастайнасьці, Вапрухін анігіляваў жоўтае парэпанае “Рэно”, што прышвартавалася да броўкі акурат насупраць пад’езду. Сыгналізацыя нават пасьпела піпікнуць.

Дзесьці далёка прагрукаў цягнік. Сонца прыпякала ўжо нежартоўна.

Сьветлафор у гэтым месцы ўсё адно толькі замінаў. Пагатоў, ніводнай аварыі тут ня здарылася, ды і здарыцца не магло.

З адчыненага вакна на другім паверсе даносіўся бразгат талерак. Хтосьці глядзеў кулінарную перадачу, харатэрную для дзённага эфіру. Вапрухін анігіляваў матылька, што прысеў на травінку ля ягоных ног, і чамусьці закашляўся.

Вапрухін стаў прыгадваць гэтую гісторыю. Пра тое, як яна млява і спакусьліва пасьміхаецца, праводзячы сваёй роўнай ножкай па чысьцюткай прасьціне, потым адкідае назад чарнявыя

валасы, робячы выгляд, што гэта ня болей за бяскрыўдны флірт... А ён, здаецца, жыў у невялічкім прыватным дамку непадалёк ад чыгункі. І ў яго звычках было трымаць рукі за спінай, калі ён ішоў дахаты з трамвайнага прыпынку... Аднае што, Вапрухін ня мог згадаць твар ягонай старэйшай сястры. І яе рэакцыя на абразаньне таксама была даволі няўцямнай.

Вапрухін працягваў чакаць, ня зрушваючыся зь месца. Пара было ізноў глынуць мінералкі, хаця яна нагрэлася і стала брр. Вапрухін доўга варушыў сваімі тоўстымі скрыўленымі губамі.

На гадзіньніку было ўжо чатыры. Дзень блізіўся да заканчэньня. Жаданьня анігіляваць дзесяціпавярхоўку насупраць у Вапрухіна пакуль што не ўзьнікала, але менавіта да гэтага ўсё і вяло.

На распаленай дазваньня шурпатай бэтоннай прыступцы кудысьці паўзла зялёная казюрка. Бачыць на кожным кутку гэтую жыўнасьць Вапрухіну ўжо надакучыла. Асабліва зь яе мэтанакіраванасьцю.

Вапрухін падумаў, што, напэўна, у трансфарматарнай будцы жыве піянер з лобзікам. І хаця анігіляцыя гаспадарчых пабудоваў не ўваходзіла ў ягоныя пляны, але...

Вапрухін пачуў рокат дзесьці ў небе і хутка анігіляваў пасажырскі ляйнэр, які ішоў на пасадку акурат над яго галавой.

Нягледзячы на пасіўны спосаб баўленьня часу, у Вапрухіна пачалася адышка. На пракрытым шчэцьцю падбародзьдзі танчылі некалькі кропель. Пад чэзлай рабінкай, якая яшчэ пакуль заставалася неанігіляванай, ляжаў нейкі прадмет. Вапрухін падумаў, што гэта манета або жэтон у метро, але гэта была ўсяго толькі абгортка ад цукеркі.

* * *

Да мэтро мы ехалі са Званчэўскай. Ну, папросту так атрымалася, ты ж ведаеш… горад наш цесны, і раптам неспадзеўкі ўсплываюць твары, выявы якіх, здавалася б, даўно ўжо патухлі ў нетрах падсьвядомасьці, бо іх уладальнікі занялі сваё трывалае месца на запыленых старонках падручніка гісторыі твайго жыцьця. І не ў якіхсьці там настальгічных успамінах або мроях – ты ж ведаеш, не люблю я гэтай справы… А зьяўляюцца з плоці й крыві, ды яшчэ і непасрэдна перад вачыма – так, што нават зморшчынкі на бялюткай шыі ўдаецца разглядзець.

Званчэўскую я пазнаў адразу, яшчэ толькі ўскараскаўшыся на ніжнюю прыступку бітма набітага сорактрэцяга. Яна пагрозьліва навісала нада мною прыступкай вышэй. Ейнае цела, абцягнутае танюткай зялёнай сукенкай з разрэзам амаль на ўсю сьпіну, здаецца, амаль не зьмянілася, ня страціла сваёй колішняй пругкасьці. Плаўныя выгіны аточваў да болю знаёмы мне пах дэзадаранту “Олдспайс”. Яна засталася вернай сваім упадабаньням, адзначыў я.

Аўтобус нэрвова ўдрыгваў на выбоінах, і кожная зь іх выклікала сымэтрычную рэакцыю яе цела. Цягліцы то напружваліся, то ізноў расслабляліся, паясьніца лёгка варушылася нібы ў танцы, а шыя ўзбуджальна згіналася. Здавалася, быццам пад покрывам людскога тлуму Званчэўская бавіцца эратычнымі гульнямі зь нейкім партнёрам, нябачным мне з гэтай невыгоднай пазыцыі.

Дарога ў нас да Болдзікаў самі ведаеце, якая – чым далей, тым горай. І таму ў мяне складалася ўражаньне, быццам гэтыя сьпякотныя гульні пакрысе станавіліся ўсё больш інтэнсіўнымі. Мая мокрая кашуля амаль прыклеілася да дзьвярэй, пакінуўшы на шкле выпарэньні поту. Каб пачухаць сябе пад носам, давялося правесьці адмысловую спэцапэрацыю – на шчасьце, зь мінімальнымі ахвярамі сярод мірнага насельніцтва.

Калі пярэдняе кола аўтобуса патрапіла ў яміну, яна нахілілася назад, паказытаўшы мае шчокі сваімі валасамі. Я апынуўся ў гушчары танюткіх водарасьцяў, пакрытых пахуткай рудаватай хной, і вырвацца адтуль на свабоду было нялёгка – ды, зрэшты, ня надта й хацелася. Потым

знаёмы голас прамовіў будзённае “ізьвініцепажалста”, і раптам зьдзіўленае “Ой, гэта ты!”

Неабдымная цётка зь вядром парэчак, якая межавала з намі абоімі – са мною з Паўднёвага Усходу, а зь ёю… ну, мабыць, з Паўночнага Захаду, — незадаволена вылаялася, калі Званчэўская зрабіла спробу павярнуцца да мяне тварам. Яна тут жа войкнула, атрымаўшы штуршок у сьпіну, і адразу пасьля гэтага я адчуў прыемную ўзбуджанасьць: ейны смочак, чые абрысы беспасьпяхова спрабавала схаваць тонкая баваўняная тканіна, прашмыгнуў па маіх вуснах.

Яна запытала мяне пра жыцьцё і справы – бы нічога ўвогуле ня здарылася, і мы былі ўсяго толькі аднакурсьнікамі, якім собіла спаткацца праз колькі год па выпускным. Я, аднак, замарудзіў з адказам – пагатоў, вадзіла, рэзка затармазіўшы, даў мне бонус у некалькі імгненьняў.

Ня трэба было нават прымружваць павекі, каб унурыцца ў гэты дзіўны сон наяве. Перада мною ў імгненьне часу пранесьліся самыя запамінальныя хвіліны нашых спатканьняў: вось мы на ўзьбярэжнай Сьвіслачы, мая правая рука паволі прасоўваецца ўвыш па ейным сьцягне, абцягнутым напятым ядвабам, а левая шукае ў лёгкай сукенцы патрэбны лаз, і нашыя вусны ўжо вось-вось... Вядома, можна было б і далей працягваць, але шукаць розныя вынаходлівыя эпітэты мне сёньня ўжо дастала, да таго ж, ад гэтага сумнеўнага каньяку гомельскага разьліву пакрысе пачынае балець галава. Ды і заставацца падоўгу сам-насам з такой занудлівай істоцінай, як я, таксама абрыдла, лепей пайду пасплю.

— Ну, дык і як справы? – з ачмурэньня мяне вывеў ейны галасок, танюткі, быццам *(хай гэта дапіша рэдактар)*.

— Кандыцыянаваньне памяшканьняў зь вялікім гідраізалятарным модусам патрабуе вялікай цеплафузнай інэрцыі ад рызатропных матэрыялаў, зробленых з арыгінальных матэрыялаў, каб дасягнуць эфэкту спараджэньня інэрцыі на ўчастку 123/а, патрабуе выключнай канцэнтрацыі ўнутраных сіл, абвостранага пачуцьця справядлівасьці і душэўнай чуласьці, — адказаў я. – Выпарэньні газу часам здатныя прымаць абрысы, можна нават сказаць, формы, прыдатныя для сузіраньня, часам можна нават сказаць, або, хутчэй, гэта нам толькі ўяўляецца, што яны валодаюць пэўным пахам, які мае ....................................... *можаце самі дапісаць, гэты прамежак я пакінуў адмыслова для вас*. І ў дадзеным выпадку няважна, якім дэзадарантам ты ўвогуле карыстаешся… Тым болей, олдспайс – гэта, здаецца, для мужчын, тут я яўна лахануўся...

Званчэўская пасьміхаецца – спачувальна, але лагодна. Затым націскае на схаваную пад сваёй сукенкай пімпачку, і на яе прыгожай стромкай сьпіне зьяўляецца прапэлер, які расьсякае ў капусту твар цёткі зь вядром парэчак.

## *(Няўклюдныя спробы знайсьці сабе месца-1)*

Бязьлюдны шынок на ўскраіне прамысловага гарадку, ля ўзбочыны другараднай шашы, ледзь не ўсутыч аточаны ці то закінутымі, ці то недабудаванымі завадскімі карпусамі. Над уваходам – сьветлавая рэкляма безалькагольнага напою, які ў нашых краях не прадаецца. Лямпачкі, схаваныя за каляровым постэрам, даўно ўжо не мянялі, і таму яны раз-пораз гаснуць і зноў запальваюцца – без усялякай сыстэмы альбо тэмпарытму. Гаснуць — сьпярша адна, і тады яшчэ можа разгледзець малюнак, затым, і другая, і тады ўжо толькі злавесна-цьмяныя разводы, а потым ізноў запальваюцца, паглыбляючы сваім міргаценьнем і без таго нэрвозную абстаноўку.

Сьлёган рэкламы падаецца назьдзіў актуальным тут і цяпер, у чатыры гадзіны ночы: “Дзёрні

за кольца – раскрыецца Сезам". Спружыны дзьвярэй забягалаўкі, відавочна, даўно ўжо не мянялі, і калі па шашы на вялікай хуткасьці праязджае чарговы грузавік, яны самі сабою прыадчыняюцца ды клацаюць. На барнай стойцы зьвініць тэлефон – настойліва, але безвынікова, бо ўсё адно тут няма каму падняць слухаўку.

Раптам лямпачка на рэклямнай панэлі ўрэшце перагарае, яе шкляная абалонка лопаецца. Яшчэ адзін рэзкі гук паходзіць знутры памяшканьня. Але гэта толькі парыў ветру пляснуў прыадчыненай ваканіцай. На другім зьлева стале можна ўбачыць нейкі малюткі прадмет, пакінуты кімсьці зь мінулых наведвальнікаў. Ён падобны да манеты або жэтону ў мэтро, аднак насамрэч гэта проста абгортка ад цукеркі.

Калі б ты раптам патрапіў у гэты шынок на паўночнай ускраіне штата Ілінойс, у тую самую верасьнёўскую ноч, якую Інгрыд2 правяла за восем тысячаў кілямэтраў адсюль у няспынным, бадай дзіцячым румзаньні, адчуваючы сябе прагнілым знутры памідорам – бо ёй падавалася, што нічога ўжо няможна выправіць, і чалавечыя слабасьці значна магутнейшыя за моц Сьвятога Духа... І таму ёй заставалася хіба толькі чакаць, покуль закіпіць імбрык – там, у гэтай сваёй шматпавярхоўцы на ўскраіне, дзе як ніколі глыбей адчуваеш уласную абмежаванасьць, быццам поры тваёй скуры забітыя нейкім малекулярным сьмецьцем, і нават праз дотык, праз тактыльнае адчуваньне *іншага*, няможна вырвацца са стану гэтай сваёй сьлізкай бы вараная цыбуля самадастатковасьці...

Калі б ты раптам апынуўся той нічым не прыкметнай ноччу (15.11.1994) у згаданай вышэй прыдарожнай кавяраньцы, якая цудам шчэ не збанкрутавала ў няпросты эканамічны век, дык, напэўна, адчуў бы нематываваны прыступ пыхі. Прыкладам, з той прычыны, што ты маеш вышэйшую адукацыю або белы колер скуры. Як пісаў Уладыка Антоній Суражскі, д'ябал заўсёды падсоўвае нам рознае глупства, гэта для яго "почырку" характэрна.

Але прастора з васьмю плястыкавымі сталамі, расстаўленымі сымэтрычна ўздоўж вузкага праходу (хаця другі зьлева крыху парушае гэты прынцып, нагадваючы пра інцыдэнт, які адбыўся тут у мінулы аўторак), і не патрабуе нічыёй прысутнасьці. Сьвятло люмінісцэнтнай лямпы ліецца па падлозе згодна з законамі фізыкі, а вось у ненатуральна натужлівым буркаценьні старэнькай лядоўні з напоямі нейкі дасьціпны інтэлектуал убачыў бы адгалоскі закону сусьветнай энтрапіі.

Тут прастора існуе сама па сабе, без усялякага ўплыву тваёй волі. І гэтая акалічнасьць ня можа цябе не бянтэжыць.

* * *

Вапрухін ікае. Магчыма, у гэтыя моманты яму, хутчэй, выпадала бы плакаць, аднак арганізм, гэтае ягонае пухнатае тулава з чатырма складкамі па-над дзетародным органам, працятае цэнтральнай нэрвовай сыстэмай з усімі яе незьлічонымі канчаткамі і вузламі *(на вялікі жаль, аўтар меў у школе "трояк" па біялёгіі, і брак ведаў моцна абмяжоўвае яго фантазію)*, натуральным чынам абірае зусім іншую рэакцыю.

Таму Вапрухін ікае. Ягоны кадык нерытмічна ўздрыгвае, а глотка адзін за адным выдае жаласьлівыя гукі. Зьмерзлыя пальцы зачэрпваюць горстку сьнегу, і Вапрухін запіхвае яго ў рот. Але іканьне чамусьці толькі мацнее.

Вапрухін прыцiскае зьледзянелую далонь да бярвеньняў зрубу і адчувае тонкі струменьчык цяпла, які сочыцца праз мікраскапічныя шчылінкі ў сьцяне. Напэўна, там, унутры, добра пратоплена печка.

У хаце пануе той характэрны пах, які сустракаецца ў прыродзе менавіта і выключна ў старых вясковых хатах. На сьценах старыя фотаздымкі, чые колеры настолькі ненатуральныя, што

падаецца, быццам іх расфарбавалі флямастарам. Па-над ложкам – пацьвілы дыванок з кветкамі, адметны ўзор савецкага кітчу. У печцы стаіць казанок, дзе ўжо пачынаецца прыемнае булькаценьне.

На падваконьні – пажоўклая газэта, на якой сушацца яблыкі. У кутку рамы, паміж дзьвюма шыбінамі, непрыкметна атабарыўся павучок. Трохі вышэй разьвешаныя доўгія нізкі баравікоў, а ўжо пад самай стольлю застылі рыбіны, нацятыя праз вочы на леску. На стале – трохлітровы слоік, прыкладна на дзьве трацiны поўны малаком. Мусіць, яно ўжо прастаяла якіх пару гадзін – за тое сьведчаць ледзь прыкметная плеўка трохі цямнейшага колеру, што пакрывае ягоную паверхню, а таксама разводы на парожняй частцы слоіку.

За драўлянай сьценкай, у прысабачанай да хаціны пуні, Вапрухін бачыць дзяўчыну, падвешаную да столі за левыя нагу і руку. Магчыма, хтосьці назваў бы гэтую паставу падобнай да ластаўкі — хаця насамрэч яна куды больш нагадвае нейкага тарантула. На аголенай скуры заўважныя пупырышкі – усё ж, ня травень месяц... Вочы дзяўчыны завязаныя павязкай. Даўгія чорныя валасы ападаюць долу, прыкрываючы ад спазорцы самыя вабныя выгіны ейнага цела.

Хтосьці спэцыяльна перасунуў у пуню козлы, якія раней стаялі ў двары (гэта відаць па сьледзе, які ножкі пакінулі на падлозе, усеянай пілавіньнем). На козлах месьціцца старэнькі сьпіральны калярыфэр. Ягоны дыск спакваля напальваецца, мяняючы свой колер. Адзін час ён нават набывае тое самае адценьне, што і правы смочак палоньніцы, які быў клапатліва ўціснуты кімсьці паміж кратак калярыферу – так, каб зрабіць непасрэдны канктакт са сьпіральлю непазьбежным. Калі пільна прыгледзецца, можна ўбачыць звыклую ў такіх выпадках дэфармацыю мяккіх тканак; менавіта на гэткія дэталі гурманы зьвяртаюць асаблівую ўвагу.

Па меры таго, як сьпіраль чырванее, мяняецца і ўспрыняцьцё ўбачанага. Статычная сцэна спакваля набывае напружаньне, цалкам прадказальнае і падкантрольнае лёгіцы разьвіцьця падзеяў.

Трохі лявей ад цэнтра выявы ў яе ўнурваецца яўна чужародны сэгмэнт – ледзь прыкметная белая кропка. Любы прафэсіянал адразу ўцяміў бы, што гутарка вядзецца пра біты піксэль.

Вапрухін робіць яшчэ адзін крок і правальваецца ў прыцярушаную сьнегам яміну, куды гаспадары гэтай сядзібы, мяркуючы па ўсім згрузілі гнілыя яблыкі. У той самы момант за каўнер яму ўпала буйная кропля. У яго двойчы зьявілася нагода, каб мацюкнуцца.

Вапрухін пачынае ачышчаць калашыну портак ад наліплае сьлізі. Але далей усё чамусьці спыняецца.

* * *

З Алесем Карлоўскім мы пазнаёміліся ў далёкім 88-ым, калі перамены яшчэ толькі распачыналі свой павольны, але несупынны рух па беларускіх абшарах. Аднак нават і тады новыя павевы ўжо ўстрапянулі сьвядомасьць такіх шчырых маладзёнаў, як Алесь, — прасякнутых пакуль трохі савецкім, вясковым, але ўжо падуладным “апгрэйду” патрыятызмам.

Мы сядзелі ў ягоным інтэрнацкім пакойчыку і абмяркоўвалі навінкі выдавецтва “Мастацкая літаратура” – балазе, Алесеў сусед, гэты таўстун Валодзька, сын старшыні нейкага калгасу на Кармяншчыне, ужо ціхамірна хроп на сваім койкамесцы, папярэдне набраўшыся прывезенага з родных ваколіцаў самагнёту. Перапала трохі вогненнай вады і на нашыя душы, але ж мы не сьпяшаліся спаражняць бутлю, каб пасьпець уволю нагаварыцца.

Ды і тэмаў для размовы не бракавала. Для нас, юных і шчырых летуценьнікаў, зь імклівай хуткасьцю адкрываліся новыя інтэлектуальныя далягляды. Багатая мінуўшчына роднага краю распасьціралася літаральна перад нашымі нагамі, бы той чароўны дыван. Будучыня струмяніла сьвежыя павевы ветру, ад якіх захоплівала дых.

Быў цудоўны травеньскі вечар, і праз адчыненае насьцеж акно з дворыку даносіліся гамана дзятвы і пахі цьвіцення бэзу. Сонца ўжо заходзіла, на блакітным небе зьявіліся чырвоныя пасмы. Яны – гэтаксама, як і магноліі, што раскашавалі сёлета надзіва рана, — натхнялі на алегарычны лад мысьленьня. Раптам мы абодва замаўчалі – ніхто з нас ня здолеў своечасова працягнуць ланцужок гутаркі, і ён нібы захраснуў у паветры.

У суседнім пакоі пракувала гадзіньнікавая зязюля. Некалькі гукаў, якія данесьліся пасьля, былі пазбаўленыя ўсялякай жыцьцёвай матывaванасьці.

— На маю думку, шматлікія беды тут вынікаюць менавіта з антысанітарыі, якая даўно апанавала нашу сьвядомасьць і падаецца многім невылечнай, — распачаў я пасьля нядоўгай паўзы. – Наша сьвядомасьць адкрыта для ўплываў злаякаякасных бактэрый, і яны, працягваючы там свой натуральны від жыцьця, размнажаючыся і ўступаючы ў бязладныя сувязі паміж сабою, здатныя выклікаць сапраўдныя хваробы.

Блакітнае неба спараджала прыступы шаленства, хацелася засьпяваць.

— Сьнег у мяне ўнутры пакрывае шматлікія фігуры, і я рады, што ў завею не магу ўбачыць выразаў іх агідных твараў, — раптам зьмяніў я тэму гутаркі пасьля некалькіх хвілінаў задуменнага маўчаньня.

— Не хапае паглыбленасьці, раз-пораз так і хочацца націснуць пальцам на адзін з гэтых пляскатых, пазбаўленых ценю сылюэтаў, як бы прапхнуць яго далей, туды, у нетры, — распачаў я, каб парушыць няўклюдную паўзу, усталяваную колькі хвілінаў таму.

— А ведаеш…— раптам перапыніў ён маўчаньне, што літаральна на хвіліну ўсталявалася падчас нашай прыязнай бяседы. – Магчыма, мы тады і памыліліся.

Я нічога не адказаў, адно скасавурыў вока на дзіўнае брунатнае стварэньне, што паціху пасоўвалася ўздоўж загалоўку артыкула пра этнагенэз яцьвягаў, які, разам з усім нумарам газэты “ЛіМ”, служыў нам абрусам. Дробныя вусячыныя лапкі без супыну рабілі свае невялічкія крокі – неаспрэчна, зусім малазначныя для гісторыі нашага рэгіёну.

У гэты самы момант Вапрухін, прыціснуўшыся шчакою да негабляванай драўлянай паверхні, разумее, што самае горшае ўжо за сьпіной: нейкім цудам яму ўдалося ўратавацца. Мыскі ўласных ботаў, фалянгі пальцаў і асабліва чарада сьлядоў, пакінутая ім на сьнезе, цяпер чамусьці здаюцца яму агіднымі – як, зрэшты, і ўсё астатняе. Вапрухін пачынае ікаць.

Мае думкі прыпыніліся, міжвольна і бадай нечакана. Я паспрабаваў падлічыць колькасьць лапак жамярыцы: “Адна… Чатыры… шэсьць… дзевяць… Адзінаццаць?”, Ды не, гэта мусіць быць памылкай. Такое ў прыродзе немажліва.

Чамусьці складалася ўражаньне, нібы шурпатае тулава казюркі было ўтворанае з асобных колцаў, склееных паміж сабою. Праз усё цельца праходзіў чырвоны малюнак у форме дугі – так і карцела назваць яго своеасаблівым пазлам (хаця ў 1988 годзе такога слова, вядома, не магло быць у маім лексыконе).

Тулава вусяка было падвержана непазьбежнай пры руху вібрацыі – што ўзмацняла сумневы ў цэльнасьці гэтай істоты.

Ці сапраўды ёсьць нейкая этымалягічная повязь паміж словамі “цела” і “цэльнасьць”?

Здавалася, праз імгеньне тая нітка, на якую нацятыя колцы, парвецца, і яны пакацяцца па стале ў розныя бакі, а потым, нават выцершы ўвесь пыл пад паржаўленай абшчажнай батарэяй, нельга будзе сабраць ды зноў злучыць паміж сабою ўсе складнікі нашага неспадзяванага госьця.

Я ўзяў з паліцы падручнік па беларускай мове і адкрыў яго на адвольным месцы. Задача практыкаваньня: выкарыстаць пададзеныя ніжэй моўныя адзінкі для стварэньня цэльнага, сынтаксычна завершанага выказваньня. Але скласьці гэты пазл з ходу не ўдалося: словы ўпарта не хацелі станавіцца на адведзеныя ім маўленчай лёгікай месцы, словы раптоўна пачыналі распаўзацца.

На шляху, пракладзеным істотай па жоўтай газэтнай паласе, на тым месцы, дзе толькі што па паперы шкрэбалі яе лапкі, можна было ўбачыць мікраскапічныя дробныя кропачкі: дзьве побач, потым яшчэ адна, потым ізноў адна, а потым адразу тры.

— Ну, калі не, дык не, — адказаў я, напаўняючы нашы гранёныя шклянкі.

Прыадчыненая фрамуга акна раптам з грукатам пляснулася аб сьцяну, адзначыўшы гэтым гукам уварваньне ў наш утульны мікракосмас нейкага іншароднага прадмету. Шкло паволі ...... *(выберыце і ўстаўце патрэбную паводле сынтаксычнай лёгікі часьціну мовы з прыведзеных ніжэй)* сеткаю расколінаў, а потым нясьпешна стала апускацца на падлогу, літаральна на нашых вачах пераўтвараючыся ў дзясяткі драбнюткіх аскепкаў.

Але ўся ўвага цяпер была прыкутая, уласна, да таго іншароднага прадмету, які раптам уварваўся ў наш утульны мікракосмас. Кожны з нас адразу зразумеў: гэта ні што іншае, як купалападобная качка.

## Робэрт Блёўджобс-малодшы. *Практычны дапаможнік па мэнтальным самазадавальненьні*. Кошт 16.99 у мяккай вокладцы.

Калі адным цудоўным ранкам вы прачнуліся і адразу зразумелі, што вам няма чаго тут рабіць, калі вашых жыцьцёвых матывацыяў ня хопіць нават на тое, каб дапаўсьці да лазенкі, пачысьціць зубы ды раструшчыць пазногцямі прышчык на носе, не адчайвацеся. Доктар ведае, чым вам можна дапамагчы. Дакладна кіруйцеся прыведзенымі намі парадамі – і ўжо падчас другога сэансу вы дасягнеце пэўнага плёну.

Такім чынам… Падумайце пра сваё месца ў актуальным мастацкім дыскурсе (калектыве фэрмы, арніталёгіі, стральбе з лука і г.д.); хвіліны праз дзьве ваша думка павінна крыху зацьвярдзець. Калі ж не, працягвайце пяшчотна і нясьпешна ўсьведамляць, наколькі значны ваш даробак у абранай галіне. Важную ролю тут адыгрывае фантазія. Уявіце, як вы сядзіце зь Мішэлем Уэльбэкам на тэрасе невялічкага парыскага рэстаранчыка, і раптам ён ляпае вас па плячы і кажа: “Ну, Вася Пупкін, ты раскрыў мне вочы, і цяпер я разумею, наколькі бязьлітасным сапраўдны пісьменьнік мусіць быць да сябе самога”.

Калі ваша фантазія запатрабуе разнастайнасьці, можаце ўнурыцца ў мэтафізычны, анталягічны, касьмічны аспэкт сваёй дзейнасьці. Калі ж і гэта ўжо перастане вас узбуджаць, уявіце сабе непрызнаным геніем, адрынутым чалавецтвам. Галоўнае цяпер – не спыняць рухаў пальцаў. У тым выпадку, калі задуманае атрымаецца на славу, вам гарантавана пару імгненьняў самаўпэўненай радасьці. Дажыць да вечара ў такім разе будзе значна прасьцей. Калі ж не – паўтарыце практыкаваньне. А раптам пашчасьціць?

* * *

Летняя раніца ў невялічкім гарадку памерам прыкладна з Чавусы або Бягомлю. Хатняй гаспадаркі ніхто зь яго жыхароў ня мае, і таму ў якасьці “пеўня” даводзіцца выступаць камару, які ў тваёй напоўненай перасьпелымі, ужо “ранішнімі” відзежамі сьвядомасьці пераўтвараецца ў істоту, бадай “міфалягічную”.

Ня могучы ўмомант адрынуць іх як “несапраўдныя”, ты пачынаеш варушыцца пад коўдрай. Сонца ўжо прыпякае, і валаскі на скуры пакрываюцца мікраскапічнымі кропелькамі ранішняе “расы”. Тым часам, расплюшчанае вока даткліва “вывучае” фактуру ільняной прасьціны, на

якой, калі прыгледзецца, можна ўбачыць незмывальныя “сьляды” былых наведвальнікаў гэтага гатэлю.

Акно прыадчыненае, і хоцькі-няхоцькі ты становішся сьведкам ранішняга местачковага жыцьця, якое віруе ўжо напоўніцу. Мужчына цягне ўздоўж ходніка ровар, гучна крычыць нейкаму свайму “знаёмцу”, сустрэтаму на вуліцы. Ты чуеш толькі дзіўны выраз “авой-хуёй”. Зразумела, што “рыбалка”, зь якой вяртаецца дзядзька, была для яго ўдалай, нават не зважаючы на “ўлоў”.

На нейкі момант, але зусім ненадоўга, гэты “эпізод” прыцягвае маю ўвагу. Я міжволі задумваюся пра тое, наколькі ўзровень гарадзкога жыцьця адпавядае тут ім пры дадзеных соцыякультурных варунках навошта, і як іх параўноўваць. Потым мае думкі набываюць звыклы ход, і я ізноў вырашаю “задачку”: колькі “жарэ” джып “Хітачы”, калі “Нісан” з аб’ёмам 2.0 на сотню “бярэ” толькі восем з паловай літраў.

Тым часам, раніца няўхільна працягваецца. З цэнтральнай плошчы даносяцца гукі музыкі. Відаць, там адбываецца “нейкае” мясцовае “сьвята”, думаеш ты. Тым часам, мужык на ровары ўжо скончыў сваю гучную і бязладную гамонку і “разьвітаўся” з суразмоўцам, запрасіўшы яго “на юшку”. Потым ты чуеш шорганьне колаў аб асфальт, і яно спакваля аддаляецца. Ты прыслухоўваешся, намагаючыся распазнаць яго ў “сымфоніі” іншых гукаў, і часам нават здаецца, што гэта атрымліваецца.

Ты працягваеш “услухоўвацца” нават тады, калі роў матору грузавой машыны дашчэнту “заглушыў” гэтую “далікатную” крыніцу гуку.

Потым у дзяўчыны, што праходзіла акурат пад “тваімі” вокнамі, раптам “устрапянуўся” мабільнік. Мэлёдыі састарэлага “шлягеру” наступствуе імпэтная гамана з калярытным “пранонсам”.

Я “адторгваю” коўдру і павольна ссоўваю нагу з канапы. Позірк на якое імгненьне “раптам” спыняецца на чырвонай “кропачцы” прышчыку, заўважанага мною ў гэтых “сонечных” промнях на ўласнай лытцы. Потым, трохі “пачухаўшы” яе сваімі даўно ня стрыжанымі “пазногцямі”, я ўрэшце апынаюся на “цьвёрдай зямлі”.

“Намацаўшы” тапкі, рушу да “прыбіральні”. “Сьвядомасьць” у гэты “час” актыўна “фармуе” новы маршрут “падарожжа” па “Італіі”, ставячы перад “сабой” пытаньні, дзе можна знайсьці бясплатную прыбіральню ў “Вэнэцыі”. Такія “думкі” выкрышталізоўваюцца ў “нешчасьлівага” неўладальніка шэнгенскай візы зусім “нязмушана”, напаўняючы гэты наскрозь “айчынны” “ранак” непазбыўнай “тугою” па “новых” “даляглядах”. Толькі “фізыялягічныя” “задавальненьні” “здатныя” прынесьці “доўгачаканую”, хай і вельмі “часовую, “палёгку”.

“Жоўты” “струмень”, які “імкліва” “праносіўся” па “сьценцы” “унітазу”, “здаваўся” “неаспрэчным” “аргумэнтам” у “праўдзівасьці” “навакольнага сьвету”. “Уласнае” “існаваньне” “неспадзеўкі” “стала” “неабвержным” “фактам”.Потымсловысталізьліпаццапаміжсабоюбыразмарожаныяпяльменівантробынаросхрыст

# III. BDSM

Адэля выкараскалася з вагону мэтро роўна а палове на пятую. Сэнсарная памяць узнавіла пах, які сыходзіў з рота няголенага дзядка ў дзівосным лапсердаку. Фалянгі пальцаў працягвалі адчуваць халадэчу жалезных парэнчаў. У роце чамусьці быў такі прысмак, нібы хвіліну таму яна іх утрапёна лізала.

Едучы на эскалятары, Адэля ўбачыла рэкляму новага касмэтычнага салёну. Потым на ўсяляк выпадак зьняла заплечнік і спраўдзіла, што ляптоп на месцы. Зірнуўшы ўніз, яна пабачыла пасму бруду на калашыне сваіх джынсаў. На шчасьце, набытыя ўчора чорныя боцікі на маленькім абцасе засталіся чысьцюткімі. Кінуты на іх позірк стаў лёгкай ін’екцыяй задавальненьня і самаўпэўненасьці.

Да прызначанага часу заставалася яшчэ палова гадзіны. Значыць, можна было не сьпяшацца. Наўпрост над тварам Адэлі высіўся пляцак з надпісам “Just a part of the human 3”. Цікава, што ляжыць у гэтым пляцаку? – падумалася ёй.

Калі Адэля ўзьнялася на зямную паверхню, ёй здалося, быццам паветра стала клейкім і вільготным. Быццам ягоныя павевы наліпалі на ейную скуру, атачалі і падступна выкарыстоўвалі ўсе прадугледжаныя прыродай складкі і выгіны. У гэтым месцы цясьніны трэба было рухацца ахайна, пераступаючы басымі нагамі праз бэтонавыя блёкі закінутай электрастанцыі. Сонца ўжо заходзіла, пакідаючы на паверхні мора інтрыгоўны бляск. Навокал нікога не было. Цёплая шурпатая матэрыя лагодна дакраналася да ейных ступакоў.

Якісьці бээрэсэмаўскага выгляду маладзён зачапіў яе сваім дыпляматам, прабягаючы міма. Адэля нязлосна выялася.

Гопнікі, якія дыхалі півам у патыліцу Адэлі, абмяркоўвалі свае апошнія сабспэйсы, атрыманыя ў кампаніі нейкіх нафарбаваных і брыдкаслоўных цёлак.

Барэльеф, які ўпрыгожваў уваход у станцыю, ужо пачынаў асыпацца, постаці медзяных герояў даўно пазелянелі. Рука сьціскала вінтоўку. Адзін з пальцаў на ёй адсутнічаў. На мангалоідным твары жаўнера, які звысоку ахопліваў позіркам тлум ніжніх сфэраў, чыталася яўная туга.

Ля выйсьця з падземнага пераходу ў натоўпе ўтварыўся затор. Пару хлопцаў цягнулі бутафорскую труну, і раптам ейнае вечка зрушылася зь месца і паваліласа на асфальт. Мінакі былі незадаволеныя вымушанай затрымкай рытму.

Ззаду прыцiскала нейкая ўзброеная рулёнам шпалераў бізнэс-вумэн — або, дакладней, дзелавая цётка. Падчас аднаго зь яе паступальных рухаў змакрэлы ад поту Адэляў смочак пяшчотна прыціснуўся да майкі і шарганууў уніз-уверх.

За тыя пятнаццаць хвілінаў, якія Адэля правяла ў нетрах зямлі, на вуліцы ўжо пасьпела сьцямнець. Асьвятленьне пакуль не ўключылі. Гэта былі самыя цікавыя хвіліны жыцьця горада – час, калі яго краявіды станавіліся дэкарацыямі для нейкай фантасмагарычнай дзеі. Але ейныя магчымыя героі зусім не скарыстоўвалі з такіх выгодаў. Дзея навокал нагадвала здымкі рэкламы курынага булёну. Яўна не хапала саспэнсу.

Адэля без ваганьняў нацягнула гэты прадмет сабе на галаву.

Быў лістапад. На вуліцы пахла шапікам “Хутка-смачна”. Кошт барэлю нафты сёньня перасягнуў адзнаку 1987 года.

Адэля машынальным жэстам выкінула ў сьметніцу ладны камяк рэклямных фляераў, які назьбіраўся ў яе далоні на адлегласьці ад станцыі мэтро да рога вуліцы. У нейкае імгненьне яна раптам усё яшчэ ішла басанож па бязьлюднай цясьніне.

Ля унівэрсаму да яе зьвярнуўся нейкі дзядзька з банальнаю прапановай, але Адэля зрабіла

выгляд, што валодае толькі азбукай глуханямых.

Збочыўшы на ціхую вулачку, Адэля ўзіралася ў нумары дамоў, каб не прапусьціць патрэбную адрэсу. Ёй аказаўся тыповы для яе гораду адміністрацыйны будынак зь няўцямнай шыльдай “Мінгарбарбан”. Праз брудныя шкляныя дзьверы з фае трапляла шызаватае сьвятло. Выдыхнуўшы, можна было ўбачыць перад сабою слуп вільготнай пары. Са сьметніцы ля самых дзьвярэй тырчэў кавалак шлянгу ад супрацьгазу ўзору 1939 года.

Крыху патоўпіўшыся на ганку і хутка спраўдзіўшы ў люстэрку макіяж, Адэля пацягнула на сябе жалезную ручку дзьвярэй. Вахтор у сваёй каморцы па самыя вушы занурыўся ў апошні нумар “камсамокі”, таму паведамляць яму пра мэту візыту было выключна фармальнай велівасьцю.

Боты Адэлі мякка датыкаліся да парудзелага ўжо лінолеўму калідору. Вульгарныя ружы чамусьці вельмі добра дапасоўваліся да навакольнае цішы. Дзяўчыне здавалася, што гэтая ціш мае водар... не, хутчэй, нават смак, які можна адчуць, высунуўшы язык. Быццам прыгарэлая аўсянка — не зусім прыемна, але ў нечым міла. Міма вокнаў праехаў тралейбус, і бруднаватыя шыбы пераламілі сьвятло ягоных фар. Адна з фрамугаў акна была адчыненая. У гэтым месцы промні траплялі ў сапраўдную пастку, спараджаючы дзівосную сукупнасьць адлюстраваньняў. Адэля на імгненьне спынілася, каб палюбавацца тым бяскрыўдным узорам тыражаваньня рэальнасьці.

Габінэт №87 быў акурат насупраць. Са шчыліны ў дзьвярах бруіўся струменьчык сьвятла. Пабачыўшы Адэлю, барадаты мужчына, які сядзеў за сталом, хуценька згарнуў кампутарны пасьянс – як быццам, ён займаўся чымсьці недазволеным.

Праз палову гадзіны, калі Адэля, асьцярожна зачыніўшы за сабою дзьверы, ізноў апынулася перад тым самым вакном у калідоры, сьветлавая гульня была яшчэ больш дынамічнай. Па вуліцы адна за адной рушылі машыны, і калі яны праміналі Т-падобнае скрыжаваньне, сьцены калідору, завешаныя нейкімі ідэалягічна састарэлымі плякатамі па грамадзянскай абароне, ажыўляліся даўгімі ценямі. У насамрэчным існаваньні прадметаў, якія іх пакідалі, Адэля ў гэты момант моцна сумнявалася.

Дзяўчына зірнула на гадзіньнік і засьпяшалася да выйсьця. Пад самым пупком у яе трохі пякло – мабыць, скура ў тым месцы была ладна сьцёртая. Ейныя абцасы з глухім хрыпеньнем угрызаліся ў лінолеўм. Сьвятло ў калідоры ўжо было прыглушаным, і гэта сьведчыла пра тое, што нарматыўны працоўны дзень скончыўся.

Адэля рэфлекторна ўздрыгнула, калі ў адчыненую фортку, што бязладна боўталася дзесьці на ейным шляху, раптам уварваўся вецер.

Халадэча заўсёды ўяўлялася ёй трохі іншай.

— Алё, ну прывітаньне! – не зусім шчыра выказала яна сваё задавальненьне з той нагоды, што мабільнік у кішэні курткі раптам забіўся ў канвульсіях.

Званок быў трохі не па адрэсе, але Адэля ня стала тлумачыць сяброўцы, што тая памылілася нумарам. Замест гэтага, куды прасьцей было агучыць набор фразаў, які ў іхнім унівэрсытэцкім падручніку па замежнай мове зьмяшчала практыкаваньне №57.

Выйшаўшы на вуліцу, Адэля рушыла паўз прыпынак. Ейнае прасоўваньне наперад аказалася даволі праблематычным. У маналітным, на першы погляд, натоўпе пасажыраў віраваў броўнаўскі рух. Офісны плянктон, які пятнаццаць хвілінаў таму адчапіўся ад сваіх скалаў, разгублена матляўся ўзад-уперад, ня ведаючы, што рабіць зь неспадзеўнай свабодай.

Ледзь ня зьбітая з ног хлопцам у па-вясковаму глямурным паліто, Адэля рынулася ў пошуках ратунку да шэрага мура нейкага НДІ, які цяпер быў пераўтвораны ў вулей розных фірмачак. Прыльнуўшы да бэтону амаль ушчыльную, можна было перадолець жывую перашкоду. Увесь гэты час Адэлю не пакідала цьмянае пачуцьцё віны.

На скрыжаваньні ейнае вока без асаблівага на тое жаданьня ўхапіла новы бігборд з чарговым узорам сацыяльнага крэатыву: “Калі ў адносінах ваніль – твае адвагу і гонар пакрыла гніль”.

Ногі ўжо пасьпелі прамокнуць, і цяпер самым лепшым было схавацца ў якойсьці цёплай кляацы. Пасьля нядаўніх падзеяў кубак эспрэса быў цалкам да месца. Таксама вельмі хацелася чагосьці салодкага. На шчасьце, у кавяраньцы, чыя шыльда зіхацела акурат леваруч ад Адэлі, аказалася ня надта шматлюдна. За барнай стойкай стаяў дэмакратычна апрануты фацэт з завушніцай у носе.

Апынуўшыся ізноў на вуліцы, Адэля перш-наперш адшукала ў кайстрачцы жуйку. Яна ведала, што пах з роту такім банальным чынам ужо не суняць, але... Зрэшты, многіх ён нават узбуджае.

Потым яна зрабіла свой здымак на мабільны тэлефон – у цемры ён быў куды больш функцыянальны за люстэрка. Па-над верхняй губкай засталася тонкая палоска адпаведнага колеру. Выцершы яе вільготнай сурвэткай, Адэля заўважыла і яшчэ адзін непажаданы сьлед: плямку ад ванітаў на куртцы.

У якасьці суцяшэньня, яна падумала, што сабспэйс пятай катэгорыі даводзіцца перажыць ня кожнаму. Але тут жа паўшчувала сябе за такую суб’ектыўнасьць ацэнак: думаць пра пятую ў дадзеным выпадку было, прынамсі, празьмерным. У калюжыне, куды Адэля акурат толькі што неспадзеўкі наступіла, сярод некалькіх рамантычных кляновых лісткоў і пачака ад “Winston Lights”, узвышалася азызлае цельца мёртвага кацяняня.

Падыйшоўшы да латку з садавінай, Адэля працягнула руку, каб узяць яблык, але ж гэта была толькі *вонкавая форма*.

На прыпынку не было ні душы. Калі “Ікарус” прышвартаваўся да броўкі, не выпадала сумнявацца ў тым, што ён едзе ў парк.

— Вам куды? – запытаў яе кіроўца. Але Адэля моўчкі працягнула яму купюру, а потым узяла квіток.

Яна думала заняць сваё ўлюбёнае месца наперадзе, адкуль добра праглядалася вечаровая шаша, але ж чамусьці пасунулася ў сярэдзіну пустога салёну. Ацяпленьне не было ўключана. Адэля ўціснулася ў рыпучае крэсла і схавала далоні ў рукавах.

Тканіна, якая абцягвала сьпінку крэсла, мела крацістую фактуру. Нібыта аркуш са школьнага сшытку. Або сьцяна з кавалачкаў цукру. Або арэна фіналу міжнароднага чэмпіянату гульні ў “крыжыкі-нулікі”. Дзе ні дзе на тканіне праглядаліся дробныя плямкі, падобныя да сьлядоў якіхсьці невядомых навуцы інсэктаў. Хвіліну ці дзьве Адэля выразна адчувала сябе адной зь іх.

Адэля ўзіралася ў вакно, няўважліва націскаючы пімпачкі мабільніка. Потым ізноў праааналізавала сваю новую фрызуру і знайшла сьвежыя аргумэнты на яе карысьць.

У яе было прадчуваньне хуткай прасьцюджанасьці. Здавалася, што цела вось-вось страціць сваю гнуткасьць, зацьвярдзее – нібы ў той казачнай гераіні, імя якой Адэля ня памятала. Яна зьлёгку патрэсла галавой, каб выкінуць адтуль гэтую фобію.

Адэля прыціснулася ілбом да шыбы. Але шкло было халодным і вільготным, і тады яна падсунула пад свой лоб фіранку. Здавалася, быццам іх шлях ішоў праз горад ценяў.

Аўтобус абыякава прамінуў пустэльны прыпынак на нейкай цёмнай вулачцы. Пад бляшаным казырком, на які ліўся халодны дождж, хаваўся самотны вандроўнік у спартыўных портках і скуранцы, падобны да Рабінзона. Адэлі закарцела памахаць яму ручкай, але гэты жэст быў бы дакладна ўспрыняты як кпіны.

Адэля падключыла да мозгу два драточкі і знайшла ў мэню плэера альбом Леанарда Коэна. Прамоклыя ногі маглі ў любы момант пераўтварыцца ў ледзякі. Калі яна перакрочыла гэты парог, у яе была дзіўная ўпэўненасьць ва ўласнай самадастатковасьці.

Галава трохі балела, да таго ж, драпіна над пупком, змазаная “зялёнкай”, адчувалася пры кожным найдрабнейшым руху. Адэля спрабавала ўспрымаць неспадзеўны экскурс ва ўласную

цялеснасьць з належнай пакорай, але, як заўсёды, не давала гэтаму рады.

Аўтобус пакінуў ззаду апошнія шматпавярхоўкі ўскраінных мікрараёнаў і выехаў на шашу. Фары сустрэчных машынаў, што несьліся на шалёнай хуткасьці, праціналі яго наскрозь. Заплюшчыўшы на хвілінку вочы, Адэля ўбачыла, як паветраны зьмей, падхоплены ветрам, узьняўся па-над зялёнымі ўзгоркамі.

Кіроўца ўрубіў радыё. Адэля пачувалася так, быццам да іспыту засталося ўсяго паўгадзіны, а яна не пасьпела падрыхтаваць яшчэ добрую палову пытаньняў. Потым іспыт трансфармаваўся ў нейкую дзіўную мэдкамісію: магчыма, менавіта на такіх радах надаюць права называцца самавітым словам “чалавек”?

Адэлі чамусьці вельмі захацелася патрапіць у “Макдональдс”: тлум, дзіцячыя балёнікі, пах печанай ежы...

Па тым баку шыбы сьлізнула кропля. Бы зьбіты бамбавік, яна паволі апускалася долу, абіраючы надзвычай пакручастую траекторыю і марна сілячыся парушыць закон зямнога прыцягненьня.

Адэля адказала на званок. Ейны голас чамусьці не здаваўся ёй уласным.

Аўтобус раптам збочыў на нейкую вузенькую “дачную” дарогу, зусім пустую ў такі несэзонны час. Кіроўца заглушыў матор, выключыў фары і скіраваўся да адзінай пасажыркі, на хаду расшпільваючы гузікі джынсаў. У ягонай правай руцэ быў пакунак зь лягатыпам сеткі супэрмаркетаў, з-пад цэляфану пачулася пагрукваньне. Адэля адразу адзначыла, што сплаў быў яўна ня з самых дарагіх.

Праз якіх дваццаць хвілін кіроўца ўжо разьвярнуў аўтобус і, выціскаючы зь яго матору ўсё, на што той быў здатны, ірвануў назад на шашу. Графік усур’ёз падціскаў.

*Ты, душа мая, манілася збудаваць сабе вежу і заснаваць крэпасьць для тваіх грэшных жаданьняў...*4

Дождж лупіў ужо не абы-як. Адэля раптам згадала, што не зачыніла вакно на гаўбцы. Значыць, па вяртаньні яе ізноў чакае калюжына на дыване.

*...калі б Творца не зьмяшаў усе твае намеры і не разьбіў, кінуўшы вобзем, задумы твае.*

Адэля ад няма чаго рабіць углядалася ў лысую патыліцу кіроўцы. Рытм яго дыханьня, прыкметна парушаны яшчэ пару хвілін таму, паступова нармалізаваўся.

Адэля ізноў уключыла музыку, замяніўшы Коэна на Мэрліна Мэнсана. Але пасьля першых жа гукаў скрывілася і з усяе моцы націснула вялікім пальцам клявішу “стоп”. Кісьць правай рукі ўсё яшчэ адчувала стому, хаця Адэля гэтым разам старалася асабліва не высільвацца.

— На сьвет мы прыходзім таксама мокрымі, — чамусьці падумалася ёй.

Аўтобус зь дзікім вуркатаньнем абганяў фуру з польскімі нумарамі. На якія пару імгненьняў твар Адэлі апынуўся ўпоравень з засяроджанай вусатай пысай дальнабойшчыка. Яго аголеная постаць выпраменьвала адвагу: нібыта ён быў карсарам, які кінуў выклік лёсу і паплыў супраць ветру. Па іголках, што тырчэлі са скуры, поўзалі дробныя водбліскі.

На падлозе пад Адэліным крэслам валялася ссохлае цельца мухі.

Аэрапорт у гэты вечаровы час здаваўся даўно закінутым. На эдектронным таблё ў паўцёмнай і халоднай залі быў пазначаны толькі адзін рэйс. Да пачатку рэгістрацыі заставалася яшчэ хвілін дваццаць. Адэля доўга шукала па кішэнях дробязь, каб набыць сабе кавы ў аўтамаце, а потым дастала з заплечніка ноўт. Самы час быў скарыстацца зь бясплатнага Wi-Fi.

Апрача Адэлі, гэтым рэйсам ляцела адно пажылая дама, якую, мяркуючы паводле ейнай зьнешнасьці, хутчэй, выпадала называць фраў. У чаканьні рэгістрацыі, яна пляла бізун са скураных нітачак. Пакуль загружаўся “Windows”, Адэля ўпотайкі назірала за ейнымі мэтадычнымі ахайнымі рухамі.

Без асаблівага энтузыязму, Адэля адкрыла ЖЖ, адкамэнтавала пост пра выкарыстаньне

сабачага электраашыйніку, потым пацікавілася сваім рэйтынгам на ўнівэрсытэцкім конкурсе цыцак. Аднагрупніца з Калінкавічаў апярэджвала яе на цэлых 8%.

“Змаганьне?” – падумала яна раптам праз якую хвіліну.

“Як разьюшаны бык...” – пранеслася потым у яе галаве. Або, можа, як статак сьвіней, што лятуць з кручы ў мора?

Тым часам, ужо абвясьцілі пасадку. У каморцы, дзе адбываўся асабісты дагляд, акурат здымалі нейкі порнафільм, і таму памежнікі асабліва не выкарыстоўвалі ў дачыненьні да яе сваё службовае становішча. Адказ на дзяжурнае пытаньне “Над кім вы дамінуеце?” быў ёю загадзя добра прадуманы, і гэтым разам ён ня стаў прычынай для дачэпак. Калі Адэля без запінкі назвала пяць прозьвішчаў і адрэсаў, яе ветліва перапынілі.

Адэля ўважліва разглядала боты на нагах у якогасьці лейтэнанта. Ёй падабаліся доўгія мыскі, хаця цяпер іх усе чамусьці лічылі мавэтонам. Атрымаўшы пашпарт і прамовіўшы казённае “спасіба”, яна нясьпешна зрабіла першыя крокі па нічыйнай тэрыторыі.

Потым Адэля нейкі час узіралася ў вакно. На ўзьлётнай паласе гарэлі рэдкія агеньчыкі, утвараючы адмысловы парадак. Непасрэдна ля выхаду з тэрміналу назьбіралася купка пажоўклага лісьця. Міма правуркатаў дзіўнаваты агрэгат з вострым носам. Праз імгненьне Адэля дастала яе з кішэні, і, трохі павагаўшыся, выкінула ў сьметніцу.

Адэля злавіла сябе на думцы, што яна ня ведае, куды прышчапіць гэты момант, ён быў нейкім бастардам, адлучаным ад усяго астатняга – ад усёй сукупнасьці яе ўяўленьняў пра жыцьцё.

*Разгарэўшыся гневам за беззаконьні іх, Госпад паслаў агонь зь неба і спаліў Садом. Ты ж, душа мая, распаліла агонь Геены, у якім сама згарыш.*

— І якім сьмярдзючым будзе гэты агонь, — яе вусны ледзь зварухнуліся.

Думкі пра вячэру, якая ўваходзіла ў праграму палёту, выклікалі доўгачаканы прыліў станоўчых эмоцый. Вельмі хацелася какавы, і яшчэ печыва, намазанага маслам. Чамусьці згадаўся той піянэрлягер пад Баранавічамі: зялёная трава, вытаптаная аматарамі футболу са старэйшага атраду, пах прыгарэлага малака ў сталоўцы, рызыкоўныя спэцапэрацыі зь цюбікам зубной пасты ў руках.

Пару крокаў па асфальце – і яна раптам правалілася ў непрыкметную выбоіну, поўную гразі. З даху зацурчэў струменьчык вады – акурат за каўнер. Адэля войкнула і раптам засьмяялася – нечакана нават для сябе самой.

Перад тым, як прывязаць яе да жалезнага крука, прадбачліва ўмантаванага ў столь, мужчына ветліва прапанаваў гарбату. Адэля ведала, што этыка прадугледжвае наладжваньне вэрбальнага кантакту паміж партнэрамі. Але замест гэтых пустых балбатаньняў, яна палічыла б за лепшае пачытаць канспэкт па замежнай літаратуры. Не хацелася губляць час надарэмна.

На правым запясьці пасак быў зацягнуты надта туга. Аголеная сьпіна ледзь не дакраналася да абіўкі крэслаў – столь у самалёце зусім нізенькая. Адэля трохі павярнула галаву, каб убачыць салён у нязвыклым ракурсе. Яе валасы, што здаваліся цяпер сьвінцова цяжкімі, сталі імкліва перамяшчацца ў паветры. Пасак яшчэ глыбей урэзаўся ў скуру.

Хвілін праз сорак сьцюард пайшоў у прыбіральню змываць Адэляў залаты дождж (кроплі запэцкалі ягоную форму; адна зь іх нібы застыла наўпрост на бутафорскім пагоне). Адэля, нарэшце, магла прыльнуць да ілюмінатару. Там былі цёмныя аблокі, а ўнізе агні нейкага гораду. Роў самалёту ўжо даўно перацёк у мернае гудзеньне.

*Нячыстыя думкі падказваюць розуму майму салодкія рэчы. Але як толькі пакаштую іх, дык знаходжу поўнымі горычы.*

У роце быў такі прысмак, нібы яна толькі што зьела пратухлае яйка.

Крыжаванка зьмяшчала пытаньне: месца, дзе знаходзяцца халодныя непарушныя целы, дзе ніхто не саромеецца нядбайна нафарбаваных вуснаў, дзе боль стаў абстрактнай катэгорыяй, дзе

ніхто ўжо не баіцца памерці. Адэля адклала газэціну ўбок.

Пад руку своечасова патрапіўся жаночы часопіс, які авіякампанія прапаноўвала пасажырам. Адэля ўзялася за чытаньне падрабязнага дасьледваньня хімічных алоўкаў і пастанавіла пры нагодзе абавязкова абнавіць касмэтычку.

Потым Адэля з прыемнасьцю аглядала свае зграбныя ступакі 36 памеру, абцягнутыя далікатнымі панчохамі. Павольна паварушыла пальцамі, прымушаючы іх рабіць мудрагелістыя жэсты. Ступакі заўсёды здаваліся ёй самай эратычнай часткай цела. Ажно захацелася іх пацалаваць. Але ж гэтую здольнасьць яна страціла яшчэ ў далёкім дзяцінстве.

Наступны артыкул быў прысьвечаны модзе на ахвярапрынашэньне немаўлятаў, якая ў гэтым сэзоне адрадзілася ў лепшых клюбах Ібіцы. Матэрыял зьмяшчаў багата ілюстрацый, здатных абудзіць фантазію: нэонавыя статуі Баала, мора спэцэфэктаў, дыджэйскія сэты, якія, па заведзенай яшчэ да нашай эры традыцыі, заглушаюць дзіцячыя крыкі... Але Адэлю з усяго гэтага ўсхвалёўваў перадусім пошум мора. І, вядома ж, цеплыня.

Самалёт ляцеў недзе па-над Польшчай. Яна выцягнула з заплечніка набытую ў дзьюці фры пляшачку рому. Не хацелася пазбаўляць сябе рэдкіх задавальненьняў. Ці здолею я ізноў пераўтварыць у свой дом гэтыя абгарэлыя коміны?

Некалькі хвілін бесклапотнага забыцьця ў сьне раптам перапыніла старэнькая фрау. Яна ветліва зьвярнулася да Адэлі з прапановай выпрабаваць свой скураны выраб. Адэля ўключыла дурніцу і зрабіла выгляд, быццам не разумее нямецкую. І тут жа падумала, што ў яе няма замежнай дробязі: усе грошы былі толькі ў буйных купюрах.

Хакейны брамнік у тэлевізары рабіў няўклюдныя рухі сваёй клюшкай, сілячыся выглядаць сапраўдным прафэсіяналам. Але шайба ўрэшце кранулася сеткі – пад незадаволены рокат трыбун.

Заплюшчыць вочы. Не сьпяшаючыся, прамовіць пра сябе свой нумар ICQ... Два... Восем... Чатыры... Дзевяць... Звычайна, практыкаваньне дапамагала. Але ня гэтым разам.

У аэрапорце было, як заўсёды, тлумна. Цягнучы свае валізкі, міма прайшла група ізраільскіх турыстаў. Яны шматслоўна абмяркоўвалі дэталі падарожжа. Мяркуючы па іхнім адзеньні, тэма надвор’я за вакном іх пакуль што ня надта хвалявала. Але першы дотык рэчаіснасьці наўпрост да скуры меўся адбыцца ўжо праз хвіліну.

Адэля па-ангельску павіталася з таксістам і працягнула яму паперку з адрэсай. Дзеля таго, каб адмовіць яго прапановам, ёй нават не давялося прыкідвацца шызафрэнічкай. Напэўна, гэты цяльпук і сам зразумеў, што банальны іголкавы асартымэнт не адпавядае ейнае ролі.

Калі Адэля адчула, што да патрэбнага месца было ўжо рукой падаць, яна раптам папрасіла кіроўцу прыпыніцца наўпрост на ўзбочыне вузенькай вуліцы ў старым горадзе. Балазе, час яшчэ дазваляў.

*У жыцьці маім я палюбіў рэчы гэтага сьвету больш за свабоду, і цяпер, Збавіцелю, яны ляглі цяжкім ярмом на мяне.*

Ад няма чаго рабіць, Адэля купіла пакуначак смажаных каштанаў. Але паветра вакол па-ранейшаму здавалася ёй трохі чужародным. Каштаны апынуліся ў найбліжэйшай сьметніцы.

Тут было значна цяплей, чым на радзіме. Дзе ні дзе ля кавярняў яшчэ заставаліся столікі – праўда, спрэс пустыя. Адэля з задавальненьнем зрабіла першыя крокі па старадаўняй брукаванцы. Яна слаба арыентавалася ў гэтых вузкіх вулачках, але цалкам разьлічвала на сваю інтуіцыю.

У музэі пахла сабачкамі. Незразумела, чаму.

Адэля ўбачыла афішу: “Джузэпэ Вэрдзі. Аіда”. Яна падышла бліжэй, каб прачытаць склад выканаўцаў, але ж без акуляраў гэта не атрымалася.

Ля ўваходу ў вялікі будынак ужо тоўпіліся людзі. Яны млява прасоўваліся ўнутар, у залітае

сьвятлом жырандоляў фае, пазбаўляліся ў гардэробе вопраткі і, групуючыся стайкамі, пра нешта нясьпешна перамаўляліся. Напэўна, дзяліліся перадуражаньнямі аб будучым відовішчы або, карыстаючыся нагодай, вырашалі свае бізнэс-справы.

На дзьвярах Адэля прыкмеціла шыльдачку, якая на некалькіх мовах паведамляла, што ўсе квіткі на сёньняшні вечар ужо прададзеныя.

Адэля працягнула кантралёру на ўваходзе свой запрашальнік. Той доўга ўнікаў у зьмест крэйдаванай паперчыны, потым прамовіў нешта на незразумелай для Адэлі мове. Потым патлумачыў на кепскай ангельскай, што ёй трэба праз службовы ўваход. Гэта як выйсьці, адразу направа, за рог будынку, і там у другія дзьверы.

Зь цяжкасьцю адчыніўшы іх, Адэля нос да носу сутыкнулася з пажылой кабецінай на шпільках і ў дзелавым касьцюме. Гэта было нават ня звыклае “дабрадушна-эўрапейскае прывітаньне” – кабета ледзьве ня кінулася да Адэлі ў абдымкі. “My name is Jeanna, — тут жа прадставілася яна. – Feel free to call me just Jeanna”5. Зьбянтэжаная і зьмерзлая Адэля хацела выявіць нейкія эмоцыі ў адказ – або, прынамсі, паведаміць сваё імя, — але, як высьветлілася, у гэтым не было ніякай патрэбы.

У наступны момант яна адчула сябе аточанай усеагульнай увагай. Не пасьпела Адэля дапіць свой кубак гарбаты, як ёй тут жа паслужліва прапанавалі келішак “Hennessey” (“Прабачце, мы не памыліліся, гэта акурат той, што быў замоўлены ў вашым райдэры?”). Адэля хутка сагрэлася і павяселела. Карцела пагаманіць з кімсьці, хаця б з той самай Жаннай, абмеркаваць зь ёю апошні фільм Таранціна.

Замест гэтага, Адэлі падсунулі плюшавую балванку зь лягатыпам невядомага ёй тэлеканалу і прымусілі сказаць пару словаў пра палітычнае становішча ў краіне. Праз хвіліну над ейным тварам ужо шчыраваў грымёр. У люстэрку, якое дзівосным чынам зьявілася перад ёю, Адэля бачыла, як ейныя вочы становяцца большымі за кошт касмэтычных хітрыкаў. Неўзабаве яна заўважыла ў сваім абліччы неўласьцівую для яго гераічнасьць.

Пасьля таго, як ейныя валасы былі згрупаваныя ў два банальныя хвосьцікі, Адэля, нарэшце, магла пазбыцца мокрага абутку. Скура ейных ступакоў з задавальненьнем дакранулася да падлогі. Адэля нават сама не заўважыла, як засталася ў адных майтках. Жанна пяшчотна прашаптала ёй штосьці на вушка, потым яе вусны плаўна праплылі па сьпіне Адэлі, спыніліся па-над самымі ягадзіцамі і пакінулі там сьлед ад укусу.

Адэля папрасіла яшчэ келішак каньяку. Атрымаўшы яго, яна адчула ледзь прыкметны дакор у позірку.

Цяпер на Адэлі была нязручная доўгая спадніца і кашуля ў яўна этнаграфічнай стылістыцы. На ейным твары зьявіліся сьляды ад румянаў, вусны сталі безгустоўна чырвонымі – пасьля каманды, атрыманай ад лысаватага няголенага дзядзькі, якога ўсе тут слухаліся бы генэрала.

— Праз пяць хвілін! – тут жа пераклалі ёй голас, які прагучаў па рацыі Жанны.

Адэля адчула нязвыклае для сябе хваляваньне. У ейнай руцэ раптам апынулася нешта цяжкае і халоднае.

— Усё, мая даражэнькая, жадаю табе посьпеху, — прамармытала Жанна. – Давай бліжэй, хадзем во сюды.

Тут была прыемная цемра, ад якой Адэлю кідала ў доўгачаканы сон. Наперадзе, літаральна ў якім мэтры, было гучна, вочы сьлеплі ад незьлічоных пражэктараў — як здавалася, адумысна скіраваных наўпрост у твар. Адэля машынальна праверыла вастрыню ляза свайго мяча.

Адэлі карцела застацца тут, у гэтай утульнай і ратавальнай цямрэчы. Аднак рукі Жанны, як выявілася, былі куды мацнейшымі, чым тое можна было падумаць.

Адэля была выштурхнутая ў самы цэнтар гладкай і роўнай прасторы. У яе было трохі часу, каб агледзецца. Дзесьці наперадзе, літаральна ў дзесяці мэтрах, усё абрывалася. Хіба толькі па

водблісках ад чыіхсьці акуляраў можна было ўцяміць, што менавіта там знаходзілася глядзельная заля. Дзесьці ззаду былі сфінксы і храмы, зробленыя з дошак і фанеры.

Трэба было некуды рухацца. Трэба было нешта рабіць. Аплядысмэнты з боку залі зьмяніліся напружлівай, бадай асуджальнай цішынёю.

Адэля разгублена матлялася ўзад-уперад, сілячыся прызвычаіцца да скіраванага ў вочы сьвятла ды зразумець, што ж ад яе гэтым разам патрабуецца. Нязвыклая спадніца рабіла ейныя рухі нязграбнымі. Пакручастыя віражы аркестра паглыблялі разгубленасьць.

Раптам заля ўсьпенілася авацыямі. Праз імгненьне пасьля гэтага, Адэля ўбачыла перад сабою імклівую чарнаскурую постаць. Потым перад вачыма прамільгнула лязо мяча.

Адэля здолела ўхіліцца ад удару — мусіць, выключна з прычыны сваёй зьляканасьці. Ейная рука зь мячом машынальна ўзьнялася і апусьцілася, выклікаўшы дзесьці непадалёк усплеск чужога болю. З залі пачуліся аплядысмэнты.

Па камандзе дырыжора, аркестар трохі сьцішыў рытм, каб прысутныя маглі адчуць драматычную паўзу – хай сабе, і не прадугледжаную Вэрдзі.

Адэля згрупавалася, каб адбіць чарговую атаку, у ёй паступова стаў прачынацца азарт. Яна паволі кружляла вакол уласнае восі, трымаючы напагатове меч.

З-за кулісаў на Адэлю пазірала Жанна, асыпаючы яе няўцямнымі парадамі: “Мачы зьлева, а потым як прыцісьнеш, дык... Херач па нагах, херач па нагах!”.

Леваруч Адэля адчула перарывістае дыханьне супраціўніцы. Потым два вастрыі ізноў сутыкнуліся.

З гэтай незнаёмай для яе прыладай Адэля паводзіла сябе даволі няўклюдна, але ж і чарнаскурая дзяўчына, мусіць, была ў падобнай сытуёвіне. Праўда, яна мела куды лепшую фізычную падрыхтоўку.

Каб адбіць наступную атаку, Адэлі давялося прыбегнуць да ненавісных ёй жаночых прыёмаў – уляпіць сваёй суперніцы левай рукой добрую аплявуху, потым драпануць яе па твары і нават паспрабаваць укусіць. Калі гэта атрымалася, заля адразу ажывілася.

Пад даўгія Адэлявы пазногці забіліся мікрачасьцінкі чужой скуры. Дзесьці па-над сьцягном пачало прыпякаць. Белая кашуля з арнамэнтам была сапсаваная.

Рапітам у яе нешта забуркатала ў жываце – зусім не да месца.

Адэля раптам падумала, што было б някепска зьмяніць ход гэтай пастаноўкі, насыціць яе большым драматызмам – пра што, відавочна, не парупіўся лысаваты рэжысэр. Са шматлікіх фільмаў Адэля ведала: інтрыга зьяўляецца тады, калі паміж супраціўнікамі ўсталёўваюцца асабістыя сувязі. Якія, у сваю чаргу, немагчымыя без вэрбальнага кантакту.

Адэля апусьціла меч і зьвярнулася кудысьці ўглыб сцэны. Загадзя тэкстам яе ніхто не забясьпечыў, і таму давялося імправізаваць:

— Ты нібыта эфіёпская царыца, што расьсякаеш начную цемру борздай ланьню. Ды вось толькі куды нясе цябе вецер? Няўжо на пахіленыя слупы электраперадач ля ўскрайны вёскі? (Заля ацаніла гэтую бязглузьдзіцу кволым сьмехам.) Няўжо твой каханы ізноў будзе ў разгубленасьці? Калі ён не зна...

Захапіўшыся дэклямацыяй, Адэля зусім забылася пра абарону.

Боль працяў яе трохі вышэй калена. Яна яшчэ падбірала словы па-ангельску, калі ейнае цела ўжо пачало свой хуткі рух долу. Шчака Адэлі адчула шурпатую паверхню сцэны. Зблізу яна не выглядала ідэальна чыстай і пахла потнымі шкарпэткамі.

Публіка прыкметна ажывілася. Краем вока Адэля ўбачыла, што вялікія пальцы бальшыні гледачоў былі скіраваныя ўніз. Мулатка эфэктна занесла абедзьве рукі з катамі над галавой і, пацэліўшы паміж рэбраў, адным моцным ударам літаральна прышпіліла Адэлю да падлогі.

Але ў гэты момант яе засмуціла зусім іншае. Наперадзе чакаў яшчэ і другі акт спэктаклю.

*Я – мой уласны ідал, прыношу шкоду сабе маімі страсьцямі...*

Твае рукі крыху ўздымаюцца па-над прасьцінай, сілячыся зрабіць хаця б які асэнсаваны рух, шоргаюць няўрымсьліва па белай шурпатай тканіне. Тваё аголенае цела, сьпэрэшчанае не прадугледжанымі сюжэтам гульні складкамі, выклікае ў цябе нарцысічную агіду. Усе твае жэсты адпавядаюць папярэдне ўзгодненаму сцэнару. Ты навучыўся хутка і дакладна рэагаваць на каманды партнэра.

Bondage & Discipline.

Ты плаўна размазваеш па сваім твары сьмярдзючае месіва. Для выбару спосабу аплаты націсьніце кнопку ў правым куце экрана.

Вучоны мядзьведзь пачуў знаёмыя гукі баяна. Публіка прыязна пасьміхаецца ды кідае дробныя грошы.

Ён набліжаецца павольна, на пачатку ты млява спрабуеш супраціўляцца. На ягоным твары – маска Баала. Ты драпаеш яго па залатым абліччы, каб гульня была больш эмацыйнай, сьціраеш да крыві пазногці. Неўзабаве твае рукі ўжо сьцятыя дротам.

Ён зрывае зь цябе адзеньне. Пасьля таго, як у роце апынаецца кляп, тваё падабенства да жывёлы становіцца яшчэ большым.

Дыханьне перарывістае. Сьпярша твае вочы засьцяць агні гірляндаў, потым пад пазногці ўгрызаюцца вострыя аскепкі.

Сьпярша прыемны пах мужчынскай парфумы, потым ты блюеш у прыбіральні кіслым малаком.

Сьпярша хтосьці казыча яе трохі вышэй паясьніцы, потым пінцэт пакрысе расчапляе валокны, пранікаючы глыбей у рану.

Сьпярша ты смакуеш віно з чэрапа playmate №78, потым гіпсавыя абаронцы крышацца наўпрост у тваіх пальцах.

Сьпярша ўтульнае крэсла ў салёне кінатэатру, потым хтосьці пачынае імкліва працаваць лобзікам.

Сьпярша Маргарыта апранае ядвабны карсэт, потым ад шурпатай паверхні гнілога баркасу адкалупваюцца пісягі старой фарбы.

Сьпярша ты думаеш, куды б уставіць слова “сэнтымэнтальны”, потым у твой рот запіхваюць мокрыя газэты.

Старайцеся не распырскаць кроў па пакоі, сачыце за тым, каб кроплі не траплялі на дываны, мэблю і г.д. Калі гэта адбылося, трэба выцерці плямы крыві антысэптычным растворам і, калі вы знаходзіцеся на вечарынцы, паведаміць яе распарадчыку пра тое, што здарылася. Па сканчэньні ўзьдзеяньняў трэба супыніць крывяток. [6]

Domination & Submition.

Фашызм плоці, калі ў кожнай малекуле твайго цела сядзіць маленькі фюрэр. Яны ўтрапёна торкаюць за нітачкі, шторазу прымушаючы тваю нэрвовую сыстэму рэагаваць, канцовасьці ўздрыгваюць, вучоны мядзьведзь пачуў знаёмыя гукі баяна.

Sadism & Masochism.

Грузна абрынуўшыся на канапу, сваёй дупай ты выпадкова зачапіў пульт тэлевізара. На экране зьяўляецца бязгучная карцінка – пара, якая кружляе ў танцы. Камэра здымае ў профіль, але ж гледачу ўсё адно зразумела, што на экране толькі адзін чалавек, які раз-пораз паварочваецца да залі іншым бокам – мужчынскім або жаночым.

Карцінка пачынае чэзнуць, і, урэшце, адны толькі палосы. У гэтым ва ўсім няма болю, ані дамінаваньня, ані скурчаных у ненатуральных паставах дзяўчатак з выдзертымі смочкамі, ані тоўстых лысых японцаў з наборам іголак, ані надпісаў лязом па дагледжанай скуры, ані прыкутых да рабрыстай батарэі рабыняў…Усе выявы сьцерліся з тваёй памяці. Як быццам бы,

хтосьці адфарматаваў флэшку.

Навокал толькі вада. Навокал толькі вада. Яна амывае пясок, раз-пораз выносячы туды разнастайныя адкіды чалавечай дзейнасьці – у тым ліку, і правы Адэляў боцік са зламаным абцасам. Малекулы твайго цела арганічна спалучацца з вадою, і ты сам не зразумееш, ці гэта проста дотык, або надзіва хуткая дыфузія. Воды Ярдану пацякуць далей, калекцыянуючы людскі грэх ва ўсіх яго магчымых праявах.

І раптам на бераг ракі прыйдзе дзіўны чалавек, які носіць адзеньне зь вярблюджай скуры і харчуецца макрыцамі ды дзікім мёдам. Ён скажа: “Я хрышчу вас вадою, але зьявіцца Той…”.

# IV. Чужыя гісторыі-2

Чалавек, які купляе цыгарэты, стоячы ля прылаўка сельскай крамы, з усімі ўласьцівымі для яе пахамі ды атрыбутыкай, чамусьці выклікае нематываваны прыступ шкадобы. Гэта няголены мужчына сярэдняга веку, трохі лысаваты. Яго вусы ўжо абрасьлі бязладнай шчэцьцю, што вытыркаецца і сям і там. На ім кашуля наросхрыст, праз якую праглядаюцца валасатыя грудзі, і зашмальцаваныя спартыўныя порткі. За сьпіной – хатулёк зь яблыкамі.

Мужчына доўга разглядае асартымэнт тытунёвых вырабаў. Росту ён невысокага, і таму даводзіцца задзерці галаву ўгару, ды яшчэ і прымружыць адно вока.

Шэры верасьнёўскі дзень, які пануе над вёскай, дымкі з комінаў, пакамечаны кодаб ад жыгулёў насупраць крамы ды роўная чарада гусей, што перакрыла сваімі целамі дарогу ў райцэнтар, толькі паглыбляюць адчуваньне ўсеагульнага трагізму існаваньня.

Мужчына дастае з кішэні грошы, пачынае іх лічыць. Пачэсвае вус, зь цяжкасьцю робячы выбар.

— Пачак “Дамінанты”, — кажа ён. – Не, лепей “Туп-туп”. А якія ўвогуле лепей?

— Бяруць “Дамінанту”, — адказвае прадавачка.

— Добра, давайце “Дамінанту”.

Ён працягвае грошы і запіхвае ў кішэню рэшту.

Міма праехаў матаблёк з прычэпам. Расканцэнтраваная энэргія яго матора прымусіла здрыганууцца шыбы ў вокнах.

Мужчына дакрануўся да сваіх засаленых валасоў. Нешта непакоіла яго дзесьці акурат па-над ілбом.

— Во, ужо прывезьлі, — кажа прадавачка, адрываючыся ад свайго чытва.

Грукат ботаў. Двое хлапцоў увайшлі праз службовы ўваход, схіляючыся пад цяжкай ношай, абцягнутай непразрыстым поліэтыленам.

— Кладзіце сюды, — загадала ім прадавачка.

Затым яна расьпісалася ў працягнутым ёй кандуіце. Хлопцы адразу ж сышлі, тупаючы гумовымі ботамі.

Мужчына непарушна стаяць на месцы. Відавочна, што далёка ня ўсе ягоныя жаданьні спатоленыя, і ён аніяк ня можа даць сабе з гэтым рады.

Прадавачка прыадкрывае поліэтылен, бярэ мясны нож і адразае кавалак. Спрабуе на смак, закрывае поліэтылен.

Затым адкрывае зноў, адразае яшчэ адзін кавалак і працягвае яго мужчыну:

— Пакаштуй.

Ён есьць. Нейкая тлустая вадкасьць сьцякае па ягоным падбародзьдзі. Вусінкі зьліпаюцца.

Аліцыя ў гэты момант спажывае кавалак кавуна. Яе чырвоныя губкі раз-пораз утвараюць прыгожы авальны прагал. У ім адзін за адным зьнікаюць згусткі чырвонай мякаці. Цьвёрдыя выспачкі сілай паветраных плыняў знутры трапляюць у маленькі сподачак. Затым вусны змыкаюцца – каб ізноў разамкнуцца літаральна праз некалькі сэкундаў.

Я назіраю за ёй закаханым позіркам. Аліцыя раптам папярхнулася ды па-панібрацку засьмяялася.

Раптам цэляфан пачынае варушыцца.

Мужчыну патрапіла невялічкая костачка або нават храсток. Мужчына дастае яго з рота і зацiскае ў кулаку.

— Яны яшчэ не распусьціліся, — кажа прадавачка. – Яшчэ ня час зьбіраць ураджай.

Па вуліцы ў напрамку крамы рушыць матацыкл дзеда Хвядоса. Найсьмялейшая гусь кідаецца

яму напярэймы, цюкаецца дзюбай у гумовую пакрышку і раптам ламаецца. Хвядос паркуе матацыкл і дастае з каша патрэбны інструмэнт.

Мужчына маўкліва стаіць перад прылаўкам. За вакном брэша сабака. Пачынаецца дробны дожджык. На асфальтавы лапік каля крамы лянотна выпаўзаюць чарвякі.

— У мяне ёсьць дачка, — кажа прадавачка. – Яе клічуць Сьвятлана.

Хвілін праз пятнаццаць яго ўжо падвешваюць да бэлькі, цудам ацалелай пад прагнілым дахам закінутай фэрмы. Тапак з правай нагі звальваецца долу. Мужчына скручвае вусны трубачкай і ціхенька прысьвіствае. Пабачыўшы ягоны выраз твару, бывалы рыбак, мусіць, падумаў бы, што ў гэтага дзядзькі клюе.

## *(Няўклюдныя спробы знайсьці сабе месца-2)*

Задні двор старога і ня надта дагледжанага дома, спрэс усеяны ярка-жоўтым восеньскім лісьцем. Кавалкі арганікі розных формаў і колераў амаль пакрываюць іржавыя штангу і велатрэнажор, зрынутыя на зямлю арэлі і гіпсавую скульптуру, пашкубатаную настолькі, што нават здагадкі адносна яе сюжэту ў галаву не прыходзіць. Пастамэнт, на якім, мяркуючы па ўсім, некалі месьціўся гэты ўзор манумэнтальнага мастацтва, трохі ўзвышаецца па-над жоўтай і месцамі чырвонай роўнядзю, міжволі прыцягваючы да сябе ўвагу. Белая фарба на ім ужо бадай аблупілася, спадаючы долу няроўнымі пісягамі, і цяпер ён набыў свой натуральны “бэтонны” колер. На пастамэнце ды вакол яго можна ўбачыць пажоўклыя аркушыкі нататніку, сьпярэшчаныя нейкімі крамзолямі, якія сям-там неахайна закрэсьленыя.

Трохі наводдаль, бліжэй да сьцяны дома, відаць грузавы мікрааўтобус са спушчанымі коламі і цэляфанам замест шыбаў. На ягоным баку месьціцца надпіс: “Курыныя яйкі ад Біттэрхофа — сакрэт душэўнай маладосьці”. Калі б ты ня ведаў ягоны зьмест ад самага дзяцінства, дык наўрад ці быў бы здатны спасьцігнуць цяпер – праз палімпсэст крамзоляў некалькіх пакаленьняў графітчыкаў.

Зрэшты, цябе тут існаваць і не павінна. Мы ж умовіліся, што будзем апісваць толькі рэчы. Рэчы, рэчы, і толькі рэчы.

Неўзабаве распачынаецца дробны дожджык. Вецер ледзь прыкметна гайдае самотную рабініну, на рэдкіх галінках якой відаць некалькі чырвоных гронак. Гайдае узад-уперад, і яна нібы нягегла танчыць або проста падрыгвае ў такт. Трошкі мацнейшы парыў – і рабіна валіцца долу, дазваляючы зразумець, што гэтае дрэва, насамрэч, ня мела ніякіх каранёў і было неглыбока ўтыркнутае кімсьці ў зямлю – немаведама кім і навошта.

Аркушыкі паперы зьмешваюцца зь лістамі клёну. Ім яшчэ спаборнічаць у натуральным працэсе гніеньня.

Там-сям лісьце пачынае варушыцца – як быццам пад ім тоіцца штосьці жывое. Узьнікае ўражаньне, нібы пройдзе якая хвіліна, і амаль поўная статычнасьць кампазыцыі будзе парушаная зьяўленьнем нейкіх пэрсанажаў, галёканьнем, стрэлам, выбуховым сьмехам, які точыцца спаміж гострых уцёсаў маркіраванага чырвонай памадай грота Аліцыі, або яшчэ чым. Аднак чаканьні ня спраўджваюцца: нічога не адбываецца. Нічога не адбываецца. Дзеля перакананаўчасьці і мэтадалягічнай пасьлядоўнасьці, я набраў гэтыя словы наноў, не скарыстаўшыся банальна-чарадзейнай камбінацыяй CTRL-C — CTRL-V.

На густым, быццам жэле, небе завісьлі фігуркі парашутыстаў.

* * *

Ведаеш, як бы я назваў гэты твор? “Русалачка”, або “Трагізм Сьнягуркі”, або... магчыма, “Апошні танец маленькага лебедзя”. Толькі што прыдумаў. Дарэчы, выдатны экспромт, як ты лічыш? Тым болей, неўзабаве будзе выстава на тэму аховы птушак у Палацы мастацтва. Што называецца, у тэму! Можаш быць пэўная, я ўжо знайшоў спэцыяльна для гэтай скульптуры добры экспазыцыйны ход. Заўчора нават замовіў адмысловую лядоўню, акурат пад твае габарыты.

Ты бязладна лыпаеш сваімі прыгожымі даўгімі павекамі. Пад вачыма ледзь бачныя кругі, якія ня здолеў схаваць макіяж. Ён, дарэчы, табе не пасуе, гэта я шчыра кажу. Табе ўсё адно? Так, я гэта ведаю. Хаця, папраўдзе, і трохі сумняюся – калі шчыра.

А вось мне дык твае аранжавыя валасы даспадобы. Уяўляеш, сьвятло, скіраванае маёй умелай рукой, трапляе праз тонкую ільдзяную абалонку, і вакол тваёй галавы ўтвараецца лёгкае зіхаценьне. Няўлоўны колеравы прысмак, які можа ўбачыць і ацаніць толькі вока сапраўднага гурмана! Напэўна, у такой ненавязьлівасьці паўтаноў і тоіцца хараство.

Ты пытаешся, куды табе падзецца? Тваё цела падаецца табе некім прыдуманым? Магчыма, магчыма. Вось, бачу, што твой тварык пачырванеў. Толькі, просьба, ня трэба румзаньняў. Лепей ужо макіяж, чым макіяж размазаны.

Што да тваёй скуры... Ведаеш, яна падаецца мне занадта бялявай. Канешне, я ня бачыў цябе поўнасьцю, але калі меркаваць па тых частках, якія мы не хаваем ад староньніх сузіральнікаў... Павер мне, твой аўтэнтычны колер выглядае трохі банальна, я ўжо прадбачу, што напіша пра гэта аглядальнік газэты “Культура”. Але не хвалюйся. Акурат хвілінку таму ў мяне зьявілася ідэя, як можна выправіць сытуацыю... Зрэшты, цябе гэта ўжо і не павінна хваляваць. Навошта табе чужыя клопаты? Пакінь іх чужым — напрыклад, мне.

Тое, пра што ты гаворыш, для мяне зразумела. Выпі вось лепей гарбаткі, ды сырам частуйся, ён у “Рызе” досыць сьвежы. Зараз і макароны зварацца. Страхі, страхі, страхі, страхі... Вось ужо мне гэтыя дзявочыя страхі.

Так, згодны. Скажу нават болей. Падзеленасьць тваго існаваньня стала банальнай звычкай. Табе здаецца, нібы ўся твая істота — душа і цела — сьпярэшчаная мярзотнымі мікрашчылінкамі, не заўсёды бачнымі для заўсёды няўважлівага назіральніка, але ж добра адчувальнымі знутры. Гэтыя шчылінкі, яны... Ня тое, каб балела, але ж... неяк сьвярбіць, праўда?

Ня трэба такой рэзкай жэстыкуляцыі, спакайней! Бо яшчэ адзін няўклюдны рух локця — і ты ўрэжаш па твары камусьці з плястылінавых Брэжневых, Насераў, Бісмаркаў, Сьвідрыгайлаў. Навошта мне так шмат гэтых істотак? Сапраўды, яны ўжо ў мінулым, яны былі датуль, пакуль я ня вынайшаў новую мову мастацтва, але... Ну, ведаеш, яны ж маіх рук справа, і мне шкада будзе разьвітацца хаця б з адным. Як, напэўна, і кожнаму з творцаў.

Бачыш, усё плыве і сьлізгае пад тваімі падэшвамі. Глеба перад табою пакрытая ільдом, а катацца на каньках ты ня ўмела нават у дзяцінстве. Дарэчы, адзін даволі абазнаны ў тваім целе чалавек (можаш нават здагадацца, пра каго я) паведаміў мне па сакрэце, нібы ў цябе ёсьць татуіроўка на левым сьцягне. Такую пікантную дэталь таксама можна будзе неяк цікава абыграць.

Можаш далей і не казаць, усё адно я цябе разумею. Крок наперад – гэта крок у нікуды. У новую пастку ілжывых уяўленьняў і інтэлегібельнага сьмецьця, у новыя калодзежы фальшывых сэнсаў ды вобразаў. Навошта табе гэта патрэбна? Лепш паслухай маю эксклюзіўную для цябе

папанову. Не, пачакай, даслухай уважліва, ня трэба так непакоіцца.

Даруй, што перапыняю... Я магу сфармуляваць два твае галоўныя страхі. Першы зь іх – страх быць. Другі – страх ня быць. Я ведаю паратунак ад абодвух.

Ты марыш пра той момант, калі твае ногі ўтульна ўладкуюцца ў цёплыя сухія тапкі. Ты паўсячасна прагнеш нейкай трываласьці, пэўнасьці, грунтоўнасьці. І заўсёды кідаешся ў дэпрэсію, калі высьвятляецца, што ў цёплым тапку, куды ты, нарэшце, засунула зьмерзлую ў лістападаўскую непагадзь нагу, знайшла сабе прыстанішча гадзюка.

Ведаеш, у тапках немагчыма ісьці па балоце. Правалішся.

І, дарэчы, не хвалюйся так адносна сваёй фігуры (хаця, падазраю, тут я ізноў маю справу са звычайным какецтвам). У мастацкім аспэкце навязаныя нам парамэтры прыгажосьці ня маюць аніякага значэньня. Для перадачы аўтарскай думкі важнейшае нешта іншае – тонкія выгіны, ледзь адчувальныя шурпатасьці, лёгкі вугал нахілу смочка...

Я працягну за цябе. Быць непадзельнай, быць чымсьці цэласным, ня здраджваць сабе ў кожны момант свайго жыцьця. Што ж, тут мой сродак, пагадзіся, будзе найаптымальным.

Адным словам, так я і думаў. Ты ня можаш падзецца ад жарсьцяў, што цябе разьдзіраюць. Ты адчуваеш, быццам развальваешся на кавалкі. Але кожны з гэтых кавалкаў прагне цэльнасьці.

Твае памкненьні, твае мары, твае падзелы, твае тамагочы, твае раздражненьні, твае лібіда, твае веры, твае безнадзейнасьці, твае слодычы, твае страхі, твае кракадзілавыя сьлёзы, твае здрады, твае параманчавыя валасы, твае экзыстэнцыі, мяккія адбіткі тваіх басых ног на сьнезе, твае эпатажныя рынгтоны, твае дрыготкія павекі, твае маскі, твае капрызы, твае даўгія пальцы піяністкі, твае новыя боцікі на высокіх абцасах, твае прагненьні любіць, твае пазногці, пафарбаваныя чорным лакам, твае трэшчынкі на вуснах... Думаю, гэта ўсё пара ўжо *сашкрэбсьці*.

Я маю апошні козыр. Табе ўсё адно нічога іншага не застаецца. Ці ня так?

Вось, ну дык што ты цяпер скажаш наконт маёй прапановы?

Добра, тады распранайся. Можаш заходзіць у душ, зараз толькі сьвятло ўключу. Тут у мяне створаныя адмысловыя кліматычныя ўмовы. Як, не сьпякотна?

Не хвалюйся, даўжыні шлянгу павінна хапіць. Вазьмі гумовы дыванок, бо іначай суседзі зноў будуць скардзіцца на тое, што іх залілі.

Вось, а цяпер я стаўлю перад табой задачу. Ты павінна ўяўляць зь сябе балярыну. Нагу трохі вышэй, станку ў мяне ў ваньне вядома, няма, але ж гэтая іржавая труба яго лёгка замяніць. Ты ж казала, што калісьці займалася харэаграфіяй? Ну паспрабуй яшчэ раз, толькі ня трэба так дрыжэць. Не, дзяўчо, ну пасьміхся, жыцьцё, урэшце, не такое і сумнае.

Ага, а татуіроўка ў цябе і сапраўды цікавая. Хаця, па шчырасьці, я разьлічваў, што яна трохі ніжэй. Павярніся яшчэ на хвілінку, дай лепей разгледзець. Добра, трэба прыдумаць, як яе абыграць у назьве працы.

Паводзь сябе як мага больш натуральна. Зрабі выгляд, быццам ты... эээ... збан, які мусіць быць поўным... эээ... духмяным парным малаком, але... ён парожні, трагічна парожні. Знаёма, так? Адчувай, адчувай сваю паражнечу, выяўляй, паказвай яе мне, ня трэба саромецца эмоцый.

Не, даражэнькая, пастаўся да сваёй задачы крышку сур’ёзьней. Ты мусіш цяміць, што гэтае імгненьне застанецца на вякі. У гісторыі мастацтваў, вядома.

Левую руку трохі наперад, калі ласка. А цяпер зірні на мяне. З такім выглядам, быццам я твой адзіны збаўца.

Нічога, праз якую хвілінку твой твар зьменіцца. Гэтая штучнасьць пройдзе сама сабою, не хвалюйся, Зараз, я вось толькі... Халера, ізноў нешта не працуе.

І апошняя просьба. Трохі вышэй правае плечыка, каб смочак, усё ж, глядзеў уверх.

Напор брансбойта досыць моцны, і рэцэптары скуры не адразу адэкватна рэагуюць на такую

неспадзяванку.

Праз долю сэкунды тваe пунцовыя губкі трохі скрывіліся, утвораная імі фігура, як мне падаецца, можа азначаць прыемную зьдзіўленую ўсьмешку – як быццам, ты знайшла пад елачкай неспадязваны падарунак, нейкую густоўную бранзалетку або фляконччык францускай парфумы.

Струмень паціху ахоплівае ўсё большую і большую плошчу, тваё цела ўздрыгвае, хай і зь невялікім спазьненьнем. Канвульсіі – гэта акурат тое, што здатнае спатоліць твой даўні голад на моцныя эмоцыі. Ня горай за падарожжа на Шры-Ланка, пагадзіся?

Цябе скаланаюць дрыжыкі, але можаш быць пэўнай у тым, што неўзабаве ты ўжо будзеш вызваленая ад навязьлівай неабходнасьці рабіць разнастайныя рухі, якая так моцна ўвесь час прыгнятала.

З твайго роту пакуль яшчэ ідзе пара, але павер – хараство кампазыцыі яна ўжо ня здатная парушыць. Зараз, засталося яшчэ пару штрыхоў, і...

Угу, і пакуль не застыне, трэба не забыцца пра аўтарскі подпіс.

* * *

Пратакол допыту гр. Аўгуцяна Сяргея Міхайлавіча, 1966 г.н.

Я, Аўгуцян Сяргей Міхайлавіч, 24 студзеня прыблізна ў 15.30 выйшаў са свайго дому, дзе пражываю з маці і яе бойфрэндам. Надвор’е было па-восеньску сьвежым, і вятрыска, што расьцярушыў мае валасы, нагадаў пра хуткае наступленьне халадоў. Каля пад’езду заўважыў калюжыну, у якой плавалі абгорткі ад марозіва і некалькі кляновых лісткоў. Драпіны на асфальце гэтым разам не прыносілі мне суцяшэньня.

Па яе сканчэньні, я выйшаў на вуліцу і працягнуў шлях да мэтро, рухаючыся па ходніку паўз гатэль “Арбіта”. Па дарозе сустрэў гр. Сёмікава Кірыла Віктаравіча, беспрацоўнага. Ён прапанаваў мне расьпіць бутэльку моцнага пладова-ягаднага напою. Мы наведалі краму, якая, аднак, была зачыненая. Да таго ж, не ставала грошай, а зьвярнуцца не было да каго. Пра палёты К.В. Сёмікава на паветраным шары ня ведаю, іх ня бачыў і па сутнасьці нічога паясьніць не магу.

Прыблізна а 16 гадзіне сеў на маршрутны аўтобус №34, заняў месца бліжэй да сярэдзіны салёну і паехаў у накірунку рачнога вакзала. У салёне транспартнага сродку нічога падазронага я не заўважыў. Выйшаў з аўтобусу на прыпынку “Школа земнаводных” і нясьпешна працягваў рух пехатой у бок мора. Прапажу заўважыў ля шапіка “Саюздруку”, на скрыжаваньні Гзылатава і Айматавай.

Далей (час дакладна ўказаць не магу) скіраваўся ў краму “Вугалёк”, там паабедаў, зьеўшы смажню і запіўшы яе малочным кактэйлем за 1960 рублёў. Гэты рух паўтарыўся двойчы або тройчы. Я падыходзіў да прылаўку, жартаваў з прадавачкай і прасіў не шкадаваць электраэнэргіі і добра разагрэць смажню ў мікрахвалёўцы. Потым зьядаў смажню, выпіваў кактэйль і паўтараў згаданую сукупнасьць рухаў: падыходзіў да прадавачкі і прасіў добра разагрэць смажню, не шкадуючы электраэнэргіі. Аднаго разу смажня зьнікла яшчэ да таго, як я пасьпеў яе зьесьці — з прычыны пэўнага *зруху*. У гэты час нічога незвычайнага не заўважыў, за выключэньнем таго, што прадавачкі кожнага разу былі розныя. Магу апазнаць іх, калі ў гэтым узьнікне патрэба для сьледства.

Наступнага дня амаль у той самы час прысеў на лаўку ў сквэры Пераможцаў, каб выпіць

мінералкі і папаліць. Да мяне падышоў тав. Гзылатаў. Мы ўступілі ў моўны кантакт, падчас якога гр. Гзылатаў настойліва і неаднаразова прапаноўваў мне расьпіць пляшку моцнага пладова-ягаднага віна “Таўкачыкі”. Я адмовіўся, спаслаўшыся на кепскі зрок. Тав. Гзылатаў зьняў зь сябе фрэнч паўвайсковага тыпу, вырыў у кветніку яміну глыбінёю прыблізна ў два мэтры, пагрузіўся ў яе і поўнасьцю засыпаў сябе зямлёй. З таго часу тав. Гзылатава мне бачыць не даводзілася, ні зь якімі прапановамі ён да мяне не зьвяртаўся.

Я справіў малую патрэбу ў суседнім касьцёле і скіраваўся ў парк імя Горкага, дзе акурат у той час адбываўся жаночы турнір дальтаплянэрыстаў. Сустрэў там гр. Айматаву, якая зьяўлялася судзьдзёй у сярэдняй вагавай катэгорыі. Падчас размовы падзяліўся зь ёю сваімі думкамі адносна разьвіцьця гэтага віду спорту ў нашай краіне. Пра сваю прапажу ня згадваў. Наступную палову гадзіны правёў з дальтаплянэрысткай Кацяй (прозьвішча і пасаду я ня ведаю), зь якой меў блізкія інтымныя стасункі. Пасьля яе няўдалага скачка з тэлевізійнай вежы працягваў шпацыр па праспэкце Арджанікідзэ. У акрэсьлены вамі адмежак часу (з 17.33 па 17.49) купляў лёдава ў прадавачкі непадалёк ад ЦУМу, і ніякімі зьвесткамі пра інцыдэнт на вуліцы Петрыкаўская не валодаю.

У 22.15 я рухаўся праз цёмны палісаднік, які атачае тыльны бок суседняй дзевяціпавярхоўкі. Неаднаразова даводзілася наступаць на кілбасную луску, раструшчаныя плястмасавыя шкляначкі або экскрэмэнты, праўдападобна, сабачыя. Раптам хтосьці ўключыў сьвятло, і я ўбачыў, што за кожным дрэвам, такімі мілымі ў сьветлую пару бярозкамі, прытаіліся гэтыя постаці. Там быў і маньцёр Гібрыеў, зь якім мне даводзілася рабіць калісьці ў адным ЖЭСе, і Ядзьвіга Францаўна, і Аліцыя, і дачка Маціцова з утыркнутым у вуха відэльцам, і Інгрыд (*хаця адкуль яна тут узялася?*), і маленькая Нюрачка з заплаканымі вачыма, і гэты вусаты трансвэстыт, які вечна сьвятло ў пад’езьдзе не выключаў. У паветры завісьлі іхнія пільныя позіркі, і я чамусьці прачытаў у іх дакор. Потым чыйсьці сіплы голас папрасіў прабачэньня за клопаты, сьвятло выключылася, і я рушыў далей сваёй дарогай. Мая нага намацала нешта шурпатае, я апусьціўся на карачкі і амаль навобмацкі адшукаў пальцамі гэтую рэч.

Не лічу сябе самотным і несамадастатковым чалавекам, ніколі не задумваюся пра жыцьцё пасьля сьмерці. Ужытага ў пытаньні сьледчага слова “экзыстэнцыя” ня ведаю, і таму адказаць на зададзенае пытаньне не магу.

З маіх словаў запісана верна. З пратаколам азнаёмлены.

Дата     Подпіс

* * *

Марцін прачнуўся ад іх галасоў, а потым было яшчэ тупаньне, абтрасаньне сьнегу зь цяжкіх ботаў. Дзьверы са скрыгатам прыадчыніліся, потым глуха пляснулі, з вуліцы патыхнула танным тытунём, пароўну перамяшаным з марозным паветрам.

Марцін адчуў нічым не абумоўлены прыступ утульнасьці. Вадкасьці, якія атачалі яго цела, былі цёплымі, быццам гарачы душ. Зрэшты, доўжыўся гэты стан зусім нядоўга, якія пару імгненьняў.

— Вой, а гразі тут пананесьлі! – усклікнула пухнатая цётка са сьцятымі ў сноп пэргідролевымі валасамі. – Давайце, кладзеце касьцюмы ў шафу і да дзьвюх вы свабодныя.

Марцін ляжаў галавой на згорнутай дывановай дарожцы, накрыўшыся плякатам з надпісам “Вечар адпачынку для тых, каму за...”. Шыя, якой, мабыць, празьмерна доўга давялося быць выкручанай на 90 градусаў, цяпер адчувальна балела.

Яна ўсё яшчэ наводзіла марафэт перад люстэркам. Марцін быў вельмі ўдзячны гэтай жанчыне, удзячны амаль як маці, хаця і не зусім разумеў, за што менавіта. Аднекуль ён ведаў, што яе завуць цёця Галя, а на ейных пазногцях можна ўбачыць рэшткі ярка-пунсовага манікюру.

Мужыкі, тым часам, важдаліся каля шафы. Проста на галаву Марціну ўпала нешта шурпатае. Рукі намацалі колкую салому. Пальцы шарганулі па ёй, неўзабаве па-шпіёнску паведаміўшы галаўному мозгу, што яны мелі справу з капелюшом.

— У гэтым баяне дык зусім ужо клавіша прадавілася, яшчэ раз сажмёш сільна, і лясьне ўсё нахер, — падаў голас адзін з мужыкоў. – А безь яе дык хера мажорам сыграеш. Во, паслухай!

— А ты ня жмі, гэта табе ня жончына цыцка, — парыравала цётка Галя. – Бо як ні пачыніш, дык...

Канец фразы Марцін не даслухаў. Ён зь цяжкасьцю ўзьняўся, прамінуў невялічкі калідор ды, пацепваючыся, выйшаў на ганак службовага ўваходу.

Дзянёк быў ветраны ды марозны. Суставы натужлівым шэптам распавядалі Марціну пра тое, што ладную частку начы ён правёў у скурчанай і ненатуральнай паставе: як паклалі, так і ляжаў. На сьнежнай белі раптам утварылася зялёная мыльная бурбалка, потым яна стала імкліва ўздымацца, ажно за дымок, што сочыўся з коміна хаты.

Марцін пацёр скроні рукамі. Галюцынацыі прайшлі, але ж у галаве адразу загудзела. Фарбы падаваліся ненатуральна яркімі.

Марцін спусьціўся зь нізенькага ганку, расшпіліў прарэх сваіх нагавіцаў з блёсткамі ды зрабіў сюсю проста на парэпаны мур. Сонейка, што акурат у гэты момант выпаўзла з-пад воблачка, гарэзьліва яму падміргнула. Ад сьнегу пайшла шматабяцальная пара.

— Свабода і догмы – гэта супярэчнасьць сама па сабе, — падумаў Марцін. – І няма межаў на шляху ўнутранага вызваленьня сваёй натуры – сацыяльнай, сэксуальнай, мэнтальнай… Урэшце, толькі табе вырашаць, толькі ты сам маеш гэтую свабоду выбару.

Ён зашпіліў маланку, сплюнуў ды адразу ж страпянуўся. Струмяні халоднага паветра траплялі ва ўсе шчыліны ягонай піжонскай скуранкі Prada.

Мужык у аблявушцы, што выкачваў гной з–пад сваёй шпакоўні на суседнім падворку, смачна вылаяўся, убачыўшы ў роднай вёсцы чалавека з залацістымі валасамі і вялізнай завушніцай. Марцін, тым часам, углядаўся ў малаўцямны кірылічны надпіс “Рием телоары” на паржаўленай шыльдзе, што красавала насупраць.

Марцін чамусьці згадаў пра Гюнтара:

— Гэта табе не па клюбах на Кройцбэргу тусавацца.

Згадка прынесла толькі часовую палёгку. Неўзабаве Марцін прыкметна змаркотнеў. З Гюнтарам яны рассталіся амаль месяц таму. Той надарма час не губляў ды неўзабаве павесіў на “Фэйсбуку” сваю фотку ў абдымках зь нейкім дрэдзістым мулатам.

— Іваныч, ды ідзі ты ваабшчэ ў сраку, — дзьверы службовага ўваходу ненадоўга прыадчыніліся.

Усьлед за воклікам цёці Галі, на ганак выйшаў няздарны баяніст, а потым і яго таварыш. Абодва адразу запалілі па астрыне.

— Я ж гавару гэтай бабёнцы, а яна...

— Ды хуля з тым баянам...

Яны пайшлі, пакідаючы за сабою дзьве няроўныя лініі густых сьлядоў. Аддаляліся па сьнежнай роўнядзі – паціху, але няўхільна. Адзін усё яшчэ матляў рукамі, нібыта дэманструючы працэс граньня на баяне.

Пальцы ўжо зьмерзьлі да болю. Марцін ледзь чутна прамовіў “scheisse” ды рушыў назад. Нягеглая і вельмі бюджэтная цеплыня ненадоўга вярнула яму пачуцьцё шчасьця.

На стэндзе з надпісам “Народнае аматарскае аб’яднаньне “Журавінка” запрашае” ўжо

пасьпеў адклеіцца правы куточак.

Марцін выцягнуў з кішэні свой айфон. Цуду ня здарылася. Экран упарта не хацеў запальвацца, даводзячы зьбітую ісьціну пра тое, што вечных крыніц энэргіі не бывае.

Ён мог хіба вельмі прыблізна ўявіць, колькі цяпер часу, але цалкам разумеў, што сёньняшні самалёт на Бэрлін даўно ўзьляцеў у марознае неба, і хваляванца на гэты конт было ізноў ужо запозна. Зрэшты, далёка не ўпершыню.

— Ну а ты, сынок, чаго сноўдаесься тут? – запытала яго цётка Галя, адзінаасобная гаспадыня гэтай ратавальнай цеплыні.

Марцін усё зразумеў безь перакладу, але палічыў за лепшае толькі дэбілоідна пасьміхнуцца.

— На во пахмяліся, ці што? А тое цяжка ж табе, мусіць, мой саколік.

Наліваючы ў шклянку нейкую не зусім празрыстую вадкасьць, яна нахілілася проста перад ім (Марцін цяпер сядзеў за імправізаваным сталом). Ён адчуў сакавіты і бадай прыемны пах ейных падмышак.

— Во агурчыкам, агурчыкам давай, а! – вучыла яго цёця Галя. – Зразу лепей стане.

Лепей сапраўды стала, але Марцін, усё ж, званітаваў. Прыблізна на тое ж самае месца, што і ўчора. Цёця Галя цярпліва прыбрала, пакінуўшы толькі мокрую пляму.

— Зара во яшчэ ў магазін зьбегаю, а потым ужо і пара, — сказала яна.

Марцін сядзеў як сядзеў, абапершыся аб стол. Перад вачыма плыло. Потым ён хмыкнуў сам сабе ды адкінуўся назад, на сьпінку крэсла.

Атрымаўся нейкі разрыў. Марцін трызьніў наяве. Яму падавалася, быццам яны з Рудзі адпачываюць на Мальце. А потым ён чамусьці ўжо чытаў даклад на канфэрэнцыі супраць дыскрымінацыі. Дыскусіі адносна мэтодыкі камінг-аўту чакаліся асабліва бурлівыя.

Потым Рудзі... ці не, усё ж, гэта быў Марцін... Альбо, можа быць, Гюнтар, альбо Штэфан? Не, усё ж такі, Марцін. Напэўна, гэта быў Марцін. Ён абапёрся лакцямі на пакрыты раёнкай стол, зь цяжкасьцю разарваў змоўніцкую повязь зьліплых губ і ледзь чутна прамовіў:

— Свабода... самадастатковасьць... цела... падзелы... умоўная рэакцыя на раздражняльнікі... тонкія нацягнутыя ніткі, за якія варта толькі паторгаць...

Ён быў амаль перакананы ў тым, што нэрвовыя канчаткі маюць нейкі мэтафізычны працяг. Па-за межамі цела яны пераўтвараюцца ў нябачныя нематэрыяльныя ніткі, і калі той, хто трымае іх за канец, зьлёгку цягне на сябе, чалавек амаль мэханічна робіць патрэбны гэтаму таму рух. Быццам лялька ў тэатры.

Марцін заплюшчыў вочы, спадзеючыся ўзгадаць пару-тройку вельмі важных для свайго жыцьця каштоўнасных установак ды іншых акалічнасьцяў. Пасьля правалу апэрацыі пацягнуўся да бутэлькі з-пад “Дзюшэсу”, каб наліць сабе яшчэ паўшклянкі вадкасьці. Гэтым разам яна была прынятая бы чаканы госьць.

— Так, быццам лялька ў тэатры...

Праз нейкі час дзьверы адчыніліся. Цёця Галя дыхала задаволена й глыбока, нібы падчас сэксу.

— Ну ўсё, пара ўжо, немчык ты мой дарагі. Давай, адзявайся хутчэй. Цераз пятнаццаць хвілін пачынаем.

Кашуля-вышыванка прапахла прыемным водарам мужчынскага поту. Марцін нават крыху ўзбудзіўся, даўшы волю фантазіі пра тое цела – мабыць, валасатае ды мускулістае — да якога яна колісь усутыч дакраналася. Потым нацягнуў кашулю адразу на скуранку. Балазе, памер гэтай апранахі дазваляў Марціну выкарыстоўваць яе ў якасьці паліто.

Ён зірнуў на сябе ў прымацаванае да шафы люстэрка. Няголенасьць і пачырванеласьць выдатна дапаўнялі ягоны сцэнічны вобраз.

Цёця Галя ў гэты момант начапіла на галаву маску мядзьведзя. Потым зьняла сукенку і

засталася ў адных рэйтузах і бюстгальтары. І ўжо толькі затым пачала ўлазіць у мядзьведзева тулава, зробленае з фарбаванай штучнай воўны.

— Ролю ты хаця б памятаеш? – пацікавілася яна ў Марціна. – Калі гэты алкаш пачне свой баян дзерці, ты во так во цюкнеш, і яшчэ во так во ножкай прытопнуць, зразумеў? На словах “Самая белая, самая чыстая».

Марцін ківаў галавой быццам паяц, думаючы ў гэты час пра нешта іншае.

## *Няўклюдныя спробы знайсьці сабе месца-3*

Закінуты рыбалоўны траўлер наўзбоч ад пачатку мола, які разьдзірае пеністае мора. Над суднам па-ранейшаму чуваць віскат чаек – хаця тут ім даўно ўжо нічога ня сьвеціць. У правым баку відно іржавую прабоіну. На вільготным прыбярэжным пяску мора змывае чыесьці сьляды: два ланцужкі вялікіх, два – маленькіх і яшчэ каляіну ад ровара.

Здаецца, нібы ты чуеш гісторыю пра юную дзяўчыну, якая спрабуе выкараскацца на шурпаты хвалярэз з бурапеннай вады, драпае даўгімі пазногцямі, балюча зьбівае каленкі, але як толькі яе пальцы канвульсіўнымі спалоханымі рухамі чапляюцца за сьлізкі, месцамі пазелянелы бэтон, чыйсьці жоўты красовак дакранаецца да раскошных валасоў і трапным безэмацыйным штуршком перакрэсьлівае ўсе дзявочыя намаганьні, і далей ізноў утрапёнае змаганьне са стыхіяй, усё больш і больш канвульсіўнае, а потым ізноў безэмацыйны штуршок, а потым, праз нейкі час, ізноў, і вось тапеліца ўжо цялёпкаецца з апошніх сіл, адчайна хапае ртом паветра, няўклюдна боўтае па вадзе даўгімі пальцамі з дагледжанымі пазногцямі, чарнявыя валасы наліпаюць на твар, сягаючы да ружовых смочкаў... Але, зрэшты, гэта ўсяго толькі пошум мора, звыклы пошум мора.

Мора прыносіць свае сумнеўныя дары: бязладныя купы разьмяклых водарасьцяў. Камусьці іншаму, можа, закарцела б пакорпацца ў іх з надзеяй адшукаць нейкі скарб або проста сувэнір на памяць – зграбны пантофлік, які раптоўна зваліўся з ножкі Ланы праз імгненьне пасьля таго, як яна пачула гэты недарэчны сьмех, або хоку, напісанае Фэрдынандам на рэстараннай сурвэтцы, калі другая сустрэча таксама не прынесла чаканага выніку, або кавалак кафлі, які ўпрыгожваў вэранду ў іх зімовым палацы, збудаваным у год прасьвятленьня Аліцыі, або скарыстаны прэзэрватыў, выкінуты за борт парома фінскім заўсёднікам алькатураў.

Прачнуўшыся ў нетрах траўлера адным сіверным, як заўсёды пахмурным надвячоркам, ты можаш рушыць у горад. Ты будзеш ісьці насупраць ветру, які ўздымае хвалі пяску, і яны будуць трапляць табе наўпрост у вочы. Твае прыпухлыя павекі ды агідна скрыўлены твар, мабыць, здатны натхніць якога-кольвечы мясцовага мунка на новы шэдэўр... Зь дзюнаў леваруч ад цябе будуць даносіцца перадсьмяротныя енкі невядомага грызуна.

Вуліцы гарадку, як заўсёды, будуць пустымі. Аканіцы многіх дамоў наглуха забітыя, зрэдчасу нават закладзеныя цэглай, дахі сям-там прадзіраўленыя. Шурпатыя муры ў стылі правінцыйнай сэцэсіі, побач з пад’ездам дагнівае фатэль яшчэ даакупацыйнай вытворчасьці, аблезлыя зашмальцаваныя ружы, праз якія ўжо пралазіць месіва паралёну.

Спустошанасьць і пакінутасьць гэтых камяніцаў будзе выглядаць амаль дэманстратыўнай і наўмыснай. Але ты будзеш ведаць, што яна падманлівая. І сапраўды, хто ж ня ведае, што жыхары горада цэлымі суткамі хаваюцца па сваіх норах, гуляючыся ў зюлью, робячы няўклюдныя спробы ўпісацца ў мясцовы ляндшафт, зжыцца зь ім, або, як казаў Віль дэ Фрулінг, схаваць галаву ў паветра?

Кожны зь іх трымае ля ложку свае ўласныя сакрэтныя яміны, сэзамы, у якія можна ўнурыцца, каб адчуць сябе ў пазбаўленай часу прастрацыі і пазбыцца ад усіх небясьпекаў. Толькі зрэдчасу дзесьці ў далечыні вузкай вулачкі, на ўскрайку пэрспэктывы, тваё вока ўхопіць чыюсьці постаць — гэта тыя бедачыны, каму ўсё ж давялося пакінуць свае схроны, і яны пакрадкам, прыціскаючыся да сьцен і бруку, будуць імкнуцца да часовай мэты жыцьця – аптэкі або віннай крамы.

Па брукаванцы сівер будзе гнаць шкляны аскепак, праз імгеньне ён ізноў лёгка бдзынькне, перакуліўшыся праз свой конусападобны край, твой ненатуральна абвостраны слых пачуе і лёгкае пашкрэбваньне. Побач ты заўважыш яшчэ адзін прадмет, падобны да манеты або жэтону ў мэтро.

Афіцыянтка кавярні "Мэдуза" пасьміхнецца табе сваёй зайчынай губой, і ў гэтай усьмешцы ты прачытаеш нешта непрыстойнае. Заля будзе абсалютна пустой, яна падасца тандэтнай дэкарацыяй да нейкага вадэвілю – або і наогул здымачнай пляцоўкай пошлай гумарыстычнай перадачы. На кожным са столікаў ты ўбачыш штучныя кветкі – праўдападобна, валошкі кітайскай вытворчасьці. У рухах дзяўчыны будзе нейкая празьмерная мітусьлівасьць – так робяць няздарныя акторы, схільныя да "плюсаваньня". Ты зь перасьцярогай возьмеш працягнутую табе шклянку мінералкі – у цябе адразу складуцца ўражаньні, быццам у яе быў падмяшаны пурген, і сотні тысячаў гледачоў ўжо затаілі дыханьне ля сваіх тэлескрыняў, рыхтуючыся выбухнуць рогатам у кульмінацыйны момант.

Але, насуперак усім чаканьням, у шклянцы акажацца звычайная халодная мінералка. Мэмбраны тваіх вушэй не скалане дружны рогат. Ты апусьціш парожнюю шклянку на стол і адчуеш расчараваньне – нематываванае і бадай не ўсьвядомленае.

*"Будучы час слова "буду" ў адзінкавай форме трэцяга ладу…"* – чамусьці пранясецца ў тваёй галаве радок з хрэстаматыйнага верша.

Афіцыянтка, тым часам, застыне ля барнай стойкі, дзіўным чынам высунуўшы ўперад правую нагу. Палоска скуры паміж панчошкай і сукенкай, яўна не прадугледжаная для староньніх позіркаў, зусім не падасца табе спакушальнай.

Дзяўчына будзе не стаяць і ня йсьці, на твары ані задуменнасьць, ані эмоцыі. З-пад хусткі пакажацца неахайная пасма валасоў. Потым нейкі час яна будзе мерна боўтацца перад самым тваім носам, непрыемна яго казычучы.

Ты парушыш цішыню, папрасіўшы рахунак, але гэты твой голас спляжыцца быццам вожык пад коламі грузавіку, ~~і ты зразумееш, што вось тупік, і ўсё~~.

Табе давядзецца доўга прасіць рахунак, імкнучыся перакрычаць нечаканы ў гэтых мясьцінах рускі шансон, а потым, калі твой голас будзе ўрэшце пачуты, агрэгат раптоўна ўстрапянецца, яго часткі пачнуць рух – напачатку імпульсіўны, але неўзабаве ўжо больш-менш асэнсаваны. "Рахунак? Зараз, адну хвіліначку... Можа, што-небудзь яшчэ?" Зайчыная губа наблізіцца да цябе ўшчыльную, нахіліцца над самым тваім вухам, і ты раптам здрыганешся ад укусу.

На ратушнай плошчы, сярод дасканала ўладкаваных і дагледжаных клюмбаў ды старасьвецкай брукаванкі, ты ўбачыш руіны старога тэатру. Сэцэсійныя вежы, бы экраны, будуць дэманстраваць скрозь свае пустыя вачніцы фрагмэнты шызаватага неба. Парыў ветру прымусіць затрымцець дрэўцы, што пасьпелі ўжо вырасьці на даху. Чамусьці табе падасца, нібы галоўная дзея ў гэтым тэатры яшчэ толькі наперадзе. Ты сьвісьнеш, каб парушыць мёртвую цішыню і падбадзёрыць нябачных актораў.

На ганку тэатра ты са зьдзівам убачыш чыюсьці постаць, што напаўляжыць, прытуліўшыся да адной з калёнаў і высунуўшы ўперад абцягнутыя скуранымі штанамі ногі. Калі ты прыгледзішся, табе падасца, быццам ты запрыкмеціў лёгкае і яўна не ўсьвядомленае ўласьнікам канцовасьцяў варушэньне.

Выключна дзеля цікаўнасьці, ты падыйдзеш бліжэй і паторгаеш байкера за калашыну, але ён не адорыць цябе за гэта вясёлым мацюком і піўным подыхам. Ты хутка пераканаешся, што насамрэч перад табою проста лялька з анучаў, набрынялая вільгацьцю падчас бясконцых дажджоў. Магчыма, калісьці яна выкарыстоўвалася ў адным са спэктакляў.

Тваіх аплядысмэнтаў так і не прагучыць. Затое, зь неба ўпадзе пару дробных кропель.

На нейкі момант перад вачыма будзе толькі шэры вільготны друз, ён паціху пачне напаўняць тваё поле спазору, асобныя каменьчыкі будуць адскокваць, сягаць да твайго твару, шоргаць па скуры, пакідаючы на ёй драпіны. Усё вакол раптам стане пляскатым.

Далей ізноў выгіны вузкай вуліцы з чысьцюткімі ходнікамі і спраўнымі сьветлафорамі. Ты дысцыплінавана спынішся на чырвоным, паслухаеш паліткарэктныя пацюкваньні з дынаміку і адстаіш амаль палову неабходнай хвіліны. Потым плюнеш і нахабна парушыш правілы. Ніводная машына за гэты час не праедзе.

Ты чамусьці падумаеш, што вага кожнага кубамэтра набраклага вільгацьцю шэрага паветра над табою за апошнія паўгадзіны істотна ўзрасла, прынамсі на 20%. Быццам прыціснуты.

У некаторых дамах на першых паверхах абсталяваныя крамы, і ад няма чаго рабіць ты завітаеш у адну зь іх – перадусім дзеля цікаўнасьці, але таксама і каб сагрэцца. Надпіс “Жаночая бялізна” на чужой мове, зразумела, цябе ня спыніць. Ты адразу апынешся ў цэнтры ўвагі ўсіх прадавачак, апранутых у падазрона стэрыльную фірмовую ўніформу з выявамі катэтэру на белым тле. Вырвацца з-пад іх апекі ўдасца не бяз цяжкасьцяў. Калі ўрэшце ты ўсё ж здолееш прашмыгнуць у дзьверы, будзе зусім няўцям, навошта ім спатрэбілася гэтак настойліва спрабаваць нацягнуць на цябе станік пятага памеру.

Неспадзеўкі ты пакінеш цэнтральную частку гарадка і апынешся на вузкіх вулачках колішняга гета для рыбакоў. Амаль усе зграбныя дамкі тут ужо абрасьлі бур’яном, на іх дзьвярах, побач з прозьвішчамі, рымскімі лічбамі напісаныя даты, і ты адразу зразумееш, што гэта гады сьмерці гаспадароў. На брукаванцы з булыжніку твой шлях неаднаразова перакрочаць каты – вальяжныя валадары гэтай мясцовасьці.

Напрыканцы вулачкі табе сустрэнецца дзіўная крама, разьмешчаная ў будынку былога касьцёлу. На ёй ня ўбачыш нават шыльды, толькі расклад працы. Ты адразу зразумееш, што за рэчы там прадаюць. Але, не зважаючы на забабонлівую боязьнь, без ваганьняў туды збочыш.

Старамодныя палітоны на вешалках, у каўнерах якіх нібы прытаіліся галовы, саламяны капялюшык з пажухлай атляснай ружачкай, неймавернай формы летнія жаночыя пантофлі, пах нафталіну, знаёмы табе дзякуючы дзедавай шафе.

Потым ты будзеш корпацца ў вялізнай кардоннай скрыні, зьмесьціва якой дазволіць табе прадоўжыць распачаты толькі што пералік: ідэйна слушныя цацкі 50-ых гадоў, паліняалы лапсердак з атэлье габрэйскага шаўца з прымацаваным да яго нумарам, паржаўленая электрабрытва “Юность”, да якой прыліплі некалькі скрываўленых валасінак, галянтны пасак да жаночага палітону з выявай крумкача, які сьціснуў у сваіх абдымках голуба, сподак, на якім яшчэ застаўся адбітак чыйгосьці пальца, пагрызены мольлю рыжы парык з рэшткамі скальпу… Твая рука неўзабаве апусьціцца на самае дно скрыні, каб знайсьці там танюткую кніжачку з аддзёртай вокладкай.

Яна акажацца не на тваёй мове і не на мясцовай. Але ты раптам выявіш дзіўнае валоданьне эстонскай. На пажоўклай старонцы будзе красавацца назва паэтычнага зборніку: “Прыметнікі і прыназоўнікі” (год выданьня – 1956), а трохі вышэй – імя яго аўтара – Інгмарс Йёл. Наўзгадку разгарнуўшы пажоўклыя старонкі, ты прачытаеш:

*млынова-жорнавыя ў заплаканыя блакітныя*
*зблізку парэзаныя на салодкія*

*праз вэнозны да маўклівых летуценных распырсканыя*
*няледзячы на восеньскія цяжкі без нагоды абраны*
*дзякуючы ад утрапёны ў сувязі з*
*фрагмэнтаваны ў начны кароткі без*
*не адкалупаны каля драўлянага*
*у па-над*

*салодкі на датклівы*
*дзівосным серабрысты ля здранцьвелых*
*у сувязі з мітусьлівых*
*каля ў залежнасьці ад счазелых*
*вечаровыя ў патанулы пры ляжачым*
*ветравы рассыпаны ў разьбітыя*
*і на пад у чырвоных*

Выдзертыя з трывалых маўленчых канструкцыяў словы пападуцца табе *часткай прыроды* – быццам постук дажджу альбо гул ветру.

Ад чытаньня цябе адарве далікатны чых прадаўца, які выйшаў да сваёй канторкі з падсобкі, створанай у былой закрыстыі. У сполаху ты выпусьціш кніжку з рук, і яна назаўсёды патоне ў нетрах кардоннай скрыні, у несупынных вірах рознага лайна. У вышыні, пад барочнымі скляпеньнямі, зграйка кажаноў зрушыцца зь месца.

Прадавец выцягне з вушэй пажоўклую вату і ўсім сваім выглядам пачне ўвасабляць цярплівае чаканьне. Сьвяты Францыск Азыскі з замуленай фрэскі будзе марна дакараць тваю сьвядомасьць, натхняючы на чын. Дзесьці далёка прагудзіць карабель – грузавая баржа, што прывезла на іншы бок мора чарговую порцыю ўгнаеньняў.

Прадавец будзе доўжыць сваё цярплівае чаканьне, а ты гэтым часам даткліва абдумаеш словы, зь якімі да яго зьвярнуцца.

Урэшце, пасьля недаравальна доўгай для такой сытуацыі паўзы, ты вырашыш распачаць гутарку самым банальным чынам – пра надвор’е. Твой прыглушаны голас нават табе самому падасца ненатуральным. Калі цябе заспакоіць маўклівая ўвага да тваіх словаў, ты спытаеш, ці ня знойдзецца тут пара цёплых тапак, якія можна ўтульна нацягнуць на нагу – бо, зважаючы на тое, што восень выдалася сёлета надзіва…

Ты абарвеш сваю фразу на паўслове – суразмоўцы, урэшце, пара было б уступіць у гутарку. Аднак цяпер празьмерна доўга чакаць давязецца ўжо табе. І калі гэты занятак абрыдзе, ты зробіш некалькі крокаў у напрамку да канторкі і адразу зразумееш, што стары ціхамірна сьпіць – стоячы і з расплючшанымі вачыма, лёгка абапершыся збуцьвелымі далонямі на паверхню стала. Потым ты ўбачыш прымацаваны да яго пінжака цэтлік, і гэтая дробная дэталь яшчэ болей павялічыць тваю ўпэўненасьць у тым, што перад табою — усяго толькі адзін з тавараў лаўкі старызьніка.

Ты без шкадаваньня пакінеш апаганены храм, але калі дзьверы за тваёю сьпінай ужо амаль зачыняцца, прадавец раптам спахопіцца і прамовіць слова “Тэйрас”. Ягонае значэньне для цябе зусім невядомае, нават ніякіх здагадак.

Абярнуўшыся, ты ўбачыш няўрымсьлівае варушэньне старэчых вуснаў, не зусім падуладных ужо мозгу. Потым твой позірк сьлізьне трохі ніжэй, да стала канторкі, па якім будуць пагрукваць нібы вымачаныя ў расоле пальцы. Раптам ты прыкмеціш яшчэ адну пару вачэй, скіраваную ў твой бок. Пад старэчай рукою прытаіўся малюткі зьвярок, падобны да яшчаркі.

Стары раптам выявіць папраўдзе спартыўны спрыт, цягліцы ягонага цела імгненна

напружацца, двума вялікімі скачкамі ён пераадолее апсіду крамы, каб з усяе моцы ўрэзацца галавою ў люстэрка на камодзе якогась нябожчыка. Звон аскепкаў і ўскрык ад болю натхняць цябе на хутчэйшыя ўцёкі.

— І тут мне не ўдалося знайсьці прытулку, — падумаеш ты, уцягваючы галаву ў плечы і амотваючыся шалікам. – Нейкага цёплага і сухога закутка, дзе можна было б згарнуцца шчанючком і спакойна паспаць.

Падхапіўшы парыў ветру, дзьверы з грукатам зачыняцца за тваёю сьпіною. Дзьве кірлі ў гэты час будуць з рохканьнем разьдзіраць каціны труп, што ляжыць пасярод вуліцы.

— Комплексы, шаноўны мой, менавіта комплексы і рознага кшталту мэнтальныя забабоны – вось што становіцца перашкодай у нашым непаўстрымным памкненьні да паўнавартаснай самарэалізацыі, здатнай асягнуць самыя розныя бакі неабсяжнай чалавечай натуры, — распачне сваю прамову псыхааналітык Зюзь (сустрэць яго габінэт у гэтым зацішным квартальчыку будзе сапраўды неспадзеўкі).

У той самы момант частка чэрапу гэтага ссушанага пажылога мужчыны (кавалак ілба непадалёк ад скроні, прарэзаны вэртыкальнымі зморшчынамі) раптам адклеіцца ды пачне павольна спаўзаць па твары. Не зьвярнуўшы належнай увагі на гэтую прыкрую акалічнасьць, ён працягне свой маналёг:

— Мы дагэтуль так і не зразумелі ўсю бязьмерную веліч свайго натуральнага жыцьця ў самых розных яго праявах. І менавіта голас прыроды здатны сьцерці прытворную мяжу паміж дабром і злом, скіраваўшы нашае пазнаньне на шляхі праўды і сілы.

Сынхронна са словамі, зь яго плюгавай галавы навонкі будуць выпаўзаць тысячы рудых жамярыцаў. Пэргамінавы твар хутка цалкам імі пакрыецца.

Апынуўшыся зноў на вуліцы, ты зразумееш, што зусім згубіўся і ўжо ніколі не дасі сабе рады выбрацца з гэтага лябірынту вулачак, якія, з надыходам цемры, сталі яшчэ вузейшымі. Паміж камянямі брукаванкі твае боты намацаюць вільготны мох.

…Але, па вялікім рахунку, можна ўвогуле адмовіцца ад ідэі гэтага шпацыру, так і застаўшыся ў нетрах абгаджанай марскімі птушкамі пасудзіны, утульна ўгрэўшыся ў калюжыне гнілой вады, чыя цеплыня была запазычаная ад твайго цела.

Або і наогул боўтацца прывязаным да якарнага ланцугу, павольна пагойдвацца разам зь невытлумачальнымі пертурбацыямі ў тоўшчы вады, кранацца сваімі рухавымі пальцамі водарасьцяў і прыцягнуць не абы-якую ўвагу мясцовай вялікаротай камбалы – рыбы, як вядома, драпежнай.

Цягліцы твайго цела будуць па-ранейшаму напятыя, а на твары зафіксуецца той уласьцівы для цябе крытычна-зьедлівы выраз, які запомнілі многія ўнівэрсытэцкія сябры. Ніхто ўжо не дазнаецца, што стала яго прычынай: ці то прыжыцьцёвыя патугі ператравіць тлусты сьняданак, ці то сьмешныя выразы твараў мітусьлівых рыбак, ці то скажэньні сьвятла, якія насяляюць ваду фантомамі.

...А можа, проста раскласьціся на розныя хімічныя элемэнты, асобныя малекулы, пазбаўленыя ўсялякай антрапагеннасьці і здатныя служыць прыродзе добрым канструктарам, зь якога яна, Божай ласкай, магчыма, створыць што-небудзь больш вартае?



V. (СЮДЫ ТРЭБА ПРЫДУМАЦЬ НЕЙКІ ЗАГАЛОВАК СА СЛОВАМ “КАХАНЬНЕ” – РЭД.)

# V. (Сюды трэба прыдумаць нейкі загаловак са словам “каханьне” – Рэд.)

— Уяўляеш, учора я дапіўся да таго, што стаў пісаць пра каханьне. Прыкінь!

— Ё, блін! Можа, з асабістага досьведу?

— Ды не, ведаеш, я ж заўсёды абстрагуюся ад асабістага досьведу, тым болей, у такой… інтымнай тэме. Ды, па шчырасьці, усё ж спадзяюся на тое, што ён раптам пачне неяк выпаўзаць між радкоў. Бо, як я ўчора высьветліў падчас ранішніх летуценьняў, на складзе маёй падсьвядомасьці знаходзяцца ня толькі чарговыя цьвікі ў Божае цела.

— Бачу, сёньня ў пляне бухла ты таксама перастараўся...

— Затопленыя ангары, цьвіль на паржаўленых кавалках арматуры, плесьня, пах гнілі... У кожным з закуткоў ён свой, яшчэ больш забойчы. І кожнага разу ты знаходзіш усё новыя і новыя адсекі. Адзін зь іх называецца “Чыкаціла”, другі – “Напалеон”, трэці – “Цінта Брас”...

— Можаш стварыць цэлую камэдыю дэль-артэ. Дарэчы, а пекла на тваім складзе, выпадкам, ня знойдзецца? Пад інвэнтарным нумарам 57/Б-5?

— Сваім пеклам магу падзяліцца з усімі ахвотнымі – і міжволі, дарэчы, гэта раблю. Але ж там ёсць і нешта іншае: каханьне. Ведаеш такое слова? Яшчэ не забылася? Я таксама думаў, што ўжо забыўся, але...

— Піпец, які ў на атрымаўся дыялёг. Мусіш уставіць яго ў свой чарговы шэдэўр. Толькі не выкідай, калі ласка, і апошняй маёй фразы, бо гэта будзе, прынамсі, няшчыра.

*(музэйны прадмет 32b-2344. Анатацыя: тыповы ўзор даваеннай французскай паштоўкі. Зважаючы на характэрную паставу аголенай мадэлі, Ё. Бэхэнсан PhD кваліфікуе дадз. артэфакт як характэрны ўзор кітча, які адсылае да мастацтва антычнасьці [23]. Заўв.: поле “адрэса” засталося незапоўненым)*

Верасень 1939 года, ранак. Я падстаўляла сваё цела (як яно ёсьць) сонечным промням, выскачыўшы на гаўбец нашага ўтульнага дамка ў прыгарадзе. Акурат пада мною густы слой зяленіва – дрэвы трохі ніжэйшыя за мой пяты паверх – і можна не баяцца, што мяне ўгледзяць суседскія хлапчукі. Я з прыемнасьцю думала, як я праўду яшчэ зусім сьвежае, бы венская булачка, сёньня. Мэлянхолія з прычыны хуткага сканчэньня вакацый адно дадавала гэтаму пачуцьцю адметны прысмак, у нечым падобны да цынамону альбо апэльсінавай стружкі.

Я ніколі цябе ня бачыла. Хаця ўжо неаднаразова спрабавала ўявіць. Калі я зараз заплюшчу вочы, мы ізноў будзем у нейкім горадзе, чужым і няветлым, дзе людзі гавораць незразумелай мовай – і гавораць, як мне здаецца, абы-што. Раптам ты прапаноўваеш уцёкі, і яны прыводзяць нас на ціхую вулачку, дзе з аднаго боку высяцца нейкі ангары, паржавелыя і зь дзіравым дахам, а насупраць — чарада нязграбных, але мілых камянічак з цэглы, атынкаванай у белы колер, і кірілычнымі літарамі “КБО” на адной зь іх.

Ранак – час для мрояў, ці ня так? Але ж мой розум гэтай парою абсалютна прызрысты. Рэчы, якія існуюць, падаюцца мне існымі, а рэчы, якія не існуюць – няіснымі. Восеньскія кветкі ля ўваходу ў пад’езд выглядаюць вельмі банальна, але ж усё адно яны цешаць маё вока. Ня буду табе пра іх апавядаць, бо, па шчырасьці, баюся падацца дурніцай. Як і пра свае ўражаньні ад палёту на дырыжаблі падчас Сусьветнай выставы ў Парыжы – хаця акурат цяпер, стоячы на сваім гаўбцы, я згадваю менавіта гэтыя моманты.

Але ўжо досыць. Чую грукат на лесьвіцы, і зараз дзьверы ў мой пакойчык, напэўна, адчыняцца. Не хачу быць засьпетай за такім падазроным для сумленнай паненкі заняткам.

Добрага табе дня, кім бы ты ні быў!

*(аброслыя шчэцьцю вусны размыкаюцца, і разам з подыхам тытуня ды алькаголя, адтуль вырываюцца ~~гукі~~ бязгучны шэпт)*

Працяг гэтай гісторыі я ведаю. Ты бярэш мяне за руку, і нашыя позіркі, урэшце, сутыкаюцца. У цябе кароткая фрызура, вельмі сьмелая для твайго часу. У нас дзяўчаты ўжо звыкліся да гэтага. Мы толькі што пазнаёміліся на вечарынцы ў майго сябра, імя якога я яшчэ не пасьпеў прыдумаць. Блін, што гэта я вярзу...

Спрабуючы цябе выдумаць, трэба неяк адсланіцца ад уласнага цела, выйсьці па-за ягоныя межы. Ёсьць думкі, якія немагчыма доўжыць, незваротна іх гэтым не сапсаваўшы. Лепей проста заплюшчыць вочы... вось так... у старой прагорклай краіне, у горадзе, дзе болей ніхто не жыве, дзе ўсе падзеі вычэрпваюцца адно пакалыхваньнем адбіткаў у калюжынах, ды яшчэ шоргатам афішы даўно прамінулага фільма, яе няўрымсьлівай балетнай імправізацыяй ў пары з усімі камянямі брукаванкі па чарзе.

Нэўтральная тэрыторыя, проста нідзе. Парослыя мохам пліты ня ведаюць слова “час” і, тым болей, “гісторыя”. Ідэальнае месца для рамантычных спатканьняў. Увушшу толькі гулкае водгульле маіх крокаў, як быццам бы мэтраном.

Закінуты рыбацкі баркас зь вялізнай ірванай ранай у паржаўленым баку...

Падсьвядомасьць штохвіліны прадукуе ўсё новыя і новыя вобразы, неўзабаве іх становіцца ўжо празьмерна шмат, яны наслойваюцца адзін на адзін, і няма той рукі, якая б своечасова націснула CTRL+ALT+DELETE. Хтосьці задаволена хмыкнуў ды пасьміхнуўся ў вусы.

Гэта падобна на стары прамысловы раён, дарога ідзе ўгору. Па-над комінамі тут ня ўбачыш дымок. У маёй руцэ паперка з адрэсай, і я ўглядаюся ў пачарнелыя шыльды на сьценах будынкаў, шукаючы патрэбную камбінацыю літар на незразумелай мове. Раптам там, за паваротам, твая постаць, ты прамінула па пэрпэндыкулярнай вуліцы, падсьвечваючы ліхтарыкам сваю паперку.

І чыйсьці кашаль за сьпіной, які нібыта выдае шпіёна, што цікуе за намі дзеля толькі яму ўцямнага інтарэсу.

У мяне прамоклыя боты, але дыстанцыя паміж намі паступова скарачаецца – па мілімэтры ў хвіліну. Зараз парвецца стужка, зараз з трэскам лопнуць сафіты, зараз рэжысэр зваліцца са сваёй вышкі, а ягоны мэгафон кантузіць апэратара і рыкашэтам пазабівае ўсіх статыстаў.

Гэта становіцца невыносным. Я зь цяжкасьцю ўздымаюся з крэсла ды іду ў ванную, каб падставіць галаву пад струмень ільдзяной вады.

*(Надпіс, зроблены на палях падручніка па філязофіі, які быў спалены ў буржуйцы зімой 1942 года).*

Восень прыносіць сьвежасьць, не такую легкадумную, як увесну, але насычаную мудрасьцю, хай ужо і зь лёгкім прысмакам цьвілі. Гэта нібыта *канец падарожжа*, так, менавіта канец падарожжа, вяртаньне, калі нават твой ушчэнт абрыдлы пакой раптам падаецца табе новым ды крышачку незнаёмым.

Уключыла радыё, але замест музыкі там нейкія няўцямныя гукі, што ледзь прарываюцца цераз шчыльныя мярэжы перашкодаў.

...Ну скажы яшчэ што-небудзь, не магу ж я ўвесь час балбатаць! Або, прынамсі, запытай мяне пра нешта. Пра апошнія здымкі ў атэлье мсье Бадаму, дзе я гайдалася на трапэцыі, ледзьве не сягаючы смочкамі падлогі. Або пра тое, як нейкі таўстун пазнаў мяне на вуліцы ў Рыме і падарыў шыкоўны букет, няспынна пры гэтым меньцячы языком. Я зразумела толькі, што ён бачыў мой фотаздымак у часопісе. Якое шчасьце, што ён ня ведаў французскай! Ты раўнуеш?

Не? Чаму?

— Амаль клясычны сюжэт, зь невялікімі інавацыямі, актуальнымі для нашага часу. Героі-закаханыя рухаюцца насустрач адно аднаму, адчайна намагаючыся пераадольваць ня столькі час і прастору, якія іх падзяляюць, колькі плоймы фальшывых сэнсаў унутры сябе.
— Ты гаворыш мovaю анатацый. Няўжо ня можаш хаця б на хвілінку абстрагавацца ад сваёй прафэсійнай дзейнасьці?
— ...І гэты рух нагадвае прасоўваньне цела тапельца па густым тлушчы, які спакваля пачынае застываць. Нараніцу атрымаецца някепскі халадзец.
— Так, але за гэтымі заваламі словаў тояцца жывыя людзі, і ты не павінен забываць пра гэта.
— Гераіню я ўжо прыдумаў. Гэта Мары, францужанка габрэйскага паходжаньня. Ёй 21 год. Зь дзяцінства яна ўсур’ёз займалася паветранай гімнастыкай, але пасьля атрыманай траўмы была змушаная пакінуць спорт і стала фотамадэльлю. Чароўнае мілае дзяўчо з задуменным выглядам, здатная ствараць сваім целам дзівосныя вобразы.
— Ну ты і прыдумаў, блін...
— Праблемы толькі з героем. Я амаль дэталёва яго ўяўляю. Гэта мужчына гадоў сарака (на твары ўжо праглядаюцца зморшчыны). Ён, напэўна, ваенны лётчык. Рашучы і стрыманы, але... за гэтай напружанасьцю выразна адчуваецца трагізм унутранай паражнечы. Ён ня той, кім бы хацеў быць, ён ня здатны сябе перасіліць, ён ня здатны паверыць у любоў...
— Колькі напышлівых словаў! Няўжо ў цябе няма нейкіх іншых?
— Баюся, што не. Словы – яны ўсе такія. Прызнацца, я і сам не даю ім веры. Але вельмі хочацца...
— Дык што цябе яшчэ стрымлівае?
— Я ня ведаю, у які час трэба яго апусьціць і ў якую краіну. Здавалася б, гэта дэталі, але...
— Гэта і праўда дэталі, якія ня маюць ніякага значэньня. Можа, напрыклад, Бангладэш часоў Вызваленчай вайны 1971 года?
— Ну фіг зь ім, няхай будзе Бангладэш. Больш за тое, я ня ведаю, што можа лучыць іх з Мары. Каханьне – гэта заўсёды адносіны. Адносіны паміж людзьмі, а не якімісьці эфэмэрнымі ўяўленьнямі.
— Каханьне – гэта тое, на што чалавек усё адно няздатны. Ці ня лепей тады аддаць усё ў Божыя рукі?

*(Завязка кароткага апавяданьня, якое мог бы напісаць Эрнэст Хэмінгуэй)*
З радыёрубкі я мог чуць апошнія навіны. Зьвяно індыйскіх бамбавікоў пасьпяхова дасягнула Дакі і зьнізілася для паражэньня цэляў у квадраце Б1 (кінастудыя). Паглядзеў на гадзіньнік: 18.09, усё як і мае быць.

*(Няхай твая рука зараз пройдзецца пад сукенкай уздоўж майго жывата, спыніўшыся трохі ніжэй за плечы, каб надаць гэтым мяккім тканкам іншыя абрысы, няхай твае пальцы павольна самкнуцца на самым піку. Апошнія восем хвілін перад сёньняшні абуджэньнем я адчувала твой язык у сваім роце. Даруй мне за гэтыя дзявочыя фантазіі, хаця я лічу патрэбным імі падзяліцца)*
Я сядзеў з келішкам віскі ў фатэлі на КНП аэрадрома ў Сіялкоце (індыйскія камандас узялі яго толькі ўчора, і пляшка кентукійскага пойла дасталася нам у якасьці баявога трафэю) і думаў пра разуменьне млосьці ў сартраўскім сэнсе. Нейкія невядомыя мне інсэкты, падобныя да саранчы, спараджалі суцэльны шумавы фон, які хіба на колькі імгненьняў быў парушаны рухавікамі трох бамбавікоў. Потым іх гул растварыўся ў вязкім бы сьліна небе.

За тыя месяцы, што прайшлі ад пачатку апэрацыі “Пражэктар”, пакістанцы так і ня здолелі стварыць нармальную сыстэму супрацьпаветранай абароны. Адпаведна, можна было цалкам прагназаваць, што іхнія асы адарвуць свае дупы ад зямлі акурат тады, калі нашыя бамбардыры пасьпяхова вернуцца на базу. Таму я меў усе шанцы спакойна дапіць свой келішак.

Мне чамусьці ўяўляюцца толькі фрагмэнты – нібыта па тваім целе павольна сьлізгае прамень сфакусаванага сьвятла. Разам зь ім спакваля прасоўваецца ўверх і мой позірк. Ад ледзь прыкметных зьвілістых ліній на мяккай скуры падэшваў (нават цяжка ўявіць, што менавіта гэтыя тканкі лучаць цябе зь зямлёй, пакідаюць адбіткі на ўзаранай ральлі, на мокрай падлозе кухні, на мяккім сьнезе – такой была задума фатографа), і далей, па скуры, пакрытай ледзь прыкметнымі пупырышкамі, да невялічкай ямінкі ў вобласьці калена. Я памятаю, ты нешта казала пра траўму? Хачу, каб яна стала нагодай для яшчэ аднаго дотыку маіх шурпатых абветраных вуснаў да твайго цела.

Пацалунак немагчыма апісаць так, каб гэта не выглядала празьмерна банальна або празьмерна фізыялягічна.

*Фрагмэнт сцэнару мэлядрамы “У шчасьці важны першы крок” (Дака, 1969), які ў фінальнай вэрсіі фільма быў заменены танцавальным нумарам.*

Раптам я кідаюся назад у пакой і ледзьве пасьпяваю дабегчы, каб пляснуцца ў ложак. Мне млосна, мне здаецца, нібы праз мае спусьцелыя зрэнкі зараз выпаўзе зьмяюка. Я адчуваю, што страціла нешта вельмі істотнае. Абрысы майго цела небясьпечна зьмяняюцца, мяса асыпаецца з костак і павольнаю сельлю гнілога месіва спадае долу. Шкілеты ўжо ня могуць ганарыцца тымі зграбнымі грудкамі, якія мне так прыемна шторанак бачыць у люстэрку. Не глядзі на мяне цяпер, ня трэба мяне такой уяўляць. Зараз прыйдзе мая кузіна, яна ўжо якраз сканчае пекчы пірог, зараз мы ўсядземся за стол і будзем піць гарбату з малаком. Я адразу пра ўсё забуду, літаральна ў адно імгненьне.

Плынь, якая вызначае твой маршрут, не дае ніякіх магчымасьцяў збочыць з магістраляў у ціхі ды ўтульны дворык, з абавязковай ніткай зацыраванай бялізны ды, магчыма, яшчэ і зламаным роварам.

— Гістарычна трохі непраўдападобна. Няўжо ты ня ведаеш, што групоўка пакістанскага генэрала Ніязі поўнасьцю страціла свае ВПС за тыдзень да бітвы за Сіялкот? Дык адкуль тады ў іх зьнішчальнікі? А бенгальскую кінастудыю пакістанцы зруйнавалі яшчэ ў першы дзень апэрацыі супраць сэпаратыстаў, за пяць месяцаў да падзей, якія ты апісваеш? Дый нашто індыйцам было марнаваць на яе бомбы? Тожа мне, стратэгічны аб’ект.

— А табе не фіялетава?

— Мне ружова. Гэта я проста так...

*Камбінацыя пластмасавых літараў, якая амаль ненаўмысна ўтваралася і тут жа рушылася рукамі Інгрыд – ёй было важна папросту захаваць іх маторыку, ня даць ім застыць і здранцьвець.*

Твае вусны вільготныя, і часам уранку мне здавалася, быццам прасьціна яшчэ захоўвае цяпло твайго цела. Нават карцела пайсьці цябе шукаць: у ванную, потым на кухню. Адчыняла адны дзьверы за іншымі…

Ёсьць думкі, якія нельга доўжыць, незваротна іх гэтым не сапсаваўшы.

Бакалейная лаўка на рагу вуліцы зачыненая. Рынак, дзе я амаль штодня купляла сабе садавіну, зусім пусты. Горад напоўнены нейкімі дзіўнымі людзьмі, падобнымі да міфічных істотаў зь дзіцячых казак (ніколі б не падумала, што столькі часу жыла зь імі па суседстве), яны ўтвараюць

на вуліцы несупынную плынь, цягнучы свае клункі. Раптам сырэна паветранай трывогі, і я нават ня ведаю, куды мне хавацца. Можа, ты падкажаш? Ну, падкажы, калі ласка!

Слухай мяне ўважліва. Галоўнае – захоўваць спакой і не развучыцца думаць. Калі ўсё адно няма шанцаў патрапіць у бомбасховішча, лепей папросту адыйсьці ад нейкіх вялікіх будынкаў, па якіх будуць цэліць лётчыкі. Тактыку дывановых бамбардыровак тады яшчэ ня вынайшлі, напальм яны выкарыстоўваць ня будуць. Дый Парыж, наколькі я ведаю, пацярпеў ад нямецкіх паветраных атакаў ня так і моцна. Таму не хвалюйся.

Я амаль што ўгрызаюся ў зямлю. Адчуваю ейны водар, ейную масьляністую плоць, і доўга назіраю за мурашом, які цягне кудысьці сваю галінку, без усялякай залежнасьці ад таго, што адбылося, адбываецца альбо мае адбыцца.

*Фрагмэнт дзёньніка індыйскага лётчыка, выкрэсьлены падчас публікацыі па прычыне ваеннай цэнзуры.*

18.12. Мы атрымалі загад падняцца ў паветра, накірунак на Даку. Сказалі быць гатовымі да сустрэчы з пакістанскімі “Сэйбрамі”. Хлопцы з майго зьвяна мацюкнуліся на родным хіндзі. Яно і ясна: ужо пачынала цямнець.

Мой “Нэт” сёньня працаваў надзіва спраўна. Адарваўшыся ад зямлі, я думаў над значэньнем слова “марэна”. Горная парода, разломленая на маленькія кавалкі з гострымі краямі, няспынна стаяла ў мяне перад вачыма. Я здрыгануўся, уяўляючы, як твае басыя ногі рушаць па ёй. Трэба ісьці вельмі павольна, вымяраючы кожны крок. Сьпярша твае рухі яшчэ маюць адпачатную грацыёзнасьць – нібы падчас чарговае фотасэсіі. Потым першая няўдача – зрэшты, заканамерная...

Гладкая скура сасьлізгвае па адпаліраванай дажджамі паверхні, на калене зьяўляецца першая крывавая рана. На пару імгненьняў ты застываеш у той дзіўнай вычварнай паставе, у якой выпадкова апынулася пасьля падзеньня, і назіральнік мог бы яшчэ ўбачыць у ёй нейкае хараство.

Тваё цела спакваля пакрываецца драпінамі. Наперадзе – кілямэтры марэны, па якіх трэба караскацца ўгору. Неба пахмурнае. Неўзабаве цябе засьпее навальніца. Я ўздрыгваю. Мяне ажно пачынае трэсьці. Каманды зь зямлі праходзяць міма вушэй.

— ...Разумею, але я баюся спаўзьці ў фальш, у бэлетрыстыку.

— Праўдападобна, ты ад гэтага не ўратуешся. Ды, як казалі ў тым анэкдоце, “продолжайте”.

— “Каб пачаць справу, няма патрэбы ў надзеі. Каб працягваць яе рабіць, няма патрэбы ў посьпеху”.

— Продолжайте, продолжайте.

*Працяг сну, які бачыць наведвальнік адной з закусачных у штаце Ілінойс – ня столькі п’яны, колькі проста стомлены:*

Напрамак на поўнач. Вецер для гэтай пары году надзіва моцны. Я загадваю сваім набраць вышыню да трох кілямэтраў. Бачу, што машынам паабапал мяне гэта ўдаецца зь цяжкасьцю.

Камандзірам зьвяна мяне прызначылі тры дні таму. Я яшчэ нават не пасьпеў толкам пазнаёміцца са сваімі падначаленымі. Абодва зусім маледзенькія – мусіць, толькі пасьля лётнай школы. Абодва – перакананыя індуісты, шчыра вераць у рэінкарнацыю. Раней мне яны здаваліся кімсьці накшталт іншаплянэтнікаў – арганізмамі, якія ніяк не суадносяцца з нашым зямным жыцьцём.

Узьняўшыся па-над аблокамі, ты думаеш, што так і не спазнаў свайго Бога. Ягоны голас раз-пораз даносіўся праз увесь гэты навязьлівы пошум, але ж я застаўся глухі.

А вось і нашы бамбардыры вяртаюцца з апарожненым брухам.

Усё-такі спрыт пакінстанскіх зьнішчальнікаў мы недаацанілі. Скраем вока я заўважыў, што адзін з бамбавікоў імкліва губляе вышыню, а зь яго бока сочыцца дымок. Карціна не з прыемных. Трэба сьпяшацца. Зрэшты, вось і кліенты.

Пяшчотная скура на тваіх ножках разьдзёртая ўжо да крыві…

— Авакада, бяры вышэй, потым твой правы. Не шкадуй паліва, разганіся па поўнай. Памэранец, ідзі за мною. Я падвяду сярэдняга, ты яго даб’еш. Выконвайце.

Я разагнаў свой “Нэт” да максымальна магчымай хуткасьці. На шчасьце, тэхніка ізноў не падвяла. Акурат у той момант, калі пакістанец ужо навёў на мяне сваю гармату, я рэзка павярнуў улева, набраў вышыню і баявым разваротам каршуном апусьціўся на яго суседа. Ды вось мой хлопец трохі стармазіў на сваю бяду. Сэкунда. Стрэл. Сэкунда. Стрэл. Сэкунда. Стрэл.

— Тэрмінова вяртайся на базу, — загадаў я, дабіваючы свайго “Сэйбра” з кулямёту. – І пастарайся дацягнуць.

Мне дасталося зусім трошкі, пара драпінаў на правым крыле: усё ж, фактар нечаканасьці... “Сэйбар” зь дзікім рэвам стаў апускацца долу. Сваю справу я зрабіў бадай ідэальна.

— Авакада, ты як? – запытаў я. Але адказу не пачуў.

Мяркуючы па ўсім, ягоны пакістанец таксама атрымаў някепска. Я стаў ізноў набіраць вышыню, ухіляючыся ад яго манэўру. Недабіты “Сэйбар” вырашыў уцячы, але дзе там?

…Па шчырасьці, мне было ўсё адно. Я проста націскаў кнопкі.

Цяпер матор працаваў ужо зь цяжкасьцю – мусіць, трохі, усё ж, зачапіла. Я зьнізіў хуткасьць, каб бедачына раней часу не перагрэўся. Тым часам, у полі зроку зьявіліся тры ледзь прыкметныя кропкі. Пакуль што, на ладнай адлегласьці, яны выглядалі зусім бяскрыўдна.

— Лётас, тэрмінова вяртайся на базу, — пачулася ў шлемафоне.

Я цьвяроза ацаніў свае пэрспэктывы – без уліку індыйскай прапаганды, якая цьвердзіла, што мясцовыя самалёты самыя лепшыя ў сьвеце. Параўнальныя тэхнічныя характарытыкі “Нэтаў” і канадзкіх “Сэйбраў” сьведчылі за тое, што спадзяванак адарвацца амаль не было.

Ты ізноў валішся, трапляеш нагой у вялізную расколіну паміж двух камянёў. Твой твар скрывіўся ад стомы, бясгучныя крыкі... Мне здавалася, што два целы ніколі ня стануць адным.

Кропкі імкліва набывалі выразныя абрысы, добра для мяне знаёмыя. Гэты сюжэт ня выклікаў у мяне ніякага ўсплёску адрэналіну, мне нават ня карціла даведацца ягоны фінал.

— Лётас, зьніжайся і паспрабуй ад іх адарвацца.

Рабіць такія спробы было папросту лянотна. Калі “Сэйбры” ўжо наблізіліся, я рэзка ірвануў наперад.

— Лётас, ты што, ашалеў? Тэрмінова вяртайся на базу. У цябе ніякіх шанцаў.

Выключыў радыё. Усё адно ўжо запозна.

Напэўна, яны пасьміхнуліся, калі мяне ўбачылі. Расьцягнулі сасіскай свае ганарлівыя пакістанскія вусікі. Я выціскаў з матору ўсе сокі, імкнучы напярэймы.

Як я і прадбачыў, яны паспрабавалі атакаваць мяне з флянгаў. Неўзабаве я ўжо мог раглядзець нават карункі блакітнаватай гліны на чэраве левага самалёта: нібыта геаграфічная мапа зь дзіцячай кніжкі. А пілёт правага меў сьмешнавата доўгі нос.

Твая нага трапляе ў вузкую расколіну з ірванымі краямі, а вусны скаланаюцца ў бязгучным крыку.

— Дарэчы, слухай, а чаму ў цябе паўсюль вайна? Што яна мае супольнага з каханьнем?

— Гэта ўжо завядзёнка, свайго кшталту, стэрэатып. Насамрэч, мяне цікавіць фізыка. У прыватнасьці, закон сусьветнай энтрапіі. Але апісаць на малекулярным узроўні працэс паміраньня з маімі ведамі ў галіне дакладных навук даволі складана, і таму я лічу за лепшае

разабрацца са сваімі героямі па-мужчынску.

*(надпіс на цыгарэтным пачку, які патануў у рацэ Мегхна)*

Я рэзка скінуў хуткасьць і стаў какетліва зьніжацца, чакаючы на рэакцыю праціўніка. Пастка спрацавала. Без усялякага энтузыязму націснуў на гашэтку. Ён пасьпеў зрабіць тое самае.

Можа, хопіць ужо гэтай падзейнасьці, выдуманай нейкім вар’ятам? Проста, заплюшчы вочы, каб мяне бачыць. Я гатовая. Заплюшчы вочы, і, мажліва, у нас атрымаецца першы на сьвеце сэкс па-за прасторай і часам.

Мноства аголеных целаў, пазбаўленых нават намёку на эратызм. Целаў, якія неўзабаве стануць прысакам. Тут, ля канцовага прыпынку чыгункі...

У краіне сьветлай, дзе я паміраю, унутры зьнішчальніка “Нэт”, чый нос паступова пагружаецца ў глей ракі Мегхна.

Я думаю пра тое, што няўмольнасьць гісторыі – адзінае маё алібі. Прыемна пачувацца пазбаўленай выбару ахвярай. Я ня здолеў пакласьці сябе на Ягоныя працятыя цьвікамі рукі, а вось гэтыя машыны гісторыі мяне адразу ўзялі за шкірку.

Я ўздрыгваю. Аўтар, які нас напісаў – яшчэ той мудзіла! Мы патрэбныя яму адно каб ён мог даць рады сваім тупарылым комплексам. Але вада ўжо амаль напоўніла кабіну. Хаця мае рукі цэлыя, мне ня хочацца варушыцца. Дый спрабаваць адсюль выкараскацца ўсё адно будзе запозна. Затое, зьявіцца колькі доўгачаканых хвілінаў для нязмушаных роздумаў. Мне іх не хапала ці ня ўсё жыцьцё.

Перад вачыма – ейная родзімка на левым сьцягне. Няўжо яна таксама пераўтворыцца ў прысак?

Дзявочы голас, раптам дзявочы голас: “І галоўны вораг – сьмерць – таксама будзе адужаны?”

Заплюшчы свае вочы, каб мяне бачыць.

Усё, што мне хацелася б зрабіць сваімі ацалелымі рукамі – гэта набіць рыла аўтару. Я яго самога засуну ў чэрава самалёта, які тоне ў рацэ, а потым зраблю зь яго машыну па вытворчасьці эмоцый чытачоў.

Я ня бачу твайго твару, я магу толькі яго ўявіць. І баюся, што мае ўяўленьні будуць фальшывымі. Але рэцэптары маёй скуры па-ранейшаму адчуваюць цяпло. Здаецца, нібы яшчэ адзін сантымэтар, і я да цябе дакрануся. Можа, гэта таксама падман?

Гісторыя, час і прастора – гэта туша мёртвага насарога, набрынялая сьмярдзючай вадой чыіхсьці сапсаваных памкненьняў.

Інтуітыўна, бяз компасу і трывалых арыентыраў мы рылі тунэль насустрач адно аднаму ў зьмякчэлае адрузлае плоці, рукі разрывалі гнілое мяса, яно наліпала паміж пальцамі. Мы спадзяваліся, што калісьці тунэлі сыйдуцца. Але ў выніку…

У выніку быў проста сон, выкліканы зьнямогай.

Але яшчэ ня позна, не зважаючы на ўсе выдуманыя ня намі сюжэты.

Заплюшчы свае вочы каб мяне ўбачыць.

Заплюшчы свае вочы каб мяне ўбачыць.

Заплюшчы свае вочы каб мяне ўбачыць.

Заплюшчы свае вочы каб мяне ўбачыць.

— Ты верыш у каханьне?
— Так.
*(выглядае ня дужа пераканаўча)*
— Ты верыш у каханьне?
— Так.
*(выглядае ня дужа пераканаўча)*
— Але я ўсё адно веру.
— І што здарылася потым?
— Будучыня Мары дакладна невядомая. Магчыма, яе радзімкі былі спаленыя ў адной зь печаў Аўшвіц-Біркенаў, і ты цяпер можаш прайсьціся па ейным разьвеным праху, калі патрапіш туды на экскурсію. І пачуеш расповед пра труп ачаравальнай юнай габрэйкі, які прачулыя эсэсманы перад утылізацыяй упрыгожылі палявымі кветкамі.
— Мудак Пазаліні нават знайшоў бы тут пэўную эстэтыку. І сапраўды... Прыгожы канец – з пункту гледжаньня бэлетрыстыкі.
— Зрэшты, магчыма, яна спакойна дажыла свой век на поўдні Францыі. Але... што нам да гэтага? Безумоўна, ейнае цела ў кожным разе ўжо расклалалася на мімкраэлемэты. Яно было зямным, абмежаваным у прасторы і часе, jailed by a falling light.
— У змаганьні каханьня і сьмерці перамога была прадказальная?
— ... Усё ж, думаю, ты памыляешся.
— Між іншым, а што здарылася з гэтым хлопцам? Ён даляцеў да сваіх або так і загінуў на выспачцы пасярод гэтага Гангу?
— Якой выспачцы, якога, нафіг, Гангу? Мабыць, ты няўважліва слухала. Але якая, урэшце, розьніца? Мы з табою маем уласную гісторыю, якая, павер мне, таксама вартая ўвагі. І, дарэчы, працягу.

# VI. Рокэнрол

*Тры маскі-пэрсоны: тыповы цэнтральнаэўрапейскі бомж, тыповая рок-зорка, тыповы постсавецкі бухгальтар. На пачатку дзеі актор дбайна чаргуе маскі, потым пачынаецца блытаніна, потым усё ізноў вяртаецца да пэўнай упарадкаванасьці – зрэшты, зусім ненадоўга. Часам актор ня ведае, якую маску выбраць, і таму ў пэўныя моманты вымушаны абыходзіцца без ніводнай.*

*Напрыканцы дзеі масак становіцца значна болей. Шмат розных галасоў, сярод якіх губляецца голас актора.*

*Праз увесь час нехта нябачны камэнтуе дзеяньне з дапамогай выклічнікаў, сьмешных гукаў і кароткіх фраз. У большасьці выпадкаў, гэтыя рэплікі ў тэксьце адсутнічаюць – яны могуць быць спантаннымі.*

Паволі працягваючы рух угору па ейным сьцягне, я раптам натыркнуўся пальцамі на шурпатае шво, дзе навобмацкі было нават трохі калюча, вострыя краі ўтварылі на брудных фалянгах маіх пальцаў калі не парэз, дык, прынамсі, прыкметны паз. Гэта было ўжо ля тых самых мускулістых акругласьцяў, якімі заўсёды вылучалася Лара Крофт. Матэрыял быў трохі халаднейшы, ніж тэмпэратура майго цела, плястмаса ўвогуле безнайдзейна халодная, і Лара Крофт тут не выключэньне. Тым ня меней, я ўпарта працягваў гэтыя свае рухі, нават не чакаючы на нейкую рэакцыю, сьціскаючы і сьціскаючы, а потым, калі ў яе воку ўжо лопнула спружынка. Потым здарыўся нейкі разрыў, і я расплюшчыў вочы.

Я ляжаў на падлозе чыгуначнага вакзалу ў Трыесьце, і ў такім ракурсе (зьнізу ўверх, пад вуглом прыкладна 30°) адкрываўся вычарпальны від на суседнюю вулачку, з гэтым ідыёцкім шапікам прэсы і засьмярдзелымі гральнымі аўтаматамі, куды акурат заходзіць ну такі. Падлога тут усё яшчэ пакрытая пліткай, мабыць гэта спадчына Аўстра-Вугорскай імпэрыі. Параблема ўрэгуляваньня... ці пра што там яшчэ казалі сёньня па радыё... сёньня гэтая мэта падавалася ўжо сёньня бадай недасяжнай і ўвогуле пляваць я хацеў на. Сёньня, сёньня, сёньня, сёньня.

У жываце бурчэла ад пракіслага малака.

Апэратар ужо наладжваў бялянс белага, карэспандэнтка трымала мікрафон напагатове, і я ледзь прыкметна зморшчыўся, спрабуючы надаць сваім зморшчынам той самы рамантычны выгляд, які гэтак моцна падабаецца фанатам: ён ведае пра жыцьцё трохі болей за нас, блаблабла. І зараз ужо пачынаем працаваць, але так ненапружліва.

На адной з плітак прасочвалася мілімэтровай таўшчыні расколіна, якая перасякала яе ад краю да краю, сьпярша як амаль што прамая лінія, потым ледзь прыкметна збочваючы ўправа, і затым летуценным бы начны палёт Джоржа па-над Александрыяй *(і хто гэта, блін, такі?)* зыгзагам скіроўваючыся назад. Перад вачыма раптам ізноў пульхная жаночая ножка, цяпер ужо абцягнутая чорнай панчошкай, у якой, з выкшталцона неахайнай дзюрачкай, якая, пашыраючыся бліжэй да лыткі, узнаўляе абсягі, ружаватае адценьне скуры, пад якой праглядаюцца блакітныя капіляры, на якую.

Потым быў самы час распавесьці некалькі гісторыяк з уласнага жыцьця, якія гэтак вабяць маладзенькіх журналістачак, раз-пораз нават бяз споднягa. Пытаньні ўжо, мабыць, усе скончыліся, але мікрафон у мяне па-ранейшаму быў перад носам, і апэратар сумленна

працягваў здымкі.
Калі аднойчы ў нас у Чыкага парвалася струна, а бубнач быў настолькі п’яны, што пераблытаў палкі з уласнай галавой.
Я тады проста стаў здымаць зь сябе адзеньне, сьпярша канцэртны пінжак, затым прапахлую потам майку, потым дайшоў і да нізу...

Дзьверы, мабыць, не былі зачыненыя ўшчыльную, і праз маленькі прагал трохі дзьмула. Асабліва тут, на пакрытай аўстрыяцкай пліткай падлозе.

Я раздаваў свае транты публіцы, якая ажно шалела ў экстазе ад эпатажнай маёй самаахвярнасьці, і ў люстэрку я бачыў тысячы ўсхваляваных твараў на адной хвалі ўзносячыся ў.

Тэлепраграма скончылася заўсёдным дзяржаўным гімнам, і я доўга глядзеў у акно, на парэпаны паркан папяровай фабрыкі, паўз які паволі рушыла міліцэйская машына. У галаве млява і натужліва варушыліся сёньняшнія навіны, асабліва пра папаўненьне ў Гарадзенскім заапарку. Прагорклы смак таннай гарбаты зь нявымытага праз ляноту кубка. Я пачынаў выразна ўсьведамляць, што мой мозг створаны з клетак, прычым кожная зь іх у нечым падобная да турэмнай камэры. Дзень скончаны зь лікам 0:7, можнаісьці спаць. І галоўнае – не забыцца памазаць крэмам пальцы ног.

Тур трэба было працягваць, нас чакала яшчэ колькі канцэртаў у Сыетле і Тэхасе, квіткі прадаваліся няблага, нягледзячы на сэзонны крызыс, там я атруціўся гэтым псэўдаспагеці з жучкамі.
І потым люстэрка ў маім гатэльным нумары, акурат па-над мыйніцай. Я безуважна глядзеў перад сабою, проста каб кудысьці глядзець. Люстра было вялікім, дзьверы ў ванную прыадчыненыя... Ліза, плачучы, схапіла мой станок для галеньня, паднесла да твару, і... Той я мыць ня стаў, і новы давялося купляць ужо ў Флярыдзе, калі падбароддзе абрасло шчэцьцю, і хтосьці з журналістаў напісаў пра зьмену іміджу.
Такі напружаны туравы графік вытрымаць папраўдзе няпроста, ён вымагае асаблівай канцэнтрацыі сіл. Канцэрт у Сыэтле быў незабыўным, я валадарыў імі, матляючы над галавою мікрафоннай стойкай. Аўтографы на цыцках... ну, і, карацей, як звычайна.

Раптам зьнік гук, і сківіцы мінакоў варушыліся ўпустую.

Позірк цяпер факусуецца на сьпінцы чырвонага плястмасавага крэсла, звычна шукаючы там драпіну, хай гэта будуць нейкія крамзолі або проста сьлед ад валізкі, абабітай жалезнымі вугалкамі. Але аранжавая паверхня бадай ідэальная ў сваёй гладкасьці, нават да крыўднага ідэальная, да галюнікаў, хоць ты рукі на сябе накладзі. Я чамусьці вылю і, каб суцешыцца, раблю чарговы глыток.
Тут, у Трыесьце, галава забіваецца новымі шаблёнамі, паштальёны ў сваёй сіняй уніформе мне іх прыносяць рэгулярна, я засоўваю скамечаныя паперкі ў капялюш і пачынаю выцягваць па чарзе адна за адной. “Мастацтва – гэта калі ня верыш у праўдзівасьць існаваньня”... Лаюся, скамечваю ізноў, шпурляю яе ў двух фацэтаў, што акурат шыбуюць паўз мяне са сваімі валізкамі. Турысты call police, але хер тут хто зразумее іх інгліш. Зьвярнуліся б ужо лепш па-цыганску.

Я гутарыў зь ёй на нейкім банкеце, здаецца, у пасольстве. Тата – прамысловец зь Летувы, а

мама... гэтую тэму яна ветліва абмінула. Пачаў я, вядома, са свайго новага альбому, з тых літаўраў у трэцяй кампазыцыі, якія павінны былі надаць адмысловы трагізм... Я закрануў тэму пра самаахвярнасьць творцы, звыклым позіркам ацэньваючы яе бюст. Ёй было ўсё роўна, яна проста паліла цыгарэту за цыгарэтай. Моўчкі паліла, і ўсё тут, і ні фіга болей. На тварыку ўжо прарысавалася зморшынка, такія звычайна бываюць у студэнтак-завучак. Я стаў прыводзіць дасьціпныя прыклады з жыцьця пігмэяў Руанды, выяўляючы сваю абазнанасьць і красамоўства. Мне хацелася нейкім чынам збавіць ейную душу, але яна проста моўчкі паліла, а потым моўчкі ўскараскалася на падваконьне, паверх, здаецца, быў шосты. Тая прыемная палоска між сукенкаю і панчошкай... А потым яна моўчкі кінула ўніз недапалак і зрабіла крок наперад. Назаўтра я прысьвяціў ёй новую песьню.

Пахне чымсьці печаным. Так звычайна пахне на вакзалах.

Я дастаю яшчэ адну паперку і пачынаю чытаць неразборлівыя крамзолі: “Можа, для пачатку трэба было стаць проста чалавекам?”. Мне трошачкі сорамна, і гэта нагода, каб яшчэ выпіць.

Ду ю лайк рокэнрол, хэй, гай, ду ю? Ён мне тлумачыць, што не разумее гішпанскай.

Трыест тут пекны горад мабыць мора і яшчэ здымаюць фільмы пра мафію. Прыязджаюць увечары на ўзьбярэжную на дзьвюх чорных машынах і скідаюць нешта такое наўпрост у ваду. Плюх. А потым сядзяць і робяць мантаж, папіваючы марціні з крышталёвых шкляначак на доўгай ножцы, апранутыя ў швэдры грубай вязкі з каўнерамі да падбароддзя. І адзін кажа другому такім рафінавана-далікатным тонам: “Гэй, Моніка, мне здаецца, балянс сьвятла патрабуе пэўнай карэкціроўкі ў бок паглыбленьня...”

Я калі ўзяў гэты рыф яны ажно загудзелі так чуеш гэта было здранцьвеньне і сапраўдны аргазм, у адзіным парыве булькалі сэ

У сьвеце людзей усё бывае іначай чым у сьвеце дэманаў

Я тады папрасіў яго гай ну малады чалавек пастой тут хвілінку я хачу напісаць пра цябе песьню ды ня трэба мне твая дробязь хіба цыгарэту Ды не пастой ты проста што-небудзь кажы Напрыклад гэта куул або ай лайк хер бэээ Гэтая песьня яна будзе сапраўдным хітом яна патрапіць у чартсы слова пацана толькі дай мне пліз трохі часу.

Так, трохі часу, пліз.

Зраніцы я гатую сабе ячневую кашу, і так амаль на кожны сьняданак. Пацепваючыся, падыходжу да мыйніцы, бяру брудны рондаль, набіраю вады з крана. Сусед, тым часам, ужо пасьпеў уключыць радыё. Пахне ніштавата. Я вельмі люблю рэдзьку, там шмат карысных мікраэлемэнтаў. Купляю яе на нашым рыначку і ўпотайкі хрумстаю. А ў сталоўку падчас абеду не хаджу: там поўна народу, усе гэтыя матроны зь фінансавага. Ды і дарагавата, аднак, калі шчыра: за шніцэль пяць з паловай.

Потым наш туравы аўтобус рушыў паволі праз альпы... альбо кардыльеры. Я выйшаў пасікаць, там быў месяц і высокая трава, і нейкія цвыркуны яшчэ, я, пахістваючыся, расшпіліў прарэх, шалеючы ад уласнай крутасьці. І сказаў я, гучна сказаў, каб усе чулі: “Горы, неба, месяц у небе па-над гарамі і тая вунь рачулка, што нягегла валачэцца сабе дзесь у цясьніне! Ці здатныя вы ўсьвядоміць маштаб маёй крутасьці? Ці ведаеце вы, што такое сапраўдны рокэнрол?” Але аўтобус ужо нецярпліва піпікаў, а я ж нават яшчэ не зрабіў сваёй справы.

Паддатая славенская цётка з двума клункамі, якая ўжо каторую гадзіну ня можа дачакацца сваёй электрычкі. Яна кажа, што ўсё ад пачатку херова. Кажа, як пачаўся дзень, гэтак і. Кажа мне, я перасмыкаюся, шукаючы словы на замежнай мове і кажу ла ду бірб. Яна ня слухае, але ківае ў знак згоды.

Гатэльны ручнік быў ушчэнт запэцканы крывёю. Потым яна папрасіла кавалачак плястыру, схілілася па-над люстэркам, каб заклеіць парэз, падхапіла кайстрачку і моўчкі выйшла. Пару наступных сэкундаў дзьверы зь лёгкім мэлядычным рыпеньнем ішлі на кантакт з вушаком, а потым сам сабою спрацаваў швайцарскі замок. Я прысеў на ўслончык, каб, урэшце, дачытаць рэцэнзію ў NME.

Рабства тленьня, ад якога няможна пазбыцца.

Тым часам, аб’явілі пасадку, і я адразу заўважыў, што голас чарнявага хлопца ўжо трохі прасеў: канец яго зьмены. Чарговы цягнік кудысьці вырушыў, а я зноў застаўся.

У Сыэтле мы ізноў усіх парвалі, толькі гэты казёл з бародкай, які круціўся ў грымёрцы, ціпа, вядомы тут крытык, я дыхнуў яму напрост у твар, дыхнуў тым пахам, які ён так не шануе, і сказаў “Ша”. Я пакажу яму, што такое рокэнрол. Рокэнрол – гэта я! – вось што напісана на майцы. Мая галава – рокэнрол. Мая рука – рокэнрол. А ныркі, а пячонка, а іншыя ворганы?

Я сьмяюся з уласнага жарту, прыцікаючыся да вакзальных дзьвярэй, і нейкі п’янтос мне вясёла падміргвае. Цяжка паверыць, што заўтра ізноў на працу, ізноў гэтыя лічбы.

Рок-канцэрт – гэта яднаньне пачуцьцяў, калі і наш пот, здаецца, ужо становіцца агульным, аднак

**Голас за кадрам:** *Угу, а што там у нас па іншым канале?*

Відэапраекцыя, жаночы твар буйным плянам, ненатуральна запаволеная міміка. Тэкст начытаны з характэрнай для дыктараў навін інтанацыяй.

Цемра вонкавая: плач і скрыгат зубоў.

Інгрыд ставіць на пліту імбрык, запальвае. Ёй хочацца вышкубатаць сабе правае вока шчыпчыкамі для пазногцяў, каб павольна і як мага болей вострых адчуваньняў.

Дом на ўскраіне; шматпавярхоўка, лістапад, за вакном аблокі падобныя да хімічнай рэакцыі ў колбе, ацяпленьне працуе слаба. Дзьмухнуўшы на шыбіну, адчуваеш судакрананьне двух відаў холаду.

Дзесьці ў нетрах medulla — млявае буркатаньне, а потым праз усе шчылінкі ў галаве гучна выходзяць газы.

Патрэбна, аднак, хаця б трохі тонусу, каб ушчэнт не згубіцца. Патрэбна трохі сьвятла, і тут лёгка схапіцца за любы зманлівы агеньчык. Яна ізноў занурваецца ў тую вязкую, але цёплую прастрацыю, што замяняе ёй мінулае. Там, падкурчыўшы ногі, можна ўтульна схавацца, нібыта загарнуўшыся ў зашмальцаваную ватную коўдру дзесьці ў кутку бруднага вакзала, на пашчэрбленай аўстрыйскай кафлі.

Перад вачыма гнойная тарфяністая дрыгва.

Так пачуваешся толькі адразу па забойстве Бога.

Боль маёй мамы, такі просты і чалавечы

Боль маіх дзяцей, якія так і не нарадзіліся.
Боль таго дзіцяці, які ўва мне памёр
Боль у гэтых вачах, якія прагнуць усё дараваць. Мне тады сьнілася, што я гвалтую д’ябла, прама ў жопу
Боль вось гэтай чарнявай італьянкі, якой сяброўка наступіла абцасам на мысок кеда. Рэальны боль, рэальны кед, рэальная італьянка.
Бойка на шаблях з д’яблам стала цьвіком праграмы
Потым я адрубіўся на лавачцы проста пасярод Вены, і яны падышлі да мяне і лагодна патузалі за плячо. Адзін прамовіў пяцістопным ямбам.
Потым матэрыялізавалася і якаясьці пажылая турыстка, зразумела ж, зь люстэркавай камэрай.
Дотык быў лагодным і трохі нясьмелым, як у той дзяўчыны, што паліла на гаўбцы посткаітальную цыгарэту.
Яна была сэкс-рабыняй карпарацыі Procter&Gamble.
І насіла ружо *шчыліна ў плітцы более*
вы бюстга
льтар зь дзіця *нібыта рассоўваецца курціна*
чымі мішк *і я ня ведаю, якім будзе наступны кадр*
І я ня ведаю, якая картка апынецца наступнай у папугайчынай дзюбе, і хто возьме джэк-пот у лятарэі маёй падсьвядомасьці.

Гэты момант перад самым выхадам на сцэну, калі стадыён ужо раве, хтосьці лаецца, і трэба зь першага акорду... Я трызьніў ім ажно са школы, і асабліва на курсах бухгальтараў.
Наматаўшы на руку дрот ад мікрафону
Неяк наўпрост у сваім офісе я пачаў танчыць. Вы любіце рокэнрол я крычаў вы любіце рокэнрол вы факінг бастардс ці любіце рокэнрол
(Мне заўсёды карцела пісаць бяз знакаў прыпынку, як Джым Морысан, ці гэты патлаты як-там-яго)
Я хацеў іх парваць зь першага акорду, мой твар ужо пажухнуў, але рукі пакуль што ня трэсьліся, толькі вось гэтыя залысіны...
Я стаў пісаць справаздачы ў падаткавую бяз знакаў прыпынку.
Гэй, Міхалыч, ты што, афігеў, спытаў ён. Зайдзі-ка да мяне ў габінэт. Та-ак, я бачу, што вы ўжо стаміліся, і самы час адпачыць...

Але мы працягвалі свой тур, шаша вяла нас у Флярыду. Атлянтычнае ўзьбярэжжа – гэта адмысловы край, там такія пыхлівыя людзі, зь вялікімі ўсьмешкамі да вушэй, і толькі здаецца, што яны адмыслова для цябе, а насамрэч. Яны вельмі часта мыюцца.
Яны ўсе ганяюць на фэрары і маюць смартфоны па тры штукі баксаў. У Флярыдзе таксама, здаецца, здымаюць кіно. А потым удзельнікі здымачнай групы сядаюць за летнія столікі прыбярэжнай кавярні і робяць роўныя палосачкі коксу. Працоўны дзень скончыўся, на моры лёгкі брыз, цёпла, блін, можна падумаць пра ножкі ў панчошках, асабліва калі ты асьвятляльнік.

Скрозь шыбы вакзальнай прыбіральні відаць абрысы гор. Калі на золку трохі разьвіднее, ты можаш уявіць Ягнё Божае, Які валачэ на Сваіх плячах грахі сьвету — дзесьці ўдалечыні, на выразнай лініі далягляду, не заўважаны нікім з жыхароў гораду і даўно забыты табою.

Дзяўчынка тузае маму за руку, ёй карціць зрабіць імгненнае фота ў вакзальным аўтамаце. Тая аднекваецца: трэба яшчэ пасьпець у краму, каб купіць там гель для душа. Хаця фота ў аўтамаце

– гэта ж клёва, спачатку бліск, а потым пчжык, і вось яно ўжо вылазіць.

Дзіця, якое памерла ўнутры мяне, умела вымаўляць слова “грэйдар”.

Дзіця, якое памерла ўнутры мяне, сьніла робатаў і дыназаўраў ды адмаўлялася сьніць Спайдэрмэна.

Дзіця, якое памерла ўнутры мяне, лічыла словы сьмерць і сьмех аднакарэннымі.

Дзіця, якое памерла ўнутры мяне, было проста дзіцём, і гэтага было дастаткова.

Тэхнічны райдар быў выкананы даткліва, але ў маніторах не хапала басу. Я ім сказаў: сукі, дзе бас у маніторах? Вы, підарасы, дзе бас у маніторах? Я каго пытаю, мля, дзе бас у маніторах? У тым бары мяне нават ня білі, проста выкінулі за дзьверы, і я шурх аб старую брукаванку. Ледзь не сутыкнуўся ілбом з бронзавым Джэймсам Джойсам.

На адваротным баку вуліцы хлопчык цягне прывязаную да вяроўкі машынку. Плястмасавыя колы чуйна рэагуюць на кожную выбоіну ў далёка не ідэальным асфальце. Калі трапляецца каменьчык, машынка выдае пстрыканьне, калі кавалачак шкельца, я чую дзыньканьне. Кожны сантымэтар асфальту спараджае ўнікальнае гукавое суправаджэньне. Мама хлопчыка прыпынілася ля яткі з садавінай-гароднінай, каб набыць пару-тройку бананаў. Сьпелыя цельцы лёгка аддзяляюцца ад жоўтае абалонкі і з гукам, падобным да хлюпаньня, апускаюцца ў бліжэйшую сьметніцу. На губах і нават падбароддзі хлопчыка засталася вільгаць ад зьедзенага толькі што фрукта.

Сцэна, за якой я назіраю з вакзальнага ганку, не патрабуе камэнтароў. Яе вельмі цяжка як-кольвечы інтэрпрэтаваць. Без сумневу, яна ня мае абсалютна ніякага дачыненьня да тэмы саахвярнасьці ў мастацтве.

Перад вачыма млява паўзе прусак, ён рэзка зьмяняе траекторыю і ў адзін цудоўны момант пераходзіць на бег. Два рудыя вусікі. Ён перакрочвае драпіну на плітцы, якая раптам мяняе свой напрамак, утвараючы дугу. Прусак у разгубленасьці, сьпярша ён паслухмяна рушыць уздоўж драпіны, потым нэрвова паварочвае, пачынае круціцца на месцы.

Я выцягваю з капелюша яшчэ адну паперку — з простым словам “фальш”.

Піратэхніка ізноў схібіла падчас другога залпу, і я запатрабаваў ад роўдзі сёньня ж звольніць гэтых афэлкаў. Да наступнага шоў было яшчэ болей за суткі, значыць, можна знайсьці замену. Тут, у Флярыдзе, трэба, каб усё было пэ

Я ахвотна ківаю галавой: так, так, я ўсё гэта ведаю, але... Пінжак ужо пасьпеў ладна закарэць, і пах яго быў такі, што. Пазбавіцца фальшу – гэта ў нечым нагадвае самагубства.

Вельмі важна мець добую тэхнічную каманду, а яшчэ важней – добры мэнэджмэнт.

Прусак вырашае скараціць сабе шлях па маім няголеным падбароддзі.

Цёркі, розныя канфлікты — ну, гэта, вядома, куды ж бяз гэтага? Хаця сума ганарараў мяне не асабліва хвалявала, я называў яе са столі. Вось, пагляджу на столь, і тады кажу: ну, дзьвесьце тысячаў. А потым яны і гавораць, ну і гэты лупаты таксама. Я ж шчыры чалавек, калі ў шкарпэтках, ну і без усялякай там. Увогуле, гэта як праца, але ўнутры і самаахвярнасьць таксама, вы ня думайце. Глыбока і каб мінералачкі на адзін прысест увосень расчапіць.

Я ўскокваю пасярод ночы і крычу: гэй, хто тут аўтар? Дзе аўтар, мля, я наб’ю яму рыла! Уваччу рознакаляровыя джунглі, вельмі хочацца піць. Хто складае гэтыя сучыны словы ў сказы? Я хачу спаць, проста спаць.

*Пошукі аўтара ў зале. Безвыніковыя.*

Мабыць, уцёк, сука, ізноў уцёк, сука.

У Вене ў сквэрыку імя Фройда пад лістоўніцаю якая даўно ўжо не пладаносіць
Раскладаю на лавачцы сьціплы ўраджай свайго жыцьця
Яблычак які падараваў мне нейкі кашлаты бомж
Булачку недаедкі піцы пакецік віна
І нават адну цукерку амаль чупачупс
Эмпірычнае сузіраньне спатолі імгненьне схалястычнага прасьвятленьня
Я сам понимаю, что это херня какая-то, но... я актер, у меня работа такая
Можа паэзія ў расчапленьні суцэльнага месіва космасу
На дробныя іскрынкі хлапечых летуценьняў?
адрыгнуў шпурляю ўсё гэта прэч устаю і раву зуууу
Альбо гэтая мэтафізыка наогул неспасьцігальная для сьмяротных?
мне агід я ттттттттттапчу клюмбу ў форме лібіда я на іх а птм мова вяртаецца як ббббццам бы сьвядо псля комы я крычу бас он зэ моніторс пліз я плю

Яблычак закаціўся пад лаўку, і мне яго ветліва падаў нейкі студэнт.

Музыка: суцэльная мэханіка, здольнасьць успрымаць вібрацыі паветра.
Музыка: вібрацыі паветра, якое зьяўляецца хіміяй.
Музыка сканчаецца, калі вырубаюць электраэнэргію.
Сканчаецца, калі турак, урэшце, зачыняе сваю кебабніцу (ён таксама чалавек, і мусіць жа некалі спаць).
Музыку не чуваць пад вадою, хіба толькі глухое водгульле.

---

*Што далей?*
*Будзеш працягваць?*

У той назьдзіў цёплы сакавіцкі дзень я выпраменьваў афарызмы, мы шпацыравалі з мэнэджарам па Пікадылі. Да канцэрту заставалася яшчэ колькі гадзін, ды і каштаны своечасова ўжо расьцьвілі *(ды ну?)*. Самаўпэўненасьць пасуе мужчынам — як і лёгкая няголенасьць, а таксама нязмушаныя жэсты пальцамі правай рукі. Ля будынку Каралеўскай акадэміі мастацтваў прадавалі лёдава. Галубок утрапёна дзёўб некуды ў адно месца, сілячыся патрапіць у шчыліну паміж жалезных пруткоў, каб дастаць адтуль спакусьлівую семку.
Што было далей... Па шчырасьці, у мяне ўжо бракуе ўяўленьня. Множыць гэтыя бессэнсоўныя быцьцёвыя фэномэны мне дастала, лепей пайду пасплю.

І цела сьмерці становіцца паталягічна пухнатым

Зьяўленьне новай пэрсоны

Падняўшы яго, я адразу пашкрэбла пазногцем, і гэты пазнавальны знак, які паказаўся з-пад ссохлага бруду, расплюшчыў мне вочы на многае, што было зьвязана з Аліцыяй і апэрацыяй, якую ў той час называлі “Зімовае прасьвятленьне” – хаця, зразумела ж, яе кодавае найменьне было зусім іншым: “Тэма суськікаў яшчэ не раскрытая”. Я непрыкметна схавала гэты кругляк у

сваю кайстрачку, трохі патоўпілася ля тумбы з афішамі і павольна правяла па твары пазногцямі, усёй пецярнёй. Некалькі кропель крыві патрапіла ў рот, і я сплюнула на глянцавы твар артыста Някедава. Навошта? Чаму?

Гардэробшчыца просіць публіку забраць паліто не пазьней, чым праз пятнаццаць хвілін: маўляў, яе працоўны дзень блізіцца да завяршэньня, а ёй сёньня трэба. Уварваньне ў тэатральную прастору мае бесцырымонны, але, у той самы час, вельмі чалавечны характар. Актор непрыкметна паглядае на гадзіньнік: бачна, што ён прыняў інфармацыю да ўвагі.

Ліза проста пайшла, нават не разьвітаўшыся, а я нясьпешна азнаёміўся з рэцэнзіяй, ненадоўга задумаўшыся, што значыць “бізонны вакал”. Ручнік было лепей не пакідаць на міласьць пакаёўкі, каб не чытаць пра яго ўвечары ў скандальнай кроніцы. Можна пакласьці яго ў непразрысты пакунак і цішком выкінуць у сьменіцу дзесьці на вуліцы. Чарговы напамін пра чыёсьці няўдалае каханьне.

Яшчэ ня скончыўшы спагадліва-неабавязковай фразы, яна ветліва пераступіла цераз мяне і пайшла да вакзальных дзьвярэй, а я, прыўзьняўшыся і стаўшы на карачкі, доўга поўз усьлед за ёй, нешта выхрыпваў, ажно пакуль не зьвярнуў на сябе ўвагу таўстуна-паліцэйскага.

Пэрсоны пачынаюць множыцца

Я адкінуў назад свае даўгія валасы і спрактыкаваным рухам абняў яе за пругкую талію, абцягнутую скурай. Наўзаем адчуў даўгія пазногці на сваіх валасатых грудзях.

Там я ўпершыню пакаштаваў лёдава зь вішнёвым напаўняльнікам. Досыць смачна, але... усё гэта хімія.

Я пачухаў лысіну і вырашыў прасыгналіць яшчэ раз, спадзеючыся, што мне, усё ж, адчыняць. Але створкі жалезнай брамы заставаліся непарушнымі, я ўжо нават ня ведаў, што рабіць з грузам і тымі загадзя запоўненымі накладнымі. І навошта яны так сьпяшаліся?

Я ніколі не любіла Някедава, за выключэньнем хіба што песьні пра серую таску, ды і тое хіба раз на год у “Блакітным агеньчыку”. А станік у той дзень мне й сапраўды моцна муліў.

Я спусьціўся паверхам ніжэй, патэлефанаваў яму ў дзьверы і сказаў: “Ды ня трэба мне нічога казаць, змоўкні ты, урэшце рэшт. Вось вазьмі проста і змоўкні! Я хачу спаць, проста спаць!”

Я высмаркнуўся, затым выцер нос і застыў у нерухомай паставе. Гэта было самае невыразнае з усіх “я”.

Маньцёр Гібрыеў і тав. Айматава адсутнічаюць тут з паважнай прычыны: першы ўзяў адгул за майскія, а другая выпадкова апарыла сабе сьцягно.

У гэты момант я чамусьці згадаў, як разам з тагачасным прыяцелем Міцям мы выправіліся на ягонае лецішча. Піва ў краме нам не прадалі, і давялося накінуць алкашу на чарніла, каб ён нам узяў. Мы хацелі прыхапіць з сабой яшчэ і Віцю, у яго была гітара. Прыехалі да яго ў Серабранку, а Міця, ён нумар дома памятаў, а кватэру – не. Званілі наўгад у розныя кватэры, пыталі пра Віцю, але так і не знайшлі. Паехалі безь яго. Было лета, пустыя вуліцы, красоўкі “Ліда”.

Ну, канфлікты, яны... ў нашай бандзе, вядома, здараюцца, ну, мы ж людзі, а не легенды. Але... павер, май хані, нас аб’ядноўвае адзін дух, мы нават пахнем аднолькава. Ты ня верыш? Давай праспрабуем. Добра, гэта жарт, ня трэба бянтэжыцца. Лепей прытулі сваю бялявую галоўку да

майго сэрца, і ты сама пачуеш гэты рытм рокэнролу.
Але аднойчы вось зда
Тая клейкая ілжэматэрыя, што бруіцца знутры мяне.

Скрыгат дзьвярэй, што вось-вось будуць зачыненыя ўжо назаўсёды, і цемра вонкавая пачынае гусьцець, месіва ілжэматэрыі набывае форму, яно спараджае антрапаморфныя фігуры, і пачынаецца вясёлы карнавал. Скокаў зайка на палянцы, запрашаў блядзей на танцы.

Сто сорак шосты быў як звычайна ў такі час не прабіцца, і мой партфэль стаў перашкодаю для дзьвярэй, калі яны са скрыгатам зачыняліся. І тады я выпадкова зачапіў сваімі акулярамі яе ножку ў панчошцы, а яна, не азіраючыся. У мяне ж былі думкі толькі пра заплянаваны працэнт павялічэньня. Потым трэба было трохі прыпусьціць, каб не спазьніцца да восьмай.

Скрыгат дзьвярэй, што вось-вось будуць зачыненыя ўжо назаўсёды, і статуі ў сквэры імя Фройда ажываюць, і з пунцовага неба точыцца зубны сіропчык, і маньцёр Гібрыеў адрыгвае вільготныя цельцы, і дзьверы ўжо вось-вось зачыненыя, і цела сьмерці становіцца пухнатым бы Карлсан, яно набракае бы кінуты ў лужыну плюшавы бобік, расьце бы ракавая пухліна, ты адчуваеш яго невыносны цяжар, ты прачынаешся пасярод ночы ў пустой пачакальні і гэты трэмар, і зуб на зуб, і туравы аўтобус яшчэ варушыць сваімі коламі ў яры, а ў тваім роце прысмак ад учорашняга халадца, і на апошнім канцэрце, пад роў гітары зу, а заўтра ізноў гэтыя лічбы

Ахвотна гатовы перадаць прывітаньне вашым тэлегледачам, а што хацелася б параіць... Думаю, трэба проста верыць у сябе, быць моцнымі і never mind the bollocks. Дзякуй вялікі за ўвагу, да пабачэньня. Усяго найлепшага, да пабачэньня! Хэй, гайз, да пабачэньня.

Скрыгат дзьвярэй, што вось-вось будуць зачыненыя ўжо назаўсёды. Калі згасаюць страбаскопы і запальваюцца абрыдлыя пеналы дзённага сьвятла. Калі эмоцыі вычарпаныя, калі ад смаку ежы засталося адно буркатаньне ў страўніку. Калі прыбіральшчыца зьбірае ў купу сьляды карнавалу. Калі ў тваім роце сушыць, і апошні ўчорашні фантом без разьвітаньня грукае дзьвярыма...
І д’ябал трасе пшаніцу ў рэшаце сваімі мэтадычнымі ўпэўненымі рухамі.7

**Заслона, у ідэале нават пажарная**

Восень у парку атракцыёнаў, амаль пустыя арэлі, кроплі вады на плястмасавых крэслах, каштаны і нават яблыкі, якія тут ніхто не зьбірае. І лісьцікі падаюць, перасякаючы шэрае неба, адвольна кладуцца сабе на шэры асфальт. Напэўна, у гэтым ва ўсім няма граху і фальшу.
Мая праца – двойчы на дзень адчыняць вялізную клетку з рознымі экзатычнымі птушкамі – вялікімі, жоўтымі, даўгадзюбымі, маленькімі, а таксама проста папугайчыкамі, — даваць ім есьці і трохі зялёнай травы ды перадухіляць непажаданыя полавыя стасункі. Птушкі верашчаць, ледзь толькі мяне заўважыўшы, і гэта адзін з рэдкіх тут гукаў, якія ўдала акцэнтуюць цішыню.
Я не люблю птушак — ну, хутчэй, проста іх не разумею, — але выконваю сваю працу ахвотна.

# VII. Утылізацыя

Дзея адбываецца ў XIX стагодзьдзі, у нейкай аддаленай ад буйных цэнтраў правінцыі. Гылоўны герой — дон Пабла, буйны плянтатар з крывькадушна-мудрай усьмешкай і сільнасьцю да спадніцаў і махіта. Ятеоная дачка Віёла закаханая ў мулата-раба, які працуе на суседняй плянтацыі. У той ааамы час, яе прыхільнасьць ужо каторы месяц марна шукае дон Габрыэль Куантэс, буйны землеўлпрдальнік досыць сталага веку, чые амурныя прыгоды каштавалі яму ампутацыі аднаго яечка. Менавіта апошняя падзея і натхніла яго на думку ажаніцца.

Замкі, пабудаваныя зь пяску, не перажывуць наступнае хвалі.

Віёла хітрасьцю намаўляе бацьку выкупіць Лявонсія ў суседзяў і зрабіць яго ўласным нгастаўнікам танца. Лявонсія пркпсьвячае ёй цудоўныя радкі, напісаныя александрыйскім вершам (у перакладзе А.Х.). Каханьне хутка знаходзіць узаемнацрсьць, але ж тут падступная гувэрнантка Лючыя — якая таксама паклала на Лявонсіё свой погляд (*мабыць, вока? – **Рэд.***), але ж была ім рашуча адрынутая — распавядае пра гэпыя не адпаведныя сацыяльным канвэнцыям пачуцьці дону Пабла. Натуральна, той быў разьятраны — ён ужо надумаў выдлаць дачку за Габрыэля Куантэса, у валоданьні якога быў найлепшы ў воблюласьці заводзік па вытвоуерчасьці махіта. Парадніцца з уласным рабом ён, зразумела ж, зусім ня прагнуў.8

Закопваючыся, быццам яшчаркі, у пясок.

Закаханыя адважваюцца на рызыкоўны плян — уцёкі. Аднак Лючыя няспынна цікавала за сваёй гаспадыняй і загадзя ўведала пра гэтыя намеры. Вядома, яна ўсё распавяла гаспадару плянтацыі. І ў тарантасе, які меўся адвесьці закТаханых ў вызваленую ад рабства Паўночную Амэрыку (*гэтая фраза падрэсьлена рэдактарам тлустым чырвоным маркерам*), іх ужо чакаее дон Пабла са сваім заўсёднюым келіхам махіта.

Пабачыўшы, што іх рызыкоўны плян паяцрпеў фіяска, і ўжо праз пару імгненьняў закаханыя будуць назаўсёды разлучуаныя, Віёла і Лявонсія выпіваюць атруту, падрыхтаваную адмыслова на выпадак правалу.

Лючыя зларадствуе. Увайшоўшы ў давер да дона Пабла, яна цяпер спадзяецца ахамутаць яго і дапбіцца павышэньня службовага акладу (*падкрэсьлена чырвоным*). Але ж гувэрнантка ня ведала, што атрута, дамяшаная закаханымі ў нейкі газаваны напой (*ізноў падкрэсьлена*), насамрэч, не зьяўляецца сьмяротнай. Бабуля-знахарка адкрыла Лявонсія сакрэт адмысловага настою, які дазваляе імітаваць поўнрае спыненьне жыцьпfцядзейнасьці арганізму без усялякай шкоды для здароўя.

*Практыкаваньне № 1. Сядзь роўна, пастарайся, па магчымасьці, расслабіцца. Дыханьне павінна быць спакойным, разьмераным. Зараз у тваю галаву самі сабою пачнуць лезьці нейкія думкі. Назірай за імі – як безэмацыйны навуковец, які акунае жабак у кіслату і фіксуе вынікі вопыту ў адмысловым журнале. І ты зразумееш, што мыльная опэра – гэта яшчэ ня самы абсурдны і банальны жанар на сьвеце.*

Дон Пабла плача п’янымі сьлязьмі, але ўсё ж, на параду Лючыі, ён рупіцца пра тое, каб зацягнуць целы закаханых у ~~сьвіраон з саломай~~ (*закрэсьлена рэдактарам*), падалей ад стпарнгьніх вачэй. Потым, дапіўшы з гора келіх махіта, ён зь Лючыяй скіроўваюцца у спачывальню — нібыта дзеля таго, каб памазаць зялёнкай прышчык на носе, які дон Пабла разньдзёр сабе ў парыве эмо7цкый.

Струмень фантомаў, зь якога цяжка нават высунуць галаву, каб глытнуць паветра.

Праз пару гадезінаў Лявонсіё і Віёла ачунялі, і цяпер перад тым, як уцячы, закаханыя

вырашылі адпомсьеціць Лючыі. Самы час выявіць пастышны характлар сюэту, насыціўшы банальны ход падзеяў элемэнтамі інтэлектуальнага сьцёбу. Але раптам неба набывае ненатуральную чырвань, а потым на ім зьяўрляюца фігуркі парашутыстаў. Па вялікім рахунку, яны павінны былі б пакысе набліжацца да зямлі. Прызвычаеныя да дзівосаў мантажу, мы чакаем, што палдеі будуць дразьвівацца нават хутчэй, чым таго вымагае закон прыцягкненьня. Аднак парашутысты завісаюць у паветры. Параушутысты хзаісабць ук паверы.

Неўзабаве ўсё спыняецца. Дон Пабла застывае з поўнай шклянкай махіта ў правай руцэ, прычым у ягоных вачах выразна прачытваецца прадчуваньне асалоды ад чарговага каўтка гэага пойла. Гувэрнантка Лючыя акурат расшпільвае карсэт: ужо праз ігненьне сукенка павінна была апасьці долу, агаляючы па-лацінаамэрыканску загарэлую сьпіну. Але ж тонкая тканіна, якую болейанічога не трымае на целе, так і засталася непварушнай – ні тое ні сёе. Віёла ўсё яшчэ адорвае свайго каханага захопленым натхнёным позіркам, а ягоны загрыміраваны твар аддае васкавым глянцам.

Усё нязначнае кудысьці зьнікае.

Разівіцьця далейшых падзей чакаць ужо не выпадае. Целы і рухі існуюць як бы самі па-сабе, вылучаныя з усіх магчымых кантэкстаў – гістарычных, культурных ды проста сэнсавых, — і таму непалуладныя для далейшай вэрбалізацыі. Дзьве постаці паволі прасоўваюцца ў важкім, згусьцелым, жэлепадобным паветры.

Вечарэла. Маўчаньне пакрысе згушчалася, набывала колер і вагу, застывала, бы халадзец, і нашым нехлямяжным целам боўтацца ў ім было ўсё цяжэй і цяжэй. Я падняў галаву, схіленую толькі што па-над сталом, і тым самым нібы адчыніў браму ў гэтае неабсяжнае птушынае валадарства. Краявід, убачаны зь невялічкай узвышанасьці, поўніўся сьвежым зяленівам травеньскага лісьця. Гэта былі дразды, шчыглы, салаўі але зусім не куняўкі і лябуркі. Пошчакі даносіліся адусюль, ствараючы дзівосную поліфанію.

Маё веданьне птушынай мовы, на жаль, амаль ніякае. Да таго ж, птушкі ня ўмеюць гаварыць. Яны проста *ёсьць*. Як ёсьць дзеці.

Таму неабходна зрабіць паўзу. Хай за мяне лепей прамаўляюць птушкі.

*Дзеці ўнутры нас* ці могуць уваскрэснуць?

Бабілёнскія вежы, збудаваныя на пяску, не пераажывуць наступнае хвалі.

Усё спынілася. Разівіцьця далейшых падзей чакаць ужо не выпадае. Мы з трохгадовым сынам рушым да руінаў вялізнага гмаху – няцянькі, па ледзь прыкметнай сьцяжынцы.

К а н т э к с т ы к а р п т э к с і т ы к а н т д ж э к с ы к а н п р э к с ы а н э к с ы к а н т э а с і ы к і ы ь л в д к а т э к с о ы к а н т л а ь ы в е ы і т э к с в р п а м п э р с ы

Раптам Рафаэль, ня могучы ўстрымацца, кашлянуў. Ён тут жа зьбянтэжана зморшчыўся, і неўзабаве выраз ягонага твару ізноў набыў такі самы летуценна-разгублены выгляд, як і хвіліну таму. А страўнік Віёлы, як назло, выдаў у гэты момант міжвольныя гукі.

Усё спынілася. Разівіцьця далейшых падзей чакаць ужо не выпадае. Целы, рухі, краявіды, будынкі, дрэвы існуюць як бы самі па сабе, вылучаныя з усіх магчымых сэнсавых кантэкстаў, і таму непалуладныя далейшай вэрбалізацыі. Гісторыі больш не існуе. Мы з трохгадовым сынам рушым па ледзь прыкметнай сьцяжынцы ў бок руінаў старога дома. Нашыя абрысы кантрастна вылучаюцца на тле ненатуральна-яркіх колераў захаду – неба бывае такім толькі пасьля

навальніцы.

Дах гэтага гмаху даўно абваліўся, гэтаксама, як і купал. Непасрэдна ўнутры, спасярод пазелянелага ад вільгаці бэтону, ужо пасьпелі вырасьці ладныя дрэўцы. Спаміж парэшткаў муроў праглядаюцца нейкія няўцямныя для нас паржаўленыя прыстасаваньні.

Ад лёгкага павеву ветрыка дрэвы зьлёгку пагойдваюцца. Мой сын распачынае сваю чарговую гульню, запрашаючы мяне да яе далучыцца.

Тым часам, неба над морам спакваля сьвятлее. Пачынаецца новы дзень, і я шчыра дзякую за яго Госпаду.

1 Рэфрэн песьні “Joy Division” “Выстава зьверства”. Можа ўспрымацца і як запрашэньне на ўяўную выставу, пра якую ў ёй вядзецца (“Вам сюды, захозьце”), гэтак як і заклік “зрабіць крок унутар” – дзе цікаўнага рэцыпіента, без сумневу, будзе чакаць сапраўдная “выстава зьверства”.

2 Ігрыд заўсёды разумела, што яна ня вартая асобнай гісторыі. Але затое займела здольнасьць неспадзеўкі, бы Піліп з канапель, зьяўляцца ў гісторыях чужых людзей – зусім ненадоўга мільгаючы перад вачыма і зноў зьнікаючы ў невядомым кірунку, быццам цень альбо прывід.

3 Толькі частка чалавека (анг.).

4 Часткі, выдзеленыя курсівам, — цытаты зь Вялікага пакаяннага канону сьвятога Андрэя Крыцкага (IV ст.). Пераклад на беларускую мову а.Аляксандра Надсона.

5 Маё імя Жанна. Калі ласка, называй мяне проста Жаннай (анг.).

6 Фрагмэнт аднаго з практычных дапаможнікаў па BDSM.

7 “Князь гэтага сьвету ўстрывожвае ўсялякую душу, не народжаную ад Бога, і ў розныя спосабы ўзрушвае чалавечыя думкі, прыводзячы іх у бязладнае хваляваньне і ўлоўліваючы плоцкімі задавальненьнямі, страхамі і зьбянтэжанасьцю -- падобна пшаніцы, што несупынна круціцца ў рэшаце” (Сьв. Макарый Вялікі)

8 Насамрэч, вядома, сюжэт меўся быць больш адаптаваным да сучасных рэаліяў. Гэта гісторыя каханьня двух байкераў да адной стрыптызёркі (між іншым, актывісткі Таварыства беларускай асьветы). Яна пачынаецца з забойства – загадкавага ды вельмі жорсткага. А сканчаецца трагічна – бо хэпі-энды людзям ужо прыеліся. Але гэты сюжэт я ўжо пасьпяхова прадаў у адно камэрцыйнае выдавецтва і болей ня маю юрыдычнага права яго выкарыстоўваць. Давялося задаволіцца адыходамі вытворчасьці, якія так ніхто й не купіў.

